ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

26 верасня 1997 г. № 39/3915 Кошт 3 000 руб.



**"А МЫ ЎСЁ БУДУЕМ САЦЫЯЛІЗМ"**

*Агляд рэдакцыйнай пошты*

**4**

**ШЛЯХ ДА ХРАМА — СВАБОДНЫ**

*Мар'ян ДУКСА: "Эпоха бязбожжа, што распачалася ў 1917 годзе, не магла існаваць доўга, тым больш вечна. Па сваёй глыбіннай сутнасці яна была фальшывай, антычалавечай, бо забівала, нішчыла аб'ектыўную цягу большасці людзей да Бога".*

**5**

**КАРАБАС-БАРАБАС У ФУНКЦЫІ КАРАМЗІНА**

*У рубрыцы "Бліц-крытыка" — меркаванні пра творы Вітаўта ЧАРОПКІ*

**7**

**НОВЫЯ ВЕРШЫ**

*Васіля САХАРЧУКА, Васіля ЖУКОВІЧА і Станіслава ВАЛОДЗЬКІ*

**8—9**

**ВЯСЕЛЬНЫ КАСЦЮМ**

*Апавяданне Міколы СЯНКЕВІЧА*

**9**

**АДЗІНАЯ ПАЛІТНОЧ**

*Старонкі з кнігі Аляксандра ЛУКАШУКА "Перад свабодай. Нататкі перабежчыка".*

**13**

**ЯШЧЭ АДНА ЗАГАДКА XIX СТАГОДДЗЯ**

*Язэп ЯНУШКЕВІЧ пра невядомыя беларускія вершы*

**16**




*Фотапартрэт Барыса Луцэнкі работы В. Ганчарэнкі*

# Гэта і ёсць поспех

Колькі гадоў творцу? Трыццаць? Шэсцьдзесят?

Якое гэта мае значэнне... Яму столькі гадоў (і столькі жыццяў!), колькі ён пражыў разам са сваімі героямі, або ў саміх іх, героях, іхніх лёсах, пошуках, часам амаль цалкам атаясамліваючыся з імі. А часам як бы ўздымаючыся, каб угледзецца і ўбачыць новае, схаванае ў абалонку жыцця, як у кокан шаўкапрада.

Апошні раз новы (адноўлены) спектакль Барыса Луцэнкі "Браты Моор" па матывах шылераўскай прозы і яго славутай драмы "Разбойнікі" я глядзела ў чэрвені гэтага года ў Манхайме, на Шылераўскіх днях-97.

Прыехаўшы ў Манхайм загадзя, гадзіны за чатыры да пачатку спектакля, я пайшла блукаць па вялізным тэатры (трохі меншы за наш Оперны, але больш утульны і светлы) у пошуках Барыса Іванавіча. Наверсе ішлі тэатральныя чытанні, у кафэ сядзелі артысты з Гановерскага дзяржаўнага тэатра.

— Луцэнка? Беларусь? Ён хутка прыйдзе, сёння ж у "Веркхаузе" ягоны спектакль! — успомніў адзін з іх.

— А вы будзеце яго глядзець? — асцярожна запыталася я.

— А мы глядзелі ўчора. Сёння ж — паўтор.

— Ну і як вам беларускі Шылер?

Час заставаўся, і не грэх было выкарыстаць яго для своеасаблівага інтэрв'ю, ды і ніжнесаксонскі дыялект трохі больш зразумелы, чымся баварскі. Але артысты гавораць не толькі словамі. І выраз іхніх твараў быў больш чым адабральны:

— Гэта добрая класіка, ад якой мы ў апошнія гады трохі адвучыліся...

...Спектакль ішоў доўга, але публіка, нямецкая частка якой не ведала рускай мовы (другая частка была з "былых" беларусаў і расіян, якіх прывяла настальгія і цікаўнасць да рускага тэатра), вельмі жыва рэагавала на ўсё, што адбывалася. І ў нейкі момант яна зрабілася якраз такою, якая прыходзіць на спектаклі Барыса Луцэнкі ў Мінску — паважліва-мяккай, як дзіцячы пластылін. Знікла ўнутранае супраціўленне (а можа, мне спектакль не спадабаецца?), аднаасобнасць (як у аркестры, адбылася нейкая агульная настройка).

І падумалася — чалавечае сэрца не мяняецца ні з гадамі, ні нават з тысячагоддзямі. Яму патрэбна бачыць, як на асялку Лёсу скрышыцца альбо ацалее чужое жыццё, і ў гэтым чужым жыцці знайсці нешта патрэбнае для сябе. А яшчэ неяк пранізліва-яскрава тут, у Манхайме, нанова ўбачылася тое, што вызначае асабіста для мяне Луцэнку-рэжысёра: уменне як бы звяраць асобнага чалавека ла нейкім агульным, можа, нават, касмічным хранометры, і тады спектакль нагадвае адну з карцін Далі, дзе лёсы-гадзіннікі паказваюць розны час, але нябачна ўсё ж пульсуе ў іх адно, агульнае, вельмі адчувальнае вымярэнне...

*(Працяг на стар. 3)*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Беларусы на сёлетнюю зіму ці не застануцца без бульбы. І не проста без бульбы — без "другога хлеба". За савецкім часам слова "Беларусь" і "бульба" сталі ледзь не сінонімамі, як, дарэчы, "беларус" і "бульбаш". І вялікая доля праўды ў гэтым ёсць: бо калі ў беларуса на стале няма бульбы, дык, здаецца, і есці няма чаго... Неўраджай бульбы, высокія цэны на яе — сталі сёння першапалоснай тэмай у беларускім друку. Прагнозы даюцца самыя змрочныя. Галоўнае, што не ўрадзіла бульба не толькі ў калгасах і саўгасах, але і на прысядзібных і дачных участках... Так, мяркуючы па ўсім, зіма бульбашоў чакае нялёгкая. Але няма тым не менш ніякіх сумненняў: як перажылі мы ўсе выпрабаванні, так перажывём і гэтае. Як і іншыя, для другіх нацый — смяротныя, а для нас проста чарговыя ў той чарадзе, што расцягнулася на стагоддзі...***

## *ВІЗІТ ТЫДНЯ*

Па дарозе ў Індыю прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка наведаў Казахстан — краіну, якая сярод былых савецкіх мела найбольшы клопат з некарэнным (рускамоўным) насельніцтвам, бо карэннае — складала меншую частку. Сёння Казахстан паспяхова вырашае нацыянальныя і моўныя праблемы і ўсё больш становіцца краінай казахскай. І ў гэтым сэнсе нам ёсць чаму павучыцца ў "нашых даўніх сяброў". Праўда, размова на сустрэчы двух прэзідэнтаў у асноўным ішла пра праблемы эканамічныя ды палітычныя. Але і тут Казахстан паказаў сваю цвёрдасць і ў адстойванні сваіх дзяржаўных і нацыянальных інтарэсаў, што б хацелася мець і нам... Што тычыцца візіту ў Індыю, дык на яго ўскладваюцца вялікія надзеі. Аграмадная ўсходняя краіна магла б і сапраўды стаць спажыўцом многіх беларускіх тавараў. Магла б, але ці стане? Памятаецца, шырокі розгалас мела паездка беларускай дэлегацыі ў Кітай, В'етнам і Карэю. Вынікі яе былі нібыта абнадзейваючымі. Называліся нават лічбы, колькі і чаго беларусы прададуць. Аднак сёння пра тое мала хто прыгадвае...

## *ЦЫТАТА ТЫДНЯ*

"Палітычная сістэма, якая склалася ў Беларусі, уяўляе выразны кантраст на фоне суседніх дзяржаў. Парламент, у якім няма апазіцыі, які прадстаўляе менш як палову насельніцтва краіны, нарэшце, частка якога апынулася за сценамі залы пасяджэнняў, — мае мала шанцаў на тое, каб быць прызнаным у Еўропе. Падзеі мінулага года гэта пераканаўча пацвярджаюць. Еўропа аддаляецца ад Беларусі. Можна цешыць сябе ўпэўненасцю ў тым, што геаграфічна яна нікуды не дзенецца, што без нашых камунікацый ні Захад, ні Расія не абыдуцца. Але еўрапейскасць — паняцце не толькі геаграфічнае..."

*(З артыкула Валянціна Жданко "Польшча: вяртанне "Салідарнасці", "Звязда", 23 верасня г.г.)*

## *КАНФЛІКТ ТЫДНЯ*

У Беларусі пачалі дзейнічаць новыя мытныя правілы. З 15 верасня ўсім "чаўнакам" за тавары, што ўвозяцца на тэрыторыю Беларусі, трэба плаціць падатак. Прычым, новыя мытныя правілы закранулі не толькі грамадзян Беларусі, але і ўсіх, хто хацеў праехаць па нашай тэрыторыі, і ў першую чаргу грамадзян Расіі, якая мае з намі агульную мяжу і адзіную мытную прастору. Увесь першы тыдзень дзеяння новых правілаў на беларуска-польскай і беларуска-літоўскай межах назіраліся хваляванні "чаўнакоў" і скапленні гружаных таварамі аўтобусаў і аўтамабіляў. Расійскі бок заявіў, што нічога пра беларускае новаўвядзенне не ведае, беларускі бок сцвярджаў, што паведаміў пра змены ўсім яшчэ некалькі месяцаў таму... Зараз, паводле паведамленняў мытнікаў, сітуацыя "нармалізавалася". Гэта азначае, што расійскія аўтобусы, якія ехалі з таварам з Польшчы, Германіі і г.д., павярнулі ў бок украінскай мяжы, а тыя, хто пераганяў аўтамабілі з Летувы, — паехалі праз Латвію... Грамадзяне ж Беларусі новыя падаткі плаціць будуць. Пакуль і яны не навучацца "аб'язджаць" іх...

## *АДГАЛОСКІ ТЫДНЯ*

Сёння спаўняецца два месяцы, як не сыходзіць са старонак газет, не пакідае экранаў тэлевізараў тэма арышту "групы П. Шарамета". Менавіта столькі часу ўжо знаходзіцца за кратамі П. Шарамет. Беларускія судовыя органы павінны былі ўчора, 25 верасня, прадставіць абвінавачванне П. Шарамету, аднак, паводле паведамленняў СМІ, тэрмін затрымання яго будзе падоўжаны яшчэ на месяц. Усе заклікі, звароты, просьбы аб вызваленні або змяненні меры стрымання П. Шарамета да беларускіх уладаў не маюць выніку, нягледзячы на тое, што гучаць яны ад самых уплывовых міжнародных арганізацый і дзеячаў. Вось, можа, каб папрасіў аб гэтым (як Адамчук і Завадскі) сам П. Шарамет... Але ён сябе вінаватым не лічыць і прасіць нікога ні аб чым, падобна, не збіраецца...

## *ЧУТКА ТЫДНЯ*

Незалежныя газеты ўпарта пішуць пра магчымую блізкую адстаўку міністра ўнутраных спраў Беларусі В. Агальца, хоць відавочных прычын для гэтага нібыта няма. Афіцыйны друк паведамленні гэтыя не абвяргае катэгарычна. Але і не пацвярджае. Чутка гэтая магла ўзнікнуць у сувязі з усебаковай праверкай, што прайшла ў структурах МУС і заслухоўваннем прэзідэнтам Беларусі справаздачы аб рабоце гэтага сілавога ведамства...

## *ВЕРСІЯ ТЫДНЯ*

Заўтра, 27 верасня, у дзень святкавання Уздзвіжання Святога і Жыватворнага Крыжа Гасподняга адноўлены берасцейскім майстрам М. Кузьмічом крыж Еўфрасінні Полацкай зойме сваё месца ў Свята-Уздзвіжанскім саборы Полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра.

У сувязі з гэтым у газетах зноў з'явіліся прадказанні розных экстрасенсаў адносна знаходжання сапраўднай святыні беларускага народа. Адны сцвярджаюць, што крыж зараз знаходзіцца ў Расіі, другія — у Германіі, а трэція — у Амерыцы. У адным, бадай, усе сыходзяцца: крыж не страчаны канчаткова і ў хуткім часе вернецца на Беларусь. Нечаканую версію надрукавала 23 верасня г.г. "Народная газета". Чытачцы з Бабруйска "голас" паведаміў, што крыж Еўфрасінні Полацкай, які быў скрадзены падчас Вялікай Айчыннай вайны, — падробка і хутка пра гэта даведаецца ўладальнік крыжа, што жыве ў Германіі, і будзе моцна расчараваны... Сапраўдны ж крыж знаходзіцца недзе на Беларусі, там, дзе і знакаміты "скарб Напалеона"... Аднак расказаць усю праўду пра гэта чытачка абяцала толькі А. Мальдзісу (так раіць ёй "голас"). Думаецца, Адам Іосіфавіч знойдзе час, каб пагутарыць з чытачкай "НГ". У свеце бывае ўсялякае...

ПАМЯЦЬ

# Як сімвал кахання...





20 верасня, у дні, калі ў нашай краіне адзначалася 85-годдзе з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Максіма Танка, на яго магіле, у ваколлі вёскі Пількаўшчына Мядзельскага раёна быў адкрыты помнік. Простая, але арыгінальная кампазіцыя з двух крыжоў, якія злучаны лаўровым вянком, увянчала магілу паэта і яго жонкі Любові Скурко. Архітэктар Ігар Марозаў і скульптар Анатоль Арцімовіч стварылі гэты помнік як сімвал кахання двух людзей, якія нарадзіліся ў адзін год у адной вёсцы, прайшлі разам праз усе жыццёвыя выпрабаванні і памерлі ў адзін год з розніцай у некалькі месяцаў.

На адкрыццё помніка з усіх куткоў Беларусі прыехалі сябры паэта, родныя і аднавяскоўцы. Аб таленце і чалавечых якасцях Максіма Танка гаварылі паэты Анатоль Вярцінскі, Мікола Аўрамчык, Алесь Пісьмянкоў, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч.

У гэты ж дзень вершы Максіма Танка, фрагменты дзённікаў і песні на яго словы гучалі на літаратурнай вечарыне, якая адбылася ў Мядзелі і была прысвечана 85-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай нацыянальнай літаратуры.

*Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛТА*

# Удзельнікам і гасцям

## ДРУГОГА МІЖНАРОДНАГА ТЭАТРАЛЬНАГА ФЕСТЫВАЛЮ "БЕЛАЯ ВЕЖА"

Сардэчна вітаю ўдзельнікаў і гасцей Другога міжнароднага тэатральнага фестывалю "Белая вежа", які ўжо другі раз праводзіцца на старажытнай, легендарнай зямлі Брэстчыны.

Сёлета фестываль шчыра і гасцінна запрасіў да сябе майстроў сцэны з Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Аўстрыі, Манголіі, Балгарыі і іншых краін свету. На працягу чатырох дзён артысты драматычных і лялечных тэатраў будуць весці з гледачом натхнёную, эмацыянальна ўзнёслую гаворку аб мінулым і будучыні, аб чалавеку: яго лёсе, яго вялікай адказнасці за свае справы на зямлі.

Упэўнены, што чароўная сіла тэатра, глыбокі жыццесцвярджальны пафас мастацтва аб'яднае ўдзельнікаў і гасцей фестывалю, уздыме іх думкі і пачуцці на новы ўзровень духоўнасці, пацвердзіць вечнае жаданне людзей жыць па законах хараства, сацыяльнай справядлівасці, гуманізму і дабрыні, а тэатральнае свята "Белая вежа-97" стане яшчэ адной яркай старонкай у развіцці агульначалавечай культуры, умацуе кантакты творцаў розных краін.

Жадаю фестывалю плённай працы і вялікіх поспехаў.

Добрага вам здароўя, дарагія сябры, шчасця, высокіх творчых дасягненняў.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА**

# Святкавалі і... танцавалі

У Гомелі, як вядома, тры дні было свята. Адзначалі 855-годдзе горада, 200-годдзе славутага паркавага ансамбля... Была й яшчэ адна святочная і вельмі сур'ёзная падзея, што гарманічна стасавалася з юбілейнымі гарадскімі імпрэзамі: Першы міжнародны фестываль харэаграфічнага мастацтва. Удалае імя далі яму арганізатары: "Сожскія карагоды". Сапраўды: у стракатых карагодах зблізіліся-пaядналіся і фальклор, і акадэмічнае мастацтва балета, і конкурсны бальны танец... Газетная статыстыка сведчыць, што ў святочных гомельскіх імпрэзах удзельнічалі прадстаўнікі паўтара дзесятка краін. Пра тое, чым былі адметныя "Сожскія карагоды", вы даведаецеся, пачытаўшы нататкі ў адным з наступных нумароў "ЛіМа".

АДГАЛОСКІ

# А як маеш грошы...

Звычайна для студэнтаў верасень не звязаны з асаблівымі цяжкасцямі: лекцый чытаюць мала, а практычныя заняткі яшчэ не пачаліся. Юнакі і дзяўчаты расказваюць пра свае вакацыі, настрой звычайна пануе добры...

Сёлета ўсё інакш. Многім студэнтам не да смеху і жартаў. Заклапочанасць, калі не паніку, выклікала зацвярджэнне рэктарам БДУ новага кошту навучання для кантрактнікаў. Згодна з загадам А. Казуліна ад 10 верасня гэтага года студэнты 3—6 курсаў павінны знайсці дадаткова яшчэ некалькі сотняў долараў. Раней, напрыклад, студэнт факультэта журналістыкі трэцяга курса штогод выплачваў 200 "зялёных". Зараз ён абавязаны "пакласці" ў бюджэт БДУ ўжо 560. Спецыяльнасці "паліталогія", "эканамічная тэорыя", "менеджмент" яшчэ даражэй. Год навучання тут каштуе да 700 долараў. Магчыма, некаму прыведзеныя лічбы ўяўляюцца малымі ў параўнанні з тымі грашыма, што пакідаюць сваім настаўнікам навучэнцы камерцыйных ВНУ. Але як можна параўноўваць фінансавыя магчымасці гэтых розных сацыяльных груп? Нават сённяшнія першакурснікі, якія вучацца на платнай аснове, знаходзяцца ў лепшым становішчы, чым студэнты старэйшых курсаў. Апошнія адразу ведалі пра астранамічныя кошты і з улікам гэтага могуць разлічваць на свае сілы. Студэнты ж 3—6 курсаў даведаліся пра ўсё раптам. Больш за тое, у першыя дні верасня многія паспелі заплаціць некалькі мільёнаў рублёў, якія ўжо не вернуцца ў сямейны бюджэт у выпадку спынення навучання. Можна, канешне, перайсці з "дзённага" на "завочнае", але ў дадзеным выпадку іншагароднія губляюць месца ў інтэрнаце і сталічную прапіску, а хлопцы трапляюць у войска. Фантастычнай уяўляецца і магчымасць зарабіць нехапаючую суму: апошні дзень аплаты — першага кастрычніка.

Можна забыць пра тое, што з кожным чалавекам БДУ на час вучобы заключыў дагавор (там фігуруюць зусім іншыя лічбы, чым у дакуменце ад 10.09.97), але нельга быць упэўненым, што новы кантракт будзе апошнім. Так, ужо сёння прарэктар па эканоміцы і камерцыйных пытаннях С. Векша заяўляе, што навучанне студэнта абыходзіцца дзяржаве ў суму да 1500 долараў у год, а названыя вышэй лічбы датычаць толькі бягучага 97—98-га навучальнага года. На магчымае павышэнне аплаты скіраваныя і ўнесеныя прэзідэнтам Беларусі змяненні ва ўказе N 320. Згодна з гэтымі змяненнямі "кошт платнага навучання ў дзяржаўнай ВНУ не павінен перавышаць фактычных затрат на падрыхтоўку спецыяліста". У першапачатковым выглядзе было запісана: "...не павінен перавышаць 50 мінімальных заробкаў". Адчуваеце розніцу!! Указ N 320 быў падпісаны 23 жніўня 1996 года. Крыху пазней, І лістапада, універсітэт святкаваў сваё 75-годдзе, з канцэртам "зорак" расійскай і беларускай эстрады, з феерверкам. Здавалася, не шкадуе дзяржава грошай для сваёй моладзі. А пятага лістапада з'явіліся змяненні ва ўказе N 320... Гэтага не ведалі студэнты-кантрактнікі. Да верасня 97-га было яшчэ далёка.

Зразумела, што на выплату заробкаў выкладчыкам, паляпшэнне тэхнічнай базы старэйшай ВНУ краіны патрэбны сродкі, але нашто ж знянацку ствараць для студэнтаў драматычную сітуацыю? Навошта было казаць, як гэта казалася яшчэ ў маі, што чуткі пра павышэнне аплаты — хлусня?

Зараз маладыя людзі збіраюць подпісы пад зваротам да рэктара з просьбай перанесці час аплаты, пададзена заяўка на пікетаванне універсітэта і г. д. Ва ўладаў, дарэчы, з'явілася варыянтная магчымасць: ці адмяніць рашэнне і тым самым падняць свой рэйтынг у студэнцкім асяродку, ці свядома вырошчваць у ім апазіцыю.

**Вадзім ДОЎНАР**

ІМПРЭЗЫ

## Народная культура цікавая ўсім

23 верасня ў нашай краіне адбылося адкрыццё VI Еўрапейскай канферэнцыі Міжнароднай арганізацыі па народнай творчасці ІОV. Арганізатарамі канферэнцыі, якая ўпершыню пройдзе ў нас, акрамя ІОV, з'яўляюцца Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Беларускі інстытут праблем культуры. У складзе ІОV — 127 краін свету, дзейнасць гэтай арганізацыі скіравана на вывучэнне і захаванне традыцыйнага мастацтва. Правядзенне падобнага форуму на Беларусі мае надзвычай важнае значэнне для нашай краіны. У канферэнцыі бяруць удзел прадстаўнікі пятнаццаці краін — Аўстрыі, Арменіі, Беларусі, Бельгіі, Балгарыі, Германіі, Грэцыі, Італіі, Кіпра, Малдовы, Нідэрландаў, Польшчы, Партугаліі, Расіі, Украіны. Навуковымі кіраўнікамі канферэнцыі з'яўляюцца рэктар Беларускага інстытута праблем культуры Уладзімір Скараходаў, Генеральны сакратар Міжнароднай арганізацыі па народнай творчасці Аляксандр Вейгл (Аўстрыя), старшыня камісіі па навуцы ІОV Мечыслаў Марчук (Польшча). Канферэнцыя праводзіцца на базе Рэспубліканскага спартыўнага комплексу "Раўбічы". Для ўдзельнікаў арганізаваны выставы беларускага народнага касцюма і інструментаў, сустрэчы з народнымі майстрамі, знаёмства з аўтэнтычным народным мастацтвам і выступленнямі вядомых беларускіх калектываў, паездкі ў музеі. Сярод дакладчыкаў з беларускага боку — міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, навукоўцы Яўген Сахута, Зінаіда Мажэйка, Анатоль Фядосік, Уладзімір Скараходаў, Аляксандр Лойка, Васіль Ліцьвінка і іншыя. Агульная тэма канферэнцыі — "Народная культура ва ўмовах сучасных перамен у розных рэгіёнах Еўропы".

АНОНС

## Цымбалы з усяго свету

Пра тое, што цымбалы як народны музычны інструмент шануюць не толькі на Беларусі, мы даведаліся не зараз. Як даведаліся і пра тое, што досыць стракатае сусветнае цымбальнае сямейства ўсё больш упэўнена падае свой голас на прафесійнай акадэмічнай музычнай сцэне. І ўсё ж — для многіх яшчэ застаецца дзівам, што свае цымбалы ёсць у славакаў і кітайцаў, у венграў і англічанаў, у германцаў ды аўстралійцаў. Бо далёка не да кожнага дайшла тая пазнаваўчая інфармацыя, якою пару гадоў таму падзяліўся слынны беларускі цымбаліст, прафесар Яўген Гладкоў, пабываўшы на Сусветным кангрэсе цымбалістаў і пазнаёміўшыся з прэзідэнтам Сусветнай цымбальнай асацыяцыі Вікторыяй Херэнчар. І далёка не кожнаму выпала пабываць на канцэртах і майстаркласах гэтай славутай венгерскай артысткі, якія ладзіла яна ў Мінску, у Магілёве, на пастаўскім фестывалі "Звіняць цымбалы і гармонік".

Аднак неўзабаве, напэўна, большасць з нас ужо трывала засвоіць, што беларускія цымбалы — не самотнікі ў свеце, што цымбалы — не архаічны спадарожнік вясковых гулянак і не атрыбут этнаграфізму, а годны канцэртны інструмент, які выйшаў з народа, як некалі, напрыклад, скрыпка, які вымагае ад выканаўцы віртуознай тэхнікі, здатны ствараць самабытныя, тонкія, складаныя і разнаітыя гукавыя вобразы і ўзрушваць слухацкае ўяўленне.

Цымбалісты з усяго свету з'язджаюцца ў Магілёў, дзе з 1 па 4 кастрычніка пройдзе іх чарговы кангрэс. Канцэрты, навуковыя дыскусіі, творчыя сустрэчы, асветніцкія гутаркі з удзелам прадстаўнікоў Беларусі, Славакіі, Венгрыі, ЗША, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, — амаль паўтара дзесятка краін... Праграма кангрэса мае быць насычаная і цікавая не толькі для спецыялістаў.

**С. Б.**

ЗВАРОТ

## У імя ратавання жанчыны

Свабода і ратаванне... Пад гэтым знакам любові і міласэрнасці першая ў Беларусі міжнародная жаночая арганізацыя Усебеларускі жаночы фонд Святой першаасветніцы Еўфрасінні Полацкай, звяртаецца да ўсіх "уладу трымаючых", да кожнага сумленнага чалавека: скіруйце свае позіркі на тых, каму патрэбна дапамога, асабліва тых, хто знаходзіцца ў зняволенні. Ёсць за кратамі і жанчыны, адна з іх — Тамара Віннікава — у свой час узнагароджвалася медалём нашай арганізацыі за спрыянне хрысціянскай справе. Цяпер яна, знаходзячыся за кратамі доўгія месяцы, даведзена да псіхічнага і фізічнага крызісу.

Выказваючы пратэст супраць гвалту над асобай і жыццём жанчыны, над святым іменем маці ў дні народзін Найсвяцейшае Уладычыцы нашай Багародзіцы, мы заклікаем быць міласэрнымі і справядлівымі да ўсіх жанчын, што пакутуюць і стаяць на парозе смерці.

Наша слова — да ўладных структур і суддзяў, ад каго залежаць жыцці многіх іншых людзей. Ці не час успомніць, што над усімі намі ёсць яшчэ і Вярхоўны Суддзя. Ды ўбаімся справядлівага гневу яго!

Наша слова — да Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Экзарха ўсяе Беларусі уладыкі Філарэта. Наша спадзяванне — на яго моцнае заступніцтва.

Наша слова — да святароў усіх канфесій, да ўсіх вернікаў.

Наша слова — да Прадстаўніцтва ААН у Беларусі, прадстаўнікоў ЮНЕСКА, пасольстваў і консульстваў, дзейнасць якіх скіравана на садзейнічанне ідэям міратворчасці, на абарону правоў чалавека дзеля пабудовы ў Беларусі адкрытага грамадства.

Наша слова — да ўсіх незалежных арганізацый, у тым ліку жаночых, да тых дзяржаўных устаноў, чые памкненні скіраваныя на мацаванне законаў Справядлівасці і абарону правоў чалавека ў імя пабудовы вялікага міласэрнага міру, у імя перамогі законаў Боскае Любові.

**Валянціна КОЎТУН,**
**прэзідэнт фонду Святой Еўфрасінні Полацкай, член Саюза беларускіх пісьменнікаў, член Саюза пісьменнікаў Украіны, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова,**
**Марыя ЗАХАРЭВІЧ,**
**віцэ-прэзідэнт фонду, народная артыстка Беларусі ,**
**Святлана АЛЕКСІЕВІЧ,**
**пісьменніца, лаўрэат міжнародных прэмій,**
**Святлана БЯСТУЖАВА,**
**адказны сакратар Каардынацыйнага Савета жаночых арганізацый Беларусі**

ЮБІЛЕІ

## У Палаце кніжнай...

75- гадовы юбілей адзначае не толькі Нацыянальная бібліятэка Беларусі, а і Нацыянальная кніжная палата. Яны абедзве, як кажуць, дзеці адной маці: у 1922 годзе была ўтворана аб'яднаная Беларуская дзяржаўная і універсітэцкая бібліятэка з Беларускай кніжнай палатай. Ды якому "дзіцяці" не хочацца самастойнасці?! Паступова Палата набыла самастойнасць, але пры гэтым "не забылася" і пра Беларускую дзяржаўную бібліятэку, і пра іншыя бібліятэкі — куды меншыя, але такія патрэбныя ў наш час інфармацыйнага буму, ды і пра ўсіх, хто звязаны з друкам, бо Кніжная палата — гэта...

Найперш — аснова, на якой развіваецца бібліяграфічная дзейнасць. На сённяшні дзень у Кніжную палату паступаюць абавязковыя экземпляры ўсіх друкаваных выданняў на тэрыторыі нашай краіны — кнігі, брашуры, часопісы, газеты, выданні выяўленчага мастацтва і картаграфічныя, паштоўкі, ноты, буклеты...

Абавязковы экземпляр — гэта па сутнасці вечнае захоўванне кожнага выдання. Пры паступленні ў Палату яно праходзіць бібліяграфічную апрацоўку і трапляе ў архіў друку — з часу ўтварэння гэтай установы па сённяшні дзень ён налічвае каля трох з паловай мільёнаў адзінак захоўвання. Зразумела, гэтае багацце не для шырокага карыстання, тым не менш матэрыялы архіва добрая падмога тады, калі ўзнікае патрэба перавыдаць рэдкае выданне, пры правядзенні даследаванняў, што тычацца гісторыі кнігі.

Але бібліяграфія — гэта не толькі рэгістрацыя, а і шырокае інфармаванне пра ўсе гэтыя выданні, што адбываецца праз розныя паказальнікі (цяпер іх 10). Старэйшы з іх — "Кніжны летапіс", выдаецца з 1924 года. Штогод у ім налічваецца больш як паўтары тысячы бібліяграфічных запісаў.

Выдае Палата і штогоднікі: "Паказальнік бібліяграфічных дапаможнікаў Беларусі..." выходзіць з 1978 года, а "Кнігі Беларусі" — з 1984-га. У ім значацца кнігі і брашуры, зарэгістраваныя на працягу года. Колькасць запісаў набліжаецца да дзвюх тысяч.

І, канечне, нельга не згадаць рэтраспектыўныя паказальнікі — "Паасобныя выданні на беларускай мове. 1835—1916", "Выданні на беларускай мове. 1917—1924", "Выданні на рускай, польскай, яўрэйскай мовах. 1917—1924" і іншыя, а таксама прысвечаныя перыядычнаму друку, у тым ліку і такі паказальнік, як "Падпольныя перыядычныя выданні на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны"...

Ёсць у Кніжнай палаты і іншыя аспекты дзейнасці, у прыватнасці, звязаныя са стварэннем даведачна-бібліяграфічнай, навукова-тэхнічнай інфармацыі і стандартызацыі. З прыняццем у чэрвені 1993 года беларускай кнігі ў сусветнае супольніцтва — Міжнароднае агенцтва па стандартнай нумарацыі кніг ISBN — Палата пачала выконваць функцыі Нацыянальнага агенцтва па стандартнай нумарацыі кніг у Беларусі.

Дружны калектыў, які ўзначальвае А. Варанько, робіць усё, каб і надалей заставацца сапраўдным летапісцам нацыянальнага друку.

## Гэта і ёсць поспех

(Працяг. Пачатак на стар. 1)

Можа, якраз гэтага шукала — і па сёння яшчэ больш настойліва — шукае ў яго спектаклях публіка?

Чалавек у экстрэмальных абставінах — жаданая тэма для любога мастацкага твора, у тым ліку і для рэжысёра. Можа, таму рэжысёр Луцэнка ахвотна браўся за творы беларускай драматургіі і прозы. Да ягонага юбілею можна было б проста пералічыць ягоныя працы: "Рудабельская рэспубліка" па С. Грахоўскім, "Раскіданае гняздо" Я. Купалы, "Апошняя інстанцыя" М. Матукоўскага, "Вяртанне ў Хатынь" А. Адамовіча, "Пайсці і не вярнуцца" паводле В. Быкава, "Зацюканы апостал" А. Макаёнка. Ён тварыў па беларускай літаратуры — але яна, літаратура, тварыла яго самога, перарабляючы ў Майстра, які, мабыць, пераехаўшы ў любое месца, застаўся б перш за ўсё беларускім рэжысёрам.

Можа, ад таго пошук "разарванай душы двух братоў" Моораў, як выказваўся аб спектаклі нямецкі друк, быў і пошукам беларускай душы, якую гістарычныя нягоды ўвесь час разрывалі напалам. "Брат паўстаў на брата" — гэтае страшнае біблейскае прароцтва не раз ажыццяўлялася ў нас, — пачынаючы ад жахлівага семнаццатага па сённяшняе, дваццатае стагоддзе. Гэтая тэма — ягоная, "луцэнкаўская". Можа, ад таго і стаў адным з лепшых спектакляў "Зацюканы апостал", душа якога таксама гатовая разарвацца напалам... Шмат гадоў прайшло з часу гэтай пастаноўкі на Беларускім тэлебачанні, і шкада, што даўно не паўтаралася яна на экране, каб можна было нанова асэнсаваць, што шукаў і што знайшоў у Макаёнка рэжысёр-пастаноўшчык, што засталося ад таго, маладога, няўрымслівага Апостала ў нашым часе, а што належыць таму, што ўжо прайшло і ніколі не вернецца. Можа, здасца спектакль несучасным — але вось жа помніцца ён, а значыць, усё жыве, нягледзячы ні на што.

Дзякуючы дэмакратычным пераменам часоў незалежнасці, нашы тэатры пакрысе сталі "выходзіць" на замежны ўзровень. Дзяржаўны рускі тэатр Беларусі — бадай што, найбольш актыўна. Звязана гэта, перш за ўсё, з сумеснымі праграмамі тэатра і Мінскага філіяла Інстытута імя Гётэ, а таксама з актыўнай дзейнасцю самога мастацкага кіраўніка. Гэта даецца нялёгка, але вынік, можа самы галоўны — мы адчуваем сябе ў еўрапейскім кантэксце не Папялушкамі, а роўнымі сярод роўных. А часам — і болей чым роўнымі.

...У антракце я задала пытанне Ульрыцы Бэкер, медсястры, якая глядзела спектакль разам з сяброўкай — ці прыйдзе яна на новы спектакль беларускага Рускага тэатра, калі ён зноў прыедзе у Манхайм?

— О, канешне! — адказала яна. — Вашы тры Аляксандры іграюць проста цудоўна! Я хацела б паглядзець кожнага з іх і ў іншай ролі! І — Ян-ков-скі таксама!

Я паглядзела пасля па афішы — яна казала пра Аляксандра Бруhацкага, Аляксандра Ткачонка і Аляксандра Суцкавера. Што ж, кожны глядач шукае ў спектаклі сваё. І калі знаходзіць — гэта і ёсць поспех.

А без яго, нават простага, банальнага, глядацкага поспеху, можа, і не было б самога Творцы. Не было б новых задумак, праектаў, вырашэнняў.

А гады — гэта ўсяго толькі павышаная рызыка раптам стаць раўнадушным. Сытым. Безапеляцыйным.

Хай гэтага з Барысам Луцэнкам не здараецца ніколі!

**Вольга ІПАТАВА**

ЭКСЛІБРЫС

## "Гарт"

*Саюз Беларускіх Патрыётаў. "Наша Ніва". Мінск. 1997.*

**Ужо даводзілася пісаць пра тое, што сваю гісторыю ў гэтым стагоддзі мы будзем вымяраць не савецкімі пяцігодкамі і ўчынкамі кіраўнікоў, а ахвярнасцю людзей у самыя жорсткія часы на карысць Беларусі. Кніга ўспамінаў пра беларускую пасляваенную глыбоцкую і пастаўскую моладзь — добры ўклад у гэтую праўдзівую гісторыю Беларусі.**

**Выхаваныя ў духу беларускага патрыятызму ў беларускіх школках, паадкрываных у вайну старэйшай беларускай інтэлігенцыяй, яны адчулі натуральную патрэбу супраціву русіфікацыі, якая праводзілася на Беларусі ў пасляваенны час. Рускія выкладчыкі ў Глыбоцкай і Пастаўскай педвучэльнях адкрыта пагарджалі беларускай мовай, не жадалі яе вучыць, зніжалі за адказы на ёй адзнакі. У выніку, паўстала падпольная беларуская арганізацыя, якая ставіла за мэту прапагандаваць незалежнасць, нацыянальную сімволіку, бараніць беларускую мову.**

**Як піша ва ўспамінах кіраўнік Глыбоцкай арганізацыі Васіль Медзялец, "сэнс нашага згуртавання мы бачылі ў заўсёдным адчуванні свайго абавязку думаць пра Беларусь, дзейнічаць на карысць Беларусі, беларускай справы". Арганізацыю хутка выкрылі і больш за сорак яе ўдзельнікаў, яшчэ фактычна дзеці, атрымалі ад 10 да 25 гадоў зняволення.**

**Літасці не было нікому, Так, 16-гадовая Ліна Бароўка з Глыбокага атрымала 10 гадоў зняволення і была даведзеная да такога стану, што амаль увесь свой тэрмін адбыла ў інваліднай брыгадзе. Леў Бялевіч будаваў МАЗ, а Людміла Краснадубская, арыштаваная цяжарнаю, нарадзіла ў турэмнай бальніцы, была адпраўлена ў лагерную калонію маці і дзіцяці, якая месцілася ў Хальчы пад Гомелем, і ад недаядання страціла там свайго першынца.**

**Не ўсе яны вярнуліся з лагера. Як піша Антон Фурс: "Мы не мелі маладосці — яна была бессаромна распята на калючым дроце. Але мы не шкадуем ні аб чым".**

**Пры чытанні гэтай кнігі ў мяне ўвесь час узнікалі параўнанні. Вось зараз, пасля кароткай адлігі беларускага адраджэння пачатку 90-х, дзеці гэтай адлігі спрабуюць супраціўляцца татальнай русіфікацыі, якая абрынулася на нашыя галовы. Тыя пастаўскія і глыбоцкія юнакі і юначкі пад Пагоняй і бел-чырвона-белым сцягам прымалі прысягу на вернасць Беларусі, а сённяшніх стаўбцоўскіх хлопцаў абвінавачваюць у тым, што яны вывешвалі ў горадзе нацыянальныя сцягі і пісалі на сценах "Жыве Беларусь!" Тым было па 16, 18 гадоў, і гэтым — Аляксею Шыдлоўскаму — 18, а Вадзіму Лабковічу — 16. Тых каталі пры допытах, выбівалі паказанні, і тут збіваюць у жодзінскім СІЗО А. Шыдлоўскага за тое, што абвясціў галадоўку, так, што ён трапляе ў турэмную бальніцу. Справу тых вёў сам Берыя, і справа гэтых таксама вядзецца па тэлефоне з Мінска. Сваякоў тых прымушалі даваць паказанні, а за адмову жорстка каралі. І жонку А. Шыдлоўскага вось ужо чацвёрты раз запрашаюць у КДБ "на размову", выціскаюць паказанні супраць мужа, пагражаюць таксама пасадзіць, а маці В. Лабковіча за тое, што адмовілася даваць паказанні супраць сына, пракурор Стоўбцаў адмаўляе ў спатканні з ім.**

**У 1947 годзе глыбоцкіх і пастаўскіх пасадзілі за Беларусь. Мінула паўвека і ў нашыя дні стаўбцоўскіх і мінскіх таксама саджаюць за Беларусь. Так што "Гарт" мае добрую перспектыву працягу.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

ЛіМ ЧАСАПІС

# Пра Коласа — салдатам



Літаратурна-музычная сустрэча прайшла ў Цэнтральным доме афіцэраў. Прысвячалася яна 115-й гадавіне з дня нараджэння Якуба Коласа.



Вёў яе літаратуразнаўца Міхась Пратасевіч. Старшы навуковы супрацоўнік Коласаўскага музея Іван Курбека запыніў увагу слухачоў на ваеннай тэматыцы ў творчасці песняра. З ворагамі сваёй краіны пясняр ваяваў палымяным словам. За цыкл вершаў той пары ў 1946 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію (па тым часе — Сталінскую І-й ступені), быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. З увагаю слухалі прысутныя голас дзядзькі Якуба, запісаны на магнітафонную стужку. Сустрэчы з народным паэтам прыгадаў Мікола Аўрамчык, прачытаў свае вершы, прысвечаныя яму. Прыязна прыняла публіка выступленні Міхася Пазнякова і Анатоля Зэкава. Музычна афармляў сустрэчу ансамбль "Менскі гармонік". Песні гучалі ў выкананні салістаў Наталлі Рагоўскай і Вячаслава Статкевіча, ім акампанаваў на гармоніку сам кіраўнік ансамбля Іван Раманчук, падмагаў скрыпач Янка Бурак.

Ігар ІВАНОЎ

*Фота Уладзіміра ГУЗОЎСКАГА*

# На радзіме "Тараса..."

23 верасня ў Гарадку, што на Віцебшчыне, упершыню прайшла літаратурна-краязнаўчая канферэнцыя "Паэма "Тарас на Парнасе": здабыткі і праблемы". Арганізатарамі канферэнцыі сталі Гарадоцкая рада Таварыства беларускай мовы і Гарадоцкі раённы аддзел адукацыі. З Мінска на яе быў запрошаны даследчык Язэп Янушкевіч.

Канферэнцыю наладзілі выключна сіламі гарадоцкіх настаўнікаў і іх вучняў: з 13 уключаных у праграму выступленняў 11 былі мясцовыя; а з ліку апошніх ажно дзесяць падрыхтавалі вучні гарадоцкіх і суседніх з раённым цэнтрам школ. Усё было арганізавана годна і з гонарам: нават школьнікі-слухачы атрымалі заахвочвальныя "прызы", а іх калегі-дакладчыкі — грашовыя заахвочванні. Было арганізавана конкурснае журы, перад якім паставілі задачу назваць лепшыя вучнёўскія даклады. У выніку абмеркавання адабрана 4 даклады старшакласнікаў (дакладней, старшакласніц): Рудовай Марылі, Шапурынай Ірыны, Маёравай Вольгі і Шульгі Таццяны. Ім былі ўручаны і грашовыя прэміі.

З гэтымі дакладамі вучні гарадоцкіх школ выступяць ужо на міжнародных літаратуразнаўчых чытаннях "Паэма "Тарас на Парнасе" і праблемы яе аўтарства", якія пройдуць 8—9 кастрычніка 1997 г. таксама ў Гарадку. Але калі міжнародную канферэнцыю арганізоўвае Віцебскі дзяржуніверсітэт, дык першыя чытанні на Гарадоччыне арганізаваў адзін чалавек: старшыня Гарадоцкай Рады ТБМ, дырэктар Вархоўскай базавай школы Лявон Гаравы.

Я. КРЫВІЦКІ

ПОШТА

# "А мы ўсё будуем сацыялізм"

## АГЛЯД РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

ПЭЎНА, цяжка, а то і немагчыма было б нам, газетчыкам, працаваць, калі б не адчувалі, не зведвалі падліткі, наталення смагі з крынічкі, што завецца рэдакцыйнай поштай, і зваротнай сувяззю "газета—чытач—газета". Чытацкія лісты не толькі ажыўляюць (і аздабляюць!) газетныя старонкі-палосы, але і дапамагаюць нам лепш арыентавацца ў надзённых пытаннях і праблемах, падказваюць тэмы і накірункі нашых журналісцкіх пошукаў і даследаванняў, падтрымліваюць і натхняюць у нашай усё ж вельмі няпростай і нялёгкай, дазволім сабе гэтак сказаць, рабоце.

Асабліва прыемна, ажно да нейкай шчымлівасці, чытаць у рэдакцыйнай пошце тыя лісты, аўтары якіх звяртаюцца непасрэдна да нас, супрацоўнікаў газеты, дзеляцца менавіта з намі сваімі сумненнямі, развагамі, жыццёва-побытавымі, а часцей — грамадска-палітычнымі, адраджэнска-культурніцкімі клопатамі і турботамі. Сяды-тады чытачы проста так і пішуць: "Паважаныя лімаўцы! Хачу падзяліцца з вамі сваімі думкамі, расказаць пра тое, што набалела ў душы і сэрцы, шчыра пагутарыць з вамі і тым самым, можа, зняць з сябе гэты душэўны цяжар. Разумею, ад таго, што выкажашся, практычна нічога не зменіцца, аднак жа дыхаць робіцца быццам лягчэй".

Менавіта гэтак пачынае свой ліст у рэдакцыю Таццяна **Барэль** з Асіповіч. Яна згадвае, як прысутнічала на сёлетнім, V з'ездзе Таварыства беларускай мовы. Паехала на з'езд сама, прачытаўшы ў газеце "Свабода" нататку, што на яго запрашаюцца ўсе жадаючыя. Паехала, бо вельмі хацелася пабачыць і адчуць, чым дыхаюць тыя, "хто яшчэ неяк трапечацца, робіць спробы змагацца за мову, а значыць за беларускую культуру, за саму нацыю, яе выжыванне". І што ж пабачыла, пачула спадарыня Таццяна ў зале Дома літаратара, дзе праходзіў з'езд? А вось што: "Таварыства беларускай мовы не дыхае, а задыхаецца. Адзіная крынічка, якая засталася ў нашым Лукамор'і, перасыхае. Зала Дома літаратара была напаўпустая. Чула, як Лідзія Савік уздыхнула-сказала: "Відаць, мала каму ўжо і патрэбна наша мова". Бачыла стомленасць, а мо нават і разгубленасць у вачах Ніла Гілевіча. Нагогул дух роспачы прысутнічаў у зале. А, можа, страху?" Пад уражаннем гэтага ў нашай асіповіцкай чытачкі і напісаліся зусім роспачныя радкі: "Мова наша ціха канае. З ёй паміраюць, становяцца незразумелымі для нашчадкаў творы бессмяротных Купалы, Коласа, Панчанкі, Мележа, Вялюгіна, Геніюш і іншых".

Тым не менш, і сама Т. Барэль не падае духам, і нас заклікае да гэтага. Творчай інтэлігенцыі, найперш пісьменнікам, на яе думку, трэба ісці і ехаць да людзей, гаварыць з імі, несці ім слова праўды, раскрываць ім вочы на абсурднасць сённяшняй сітуацыі ў краіне з нашай мовай, якая мае ранг дзяржаўнай, з нашай нацыянальнай адукацыяй і культурай. "Людзі зразумеюць і падтрымаюць гэты клопат інтэлігенцыі. Гэта я магу сказаць з упэўненасцю. Па просьбе ТБМ я збірала подпісы ў падтрымку заснавання і адкрыцця ў краіне сапраўды нацыянальнага, беларускамоўнага ўніверсітэта. Людзі ва ўзросце ад 25 да 50 гадоў у большасці падтрымлівалі мяне. Старэйшыя, бадай, безнадзейна запораныя, а з моладдзю трэба найперш працаваць. З ёй і на ёй! Бо за моладдзю — будучыня", — піша наша чытачка.

Заканчвае яна свой ліст такімі словамі: "Вельмі хочацца, шаноўныя, бачыць усіх вас (нас) згуртаванымі, без роспачы і страху ў вачах. Згуртаваць нацыю, народ наш можа толькі нацыянальная ідэя. А гэта можа стацца з дапамогаю ўсіх палітычных і непалітычных рухаў і партый, якія выступаюць і падтрымліваюць нацыянальнае і дзяржаўнае адраджэнне нашай роднай Беларусі".

З гэтаю высноваю асіповіцкай настаўніцы Таццяны Барэль нельга не пагадзіцца. Мы, беларусы, не можам быць выключэннем. Усе народы свету ішлі такім шляхам, усіх вяла наперад, у светлую будучыню менавіта нацыянальная ідэя. Толькі яна — зарука поспеху, падмурак не толькі духоўнага, культурнага, але і эканамічнага развіцця любога народа і яго нацыянальнай дзяржавы.

"Добры дзень, "ЛіМ"! Цяжка пісаць, але яшчэ цяжэй маўчаць сённяшнім часам. У канцы тунеля нічога не відаць. Ніякага спадзявання на паляпшэнне нашага жыцця, ці хоць бы на нешта лепшае. Кожны дзень прыносіць усё больш падстаў для роспачы і трывогі за нашу будучыню. А між тым наша эліта, беларуская інтэлігенцыя, у тым ліку творчая, плешчацца ў хвасце падзей, нэндзіцца і плача, замест таго, каб быць генератарам ідэй і маторам нашага руху наперад". Гэта — ліст нашага чытача з Брэста **П. Ахрэмчыка.** Як бачыце, тон ліста таксама мінорны, нават роспачны. "Беларусы і напрыканцы XX стагоддзя не могуць выйсці на шырокую і беспаваротную дарогу незалежнасці", — зауважае чытач і цытуе горкія словы Купалы цяжкога і няпэўнага (гэткага, як і сённяшні!) 1919 года: "Заціснуты, задушаны, як мышы Пад жорскім венікам з усіх бакоў, Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы Таго свайго, што наша ад вякоў". І спадар Ахрэмчык горка іранізуе: "Ужо сам С. Посахаў падказвае "нацыяналістам" і "дзермакратам", што рабіць: "Насычайце змест адраджэння Беларусі, вяртання да жыцця духоўнасці канкрэтнымі, разумнымі справамі, а не займайцеся бясплоднымі размовамі..." Трэба прыняць да выканання параду, спадары адраджэнцы!"

У лісце П. Ахрэмчыка пераважаюць эмоцыі (пэўна, ён малады чалавек). Аднак жа многія яго выказванні цалкам слушныя. Скажам, пра тое, што ў кіраўнічых дзяржаўных структурах (ад самога верху да нізу) занадта шмат прышлага (не карэннага, беларускага) элемента, што надзвычай шмат там былых партапаратчыкаў, кэгэбістаў, палітработнікаў, наогул былых вайскоўцаў. Ці, напрыклад, пра тое, што калі ў бліжэйшы час не зменіцца сітуацыя ў сферы вышэйшай адукацыі — у сэнсе пераводу яе на беларускую мову, дык канчаткова асіміляцыя беларусаў не за гарамі. Альбо, нарэшце, такое меркаванне чытача з Брэста: "Заўсёды пануючыя колы рабілі так, каб народ быў цёмны і не сумняваўся ў сваіх правадырах. І зараз робіцца, бадай, тое ж самае. Многае пастаўлена з ног на галаву. БНФаўцаў і іншых патрыётаў-дэмакратаў зрабілі ворагамі, экстрэмістамі і нават фашыстамі, а тыя, хто забраў ад народа мову, давёў людзей да жабрачага стану, выстаўляюцца абаронцамі простага чалавека".

Прыслаў свой чарговы ліст у рэдакцыю і наш даўні, шматгадовы чытач з Калінкавіцкага раёна эканаміст Аляксандр **Заранок**. Гэтым разам ён зацікаўлена дзеліцца з намі сваімі разважаннямі адносна палітычнага зместу, характару грамадства, якое мае намер пабудаваць у нашай краіне сённяшняе кіраўніцтва Беларусі. А. Заранок выказвае занепакоенасць, нават трывогу з тае прычыны, што ўсё часцей і гучней пачынае мусіравацца пытанне пра будаўніцтва... сацыялізму, сацыялістычнага грамадства. "І ўсё гэта — замест таго, каб зразумець нашу сённяшнюю сітуацыю і адпаведна выпрацаваць дастаткова навукова абгрунтаваную нацыянальную дзяржаўную стратэгію, — адзначае чытач. І працягвае: — Ці не таму мы сёння ідзём у нашай нацыянальнай палітыцы метадам проб і памылак? Уся "стратэгія" правячай бюракратыі заключаецца ў тым, каб як мага даўжэй захаваць сваю ўладу. Уводзячы ў заблудзэнне шырокія масы працоўных ідэямі нежыццяздзейнага сацыялізму, яна не можа і не зможа вывесці наша грамадства з глыбокага нацыянальнага крызісу".

А. Заранок засмучаны і той палітычнай валтузнёй за лідэрства, якая, на яго думку, актывізавалася апошнім часам сярод апазіцыйных дэмакратычных партый. "Сорамна чуць і чытаць у газетах пра тое, — піша чытач, — як лідэры палітычных партый, замест таго, каб змагацца за дэмакратыю, за лепшую долю беларускага народа, заводзяць між сабою сваркі ды перапалкі. Зараз усім нам трэба адзіным фронтам выступаць за кансалідацыю грамадства на адстойванне незалежнасці нашай Бацькаўшчыны і не казаць, што ў нас "хворы народ". Хворы не народ, а хворыя, на жаль, нашы палітычныя лідэры. Колькі ўжо можна хітраваць і ўводзіць народ у зман? Ці варта крывіць душою перад нашай і без таго абылганай гісторыяй дзеля таго, каб толькі любым чынам захаваць у людзей веру ў сацыялізм?! Хіба пры сацыялізме праца па адзіным плане не прыводзіла да адных і тых жа сумных вынікаў: да зварочвання гаспадарчай ініцыятывы і прадпрымальніцтва, да распаўсюджвання безгаспадарчасці і фарміравання спажывецкай псіхалогіі ў чалавека? Хіба не асабістая праца на ўласнай гаспадарцы, якую мы бязлітасна вынішчалі з перамогай сацыялізму, захавала нас ад вымірання? Хіба мізэр ворнай зямлі, што застаўся ў асабістым карыстанні нашага насельніцтва, не дае краіне 25—30 працэнтаў сельскагаспадарчай прадукцыі? А мы, насуперак усялякай логіцы, усё яшчэ трымаемся за дзяржаўную ўласнасць, усё яшчэ будуем сацыялізм!"

Нягледзячы на тое, што чытач паставіў у канцы клічнік, гэтае ягонае меркаванне ці сцвярджэнне, на жаль, не эмоцыі. Ці, прынамсі, не толькі эмоцыі. Мы, у адрозненне ад нашых суседзяў, былых пабрацімаў па эсэсэсэру, не зрабілі сапраўды высноў са свайго ж уласнага гістарычнага вопыту і ўсё яшчэ топчамся на месцы, спрабуючы ажывіць, рэанімаваць тое, што не паддаецца ажыўленню. Хіба толькі з дапамогаю казачнае "жывое вады". Дык колькі ж можна верыць у казкі? Ці не час, як той казаў, і мужчынам стаць?..

І яшчэ вось што хацелася б вылучыць, ці падкрэсліць, у лісце сельскага эканаміста А. Заранка. Тое ж, што ў рэшце рэшт адзначалі, сцвярджалі і чытачы з Брэста і Асіповіч. Маем на ўвазе тую самую кансалідуючую нацыянальную ідэю. Вось і калінкавіцкі чытач "ЛіМа" завяршае свой ліст радкамі пра гэта ж: "Не сацыялізм павінен стаць яднаючай сілай, а нацыянальная ідэя, нацыянальная дзяржаўная палітыка, накіраваная на дабрабыт нашага гаротнага народа. Што тут нам незразумела, якія яшчэ патрэбны нам палітычныя спрэчкі? На мой погляд, нам сёння, як ніколі, неабходна здаровая нацыянальная самасвядомасць. Паўнавартаснае духоўнае жыццё нацыі можа здзейсніцца толькі пры наяўнасці станоўчых нацыянальных ідэй, якія павінны быць усвядомлены нацыяй і паступова, але няўхільна праводзіцца як у палітыцы, так і ў паўсядзённым жыцці. Толькі пры наяўнасці ўсвядомленых станоўчых ідэалаў народ шукае і знаходзіць сілы для адраджэння, для выхаду з крызісу, знаходзіць у самім сабе, і ў першую чаргу — у сваёй гісторыі і ў сваёй духоўнай культуры".

А на завяршэнне агляду — колькі строф з верша таксама нашага даўняга і актыўнага чытача і рэспандэнта Аркадзя Нафрановіча з вёскі Камаі Пастаўскага раёна. Верш спадар **Нафрановіч** назваў "Мой "ЛіМ". Друкаваць яго нам, на старонках "ЛіМа", мо трошкі і няёмка (атрымліваецца, што нібыта самі сябе хваЛІМ!), мо чытач і паслаў яго нам для, так бы мовіць, "унутранага карыстання", але ўсё ж бярэ спакуса працытаваць сёе-тое з верша:

*Як хлеб надзённы, на стале маім*<br>
*Заўсёды родны майму сэрцу "ЛіМ".*<br>
*І мне сягоння хочацца прызнацца:*<br>
*Ён самы шчыры, мудры мой дарадца.*

*Мільгаюць вёсны і праходзяць зімы,*<br>
*Мяняюцца улады і рэжымы.*<br>
*А мы трымаемся, не гінем з ім:*<br>
*І я — чытач, і мой заступнік — "ЛіМ".*

*Нібыта крылы птушка распраўляе,*<br>
*Калі яго нясцепшна я гартаю.*<br>
*Гарачыя радкі жывых палос*<br>
*Распавядаюць пра наш горкі лёс.*

*Пра чорныя і светлыя часіны,*<br>
*Што неаднойчы зведала Айчына,*<br>
*Пра слынных яе дочак і сыноў,*<br>
*Не раз праліўшых за свабоду кроў.*

*Шчыруй, мой "ЛіМ", любімая газета!*<br>
*Тваім цяплом здаўна жыццё сагрэта.*<br>
*Трымай свае калонкі ў чысціні*<br>
*І не зніжай набранай вышыні.*

Нясціпла? Бадай што й праўда. Але ж сяды-тады можна пачуць і такое: калі сам сябе не пахваліш, дык — хто? Зрэшты, спадзяемся, як і заўсёды, на чытацкую паразумеласць.

**Марыя МІХАЙЛАВА**

ДУША

# Шлях да храма — свабодны

Мар'ян ДУКСА

## НАТАТКІ ПІСЬМЕННІКА

ШТОХВІЛІННА адчыняюцца касцельныя дзверы, і праз іх борздзенька ідуць чародкай святочна апранутыя дзеці, якія набожна кленчаць, а пасля спыняюцца насупраць цэнтральнага алтара — тут іх сталае месца, гэта ўжо зрабілася традыцыяй у тутэйшым храме: наперадзе — дзеці, за імі — дарослыя.

Я міжволі ўзіраюся ў твары юных вернікаў — яны яшчэ такія непасрэдныя, гуллівыя, у вачах столькі жыццёвай энергіі, весялосці, сяброўскай цеплыні. Іх абліччы не нясуць ніякай аскетычнасці і адчужанасці. Дзеці ёсць дзеці. Яны яшчэ амаль бязгрэшныя. У храме яны пачуваюцца ўпэўнена, як дома. Ім тут утульна, камфортна, звыкла. Іх лашчаць позіркам дарослыя, ім усміхаецца малады ксёндз, іх любіць Бог. Шчаслівы лёс выпаў ім. Яны жывуць не проста ў іншы, адметны час. Перад імі расчынілася новая эпоха — эпоха адраджэння рэлігіі і веры. Міжволі перад вачамі паўстаюць 70-я гады, калі я пасля заканчэння БДУ быў прызначаны арганізатарам пазакласнай і пазашкольнай выхаваўчай работы ў Сольскай СШ, а прасцей кажучы — завучам па выхаванні. Для мяне мая пасада з'явілася вельмі цяжкім выпрабаваннем, бо ледзь не асноўным накірункам маёй выхаваўчай дзейнасці павінен быў быць "ваяўнічы атэізм". І мне з маімі рэлігійнымі перакананнямі даводзілася заўсёды натужна выкручвацца, каб, фармальна склаўшы план атэістычнай работы, яго абсалютна не выконваць. Такая падпольная тактыка, вядома, не спрацоўвала бездакорна, дырэктар школы, адчуваючы маё нежаданне "весці вайну з рэлігіяй", насядаў з прэтэнзіямі і дакорамі, і ўрэшце давялося пакінуць пасаду, бо маё двайное жыццё бясконца доўжыцца не магло — як я толькі пяць год вытрымаў!

Вось адзін эпізод з таго часу. Доўгачаканы сонечны дзень. З усіх бакоў спяшаюцца вернікі да касцельнай брамы. Дзесяткі, сотні людзей ідуць, каб пад гукі аргана адчуць незвычайную радасць "з мёртвых паўстанне Езуса Хрыстуса". Сярод іх трапляюцца моладзь і дзеці, але апошнія чамусьці збянтэжаныя і спалоханыя, зацята азіраюцца па баках і хуценька-хуценька хаваюцца ў натоўпе. Прычына простая. Найбольш паслухмяныя настаўнікі стаяць ля брамы і запісваюць у свой чорны сшытак усіх дзяцей, што асмеліліся пераступіць "забароненую мяжу". Так загадаў дырэктар, а яму так "рэкамендаваў" райкам партыі, прадстаўнікі якога таксама прысутнічаюць тут — трохі воддаль, але тым не менш халоднымі і пустымі вачамі абмацваюць вернікаў, асабліва дзяцей. А назаўтра будуць "разборкі", выклікі бацькоў, ушчуванні і пагрозы... Дарэчы, пагрозы маглі рэалізавацца такім чынам, што вучань-выпускнік, які рэальна прэтэндаваў на залаты медаль, не атрымліваў яго, бо адзнака па гісторыі, грамадазнаўстве па загадзе дырэктара адчувальна зніжалася — па той прычыне, што "рэлігійны вучань няправільна засвоіў савецкую гісторыю і камуністычную мараль".

Атмасфера страху, няспыннага атэістычнага ачмурэння, якая панавала ў грамадстве працяглы час, паспрыяла з'яўленню пакалення здзічэлага, з атрафіраванай душой, скалечанага маральна і духоўна, у нейкім сэнсе "страчанага пакалення", калі ўжыць гэты літаратуразнаўчы тэрмін. Асабліва гэта тычыцца тагачаснай наменклатуры, вайскоўцаў, прадстаўнікоў міліцыі, спецслужбаў. Мне ўспамінаецца мая гаворка з афіцэрам КДБ, які па загадзе свайго абласнога шэфа апекаваўся нада мной і павінен быў рэгулярна праводзіць "прафілактычныя гутаркі". Калі я пачаў даводзіць свайму апекуну, што атэізм — антыгуманны, бо не дае людзям ніякіх, хай сабе ілюзорных, калі каму так здаецца, надзей на вечнае будучае, што ён бяздушна заганяе іх у тупік, па вялікім рахунку зводзіць чалавечае жыццё да нуля, абсурднасці, што ён не бачыць, не шкадуе нават калек, хворых, бо адбірае ў іх адзіную ўцеху зведаць шчасце калі не на зямлі, дык у вечным жыцці, — ах, як акругліліся вочы ў гэтага службоўца! Ён не проста не захацеў паразважаць над маёй логікай, ён спалохаўся яе, быў ашаломлены, што так асмеліўся думаць "завуч па выхаванні". Лічылася, зверху патрабавалася, што ўсе, хто быў звязаны з дзяржаўнай службай, павінны былі быць атэістамі. Калі ў каго і былі якія рэлігійныя пачуцці, яны хаваліся за сямю замкамі.

Чаму ж так баяліся рэлігіі ідыёлагі камунізму? Пра гэта шмат ужо сказана. Ігралі тут ролю і бязбожнасць камуністычных правадыроў, і іх жаданне стварыць сваю матэрыялістычную рэлігію, паводле якой "новыя людзі" будуць пакланяцца толькі ім, менавіта ад іх чакаючы збавення і выратавання тут, у зямным жыцці.

Але мне здаецца, што ёсць больш фундаментальная прычына, чаму так ярасна адвяргалі Бога ідэолагі камунізму. Гэта прычына грунтуецца на катэгорыі свабоды, свабоды, якую Бог падарыў чалавеку. Гэта найвялікшы дар. Свабода, паводле задумы Стваральніка, — гэта самая галоўная ўмова нашага быцця. Найгеніяльнейшы Эксперымент Бога заключаецца ў тым, што мы, людзі, абсалютна свабодныя ў сваіх дзеяннях, але разам з гэтым у той ці іншай меры ўсведамляем, што такое дабро і што такое зло, аб'ектыўна адчуваем розныя абмежаванні, ведаем пра маральныя і духоўныя пастулаты і павінны жыць у адпаведнасці з імі. Чалавек цалкам свабодны, аднак каб заслужыць вечнае жыццё з Богам, ён павінен выканаць пэўныя ўмовы. Але ўсё павінна рабіцца па добрай волі, ніхто і нішто не павінны змушаць нас жыць не так, як хочам.



*Фота А. Клешчука*

А вось гэта і не задавальняла тэарэтыкаў камунізму, таму яны так і ненавідзелі рэлігію, асабліва хрысціянскую з яе пастулатам свабоднай волі. Свабодная воля для іх была як дубовая калода на шляху, спыняла іх рух у тое "новае грамадства", дзе ўсе людзі рабіліся бязвольным паслухмяным быдлам, падпарадкаваным жорсткаму пастуху, які самачынна рэгламентаваў, куды і як ісці. Адцягнуць людзей ад Бога можна было, адабраўшы ад іх свабодную волю.

Палітычны і атэістычны гвалт адбываўся паўсюдна ва ўсіх сферах жыцця. Я помню, з якой стараннасцю ў выдавецтве выкасоўвалі рэлігійную тэрміналогію, калі яна часам трапляла ў вершы. Рэдактар у такіх выпадках гаварыў шчыра і ясна: "Нам загадваюць...." Калі каму з паэтаў ці празаікаў выпадкова ўдавалася прасачыцца праз мяжу забароны, хоць сціпла, але сцвердзіць хрысціянскія ісціны, біблейскія запаведзі, гэта станавілася сенсацыяй. А разгромныя рэцэнзіі з гэтай нагоды абавязкова прыносілі славу аўтару. Наклад паэтычнай кнігі майго сябра, рана памёршага Рыгора Семашкевіча ў мінскіх кнігарнях раскупілі за некалькі дзён пасля крытычнага артыкула, дзе асуджалася празмерная схільнасць аўтара да рэлігійных слоў і выразаў. Атэістычнае ачмурэнне, такім чынам, не было поўным, як таго хацелася аракулам бязбожжа, дзесяткі тысяч людзей, наведваючы храмы ці абмінаючы іх, верылі ў Бога і радасна віталі рэдкія праявы рэлігійнасці ў друку.

Але нельга сёння не сказаць і іншага. Тое, што так заняпала вера ў часы бальшавіцкага панавання, што так шырока, "ударнымі тэмпамі" знішчаліся касцёлы і цэрквы, манастыры, капліцы, крыжы, — ва ўсім гэтым ёсць і віна наша — хрысціянаў. Атэізм пусціў карэнне на Беларусі і дзякуючы нашай маладушнасці, духоўнай кволасці, ганебнаму страху і бязвольнасці. Храмы нішчыліся, а мы тым часам зацята маўчалі, не дэманструючы апостальскай цвёрдасці ў справе абароны рэлігіі і веры. Наша празмерная пасіўнасць магла быць успрынята ўладамі як няўпэўненасць вернікаў у сваіх рэлігійных перакананнях, як свядомае патуранне бязбожным акцыям бальшавікоў і іх падпявалаў. Я не думаю, што можа апраўдаць нас тая атмасфера, што панавала ў грамадстве, — атмасфера гвалту і ціску. Мы не змаглі супрацьстаяць атэістычнай навале патрэбным чынам. Наша духоўная сіла аказалася занадта слабай. Бо ёсць вера альбо нявер'е. І вера вымагае ад нас пэўных высілкаў у любых абставінах. У гэтай сувязі варта прыгадаць выслоўе са Святога Пісання: "Ёсць так, так і ёсць не, не. Астатняе — ад д'ябла". Гэты біблейскі пастулат мае самае шырокае значэнне, але ён быў і ёсць актуальным, калі гаворка заходзіць аб нашай веры. Сапраўдная вера самаахвярная, праўдзівы вернік той, хто гатовы несці свой крыж да канца.

Вышэйназваны пастулат можа здасца каму залішне катэгарычным, мне ж ён уяўляецца самым аптымальным, самым найлепшым. Скажыце, чаму на зямлі не спыняюцца войны і разбой? А таму што мы, хрышчаныя людзі, вельмі адвольна тлумачым адну з галоўных запаведзей — "Не забі". Мы гатовы апраўдаць забойства, зыходзячы з прынцыпаў самаабароны, беручы пад увагу войны вызваленчыя, "справядлівыя" і поўную залежнасць салдата ад вайсковага статута і вышэйшага начальства. Мы хочам падкарэкціраваць, падправіць запаведзь Айца нябеснага, знайсці тое алібі, якое здымае віну з таго, хто ў пэўных жыццёвых варунках бярэ ружжо і страляе. Але ўсе гэтыя прамежкавыя варыянты ёсць не што іншае, як д'ябальская логіка, спроба апусціць як мага ніжэй узнятую Богам маральную планку. Я ўпэўнены, што адгэтуль вынікаюць усе нашы няшчасці, звязаныя з войнамі, з канфліктнымі сітуацыямі ў грамадстве. Калі б хрысціяне былі стойкімі да канца і гэта насіла б масавы характар, многіх войнаў і крывавых сутычак удалося б пазбегнуць. Ёсць добры прыклад спынення амерыканскай вайны ў В'етнаме, калі маладыя хлопцы, атрымаўшы позвы, рвалі іх і не з'яўляліся на зборныя пункты для навабранцаў. Яны не жадалі ўдзельнічаць у "бруднай вайне" па палітычных матывах. Але матывы такой акцыі могуць быць і рэлігійныя.

Мусіць, многім з нас бракуе абсалютнай перакананасці, што наша жыццё — гэта наканаваная кожнаму дарога да Бога, жыццё тваё — як рака, якая плыве ў вечнасць. Іншая справа, што мы, паддаючыся шматлікім уздзеянням д'ябла і яго паплечнікаў у чалавечым абліччы, свядома ці несвядома каламуцім гэту сваю сакральную раку-жыццё, і ў выніку — няма ўпэўненасці, што яна, наша брудная рака, адрынуўшы сонца, трапіць у неба...

Эпоха бязбожжа, што распачалася ў 1917 годзе, не магла існаваць доўга, тым больш вечна. Па сваёй глыбіннай сутнасці яна была фальшывай, антычалавечай, бо забівала, нішчыла аб'ектыўную цягу большасці людзей да Бога. Жыццё іх у такой атмасферы было па-свойму заганным і няпоўнавартасным. І хоць тэарэтыкам камунізму ўдавалася на пэўных этапах стварыць сацыяльны аптымізм, але гэты аптымізм быў штучны, з душэўным надломам. Камуністычная сістэма рухнула, бо яна стаяла на чатырох д'ябальскіх нагах: на гвалце, ілжы, мілітарызме і атэізме. Я думаю, што галоўная прычына падзення гэтай сістэмы — яе атэізм, бо астатнія прычыны — залежныя ад яго, ім пароджаныя. Гэта, здаецца, і зразумеў Міхаіл Гарбачоў, хоць мы і па-рознаму адносімся да яго. Былы генсек паспрабаваў ўратаваць камуністычную імперыю, абвясціўшы лаяльныя адносіны да рэлігіі, але было ўжо позна: атэізм, як іржа, раз'еў пампезнае дзяржаўнае збудаванне, і яно рассыпалася. Гарбачоў — не пасланец Бога, не святы знак з неба, ён — усяго сродак радыкальных перамен, якія па волі Бога не маглі не адбыцца ў былым Савецкім Саюзе, бо прабіў час разбураць Вавілонскую вежу атэістычнай гардыні.

Шчыра кажучы, мяне проста здзіўляе, чаму мы, вернікі, пры выбары прэзідэнтаў вельмі мала ўвагі звяртаем на іх стасункі з Богам. Бо калі першай дзяржаўнай асобай становіцца атэіст, ці варта чакаць ад яго сапраўднага служэння людзям, сваім суайчыннікам? Менавіта хрысціянская вера дапамагае дзяржаўнаму дзеячу глыбінна адчуць сваю адказнасць за лёс грамадзян, якія даверыліся яму. І тады ў яго штодзённай дзейнасці галоўную ролю будуць іграць не палітычная кан'юнктура, не ўзвялічванне любым шляхам свайго аўтарытэту, а толькі голас сумлення. Гэта карэнным чынам прадвызначыць, і якім будзе яго акружэнне, а таксама пачне аздараўляць маральны клімат грамадства ў цэлым. Але не трэба думаць, што ў такім выпадку ў дзяржаве паўнаўладна запануе хрысціянская ідэалогія, і царква ў краіне набудзе дамінуючы заканадаўчы статус. Гаворка ідзе толькі пра хрысціянскія каштоўнасці, з якіх вынікаюць маральныя абавязкі кожнага верніка, уключаючы ў першую чаргу і прэзідэнта.

Што б мы ні казалі аб неабходнасці маральнага ачышчэння грамадства, якія б дасканалыя сістэмы выхавання дзяцей і моладзі ні прапаноўвалі, а без хрысціянскіх этычных кодэксаў нам ніяк не абысціся. Правілы паводзін, сцверджаныя людзьмі і не асвечаныя Богам, — нібы тыя зерні, якія трапляюць у глебу, але без уплыву сонца ніколі не ўзыдуць, не закаласяцца.

Мы павінны імкнуцца да самай высакароднай мэты — быць хрысціянамі ў поўным сэнсе гэтага слова заўсёды і ўсюды. Мусіць, не павінна быць так: у царкве, касцёле ты — хрысціянін, а па-за імі — нехта іншы. Наш найважнейшы абавязак — пазбегнуць гэтага раздваення, ніколі не забывацца, хто мы ёсць, у нашым бурным сацыяльным жыцці помніць пра Бога і Яго запаведзі — помніць дома, на працы, у кожным ажыўленым месцы, бо сказана ж у Святым Пісанні: "Хто Мяне прызнае на людзях, таго Я прызнаю пры Айцу нябесным".

Сёння можна ўбачыць, як кіраўнікі дзяржаў наведваюць храмы ў часе вялікіх урачыстасцяў, хоць не заўсёды верыцца ў шчырасць такіх візітаў. Ёсць у гэтым пэўнае фарысейства. Бо нашы цэзары часам любяць не Бога, а сябе ля Бога. Але будзем спадзявацца на лепшае. Лёд крануўся. Можа, і іх з цягам часу прыцягне і падхопіць рака веры. Не будзем траціць надзеі. Памолімся за нашых дзяржаўных мужоў.

Зараз усім нам вельмі няпроста жыць. Галеча, страта працы, няўпэўненасць у заўтрашнім дні, дарагавізна, штодзённыя стрэсы, адчай... Але ж павінны адбыцца перамены да лепшага.

Так, матэрыяльная неўладкаванасць расхіствае душэўную раўнавагу, прыносіць незадавальненне, раздражнёнасць. Але па вялікім рахунку матэрыяльныя клопаты — справа другарадная, хоць і палоніць нашы душы і сэрцы. Сёння мы не можам не адчуваць нашай самай вялікай радасці — свабоднага паяднання з Богам, бесперашкоднай веры. Шырока расчыненая касцельная ці царкоўная брама цёпла вітае нас, напоўніўшы душу лагодай і ўцехай.

Якія шчаслівыя дзеці, што даверліва пасталі насупраць галоўнага алтара! З самага ранняга маленства яны далучаны да Слова Божага і маюць магчымасць захаваць крыштальную чысціню сваіх душ. Парадуемся гэтаму і падзякуем Богу за вялікую міласэрнасць да нас, каму падорана воляй нябёс шчаслівая пара вяртання.

**ЛіМ ЧАСАПІС**

## Са шчодрай беластоцкай сявенькі

**Нягледзячы на ўсе цяжкасці з кнігавыданнем на беларускай мове сацыяльна значныя кнігі знаходзяць дарогу да чытача. А што серыя "Беларуская народная творчасць" менавіта з гэтага шэрагу, наўрад ці хто-небудзь, неабыякавы да беларускасці, нацыянальнага Адраджэння, засумняваецца. І вось прыемная навіна: у выдавецтве "Беларуская навука" ўбачыў свет чарговы том "БНТ". Ім стала кніга "Песні Беласточчыны", укладальнікам, аўтарам прадмовы і каментарыяў да якой з'яўляецца пісьменнік Мікола Гайдук.**

**Мікола Гайдук, як вядома, з літаратараў, хто не толькі піша ўласныя творы, а і цікавіцца вусна-паэтычнай творчасцю. Ён апублікаваў у сябе на радзіме каля 600 уласных запісаў беларускіх песень з нотамі, выдаў краязнаўчы зборнік. Шырокі водгалас мела і кніга М. Гайдука "Аб чым шуміць Белавежская пушча", выдадзеная ў Беластоку ў 1992 годзе. Зборнік склалі беларускія народныя казкі, легенды і паданні, запісаныя ім. Дарэчы, гэтыя творы нядаўна перавыдадзены "Юнацтвам".**

**І ўсё ж найпершае захапленне М. Гайдука — народная песня. Песня беларуская, песня беластоцкая. Запісваць гэтыя папулярныя творы фальклору ён пачаў у 1972 годзе і працягваў сваю працу да 1985 года. Наведваўся ў аддаленыя населеныя пункты, не прамінаў мястэчак, бо ўпэўніўся, што і ў гарадскім асяроддзі абавязкова знаходзяцца людзі, якія не цураюцца сваіх каранёў. Асобныя песні былі М. Гайдуком запісаны і ў Беластоку. Сотні запісаў зафіксаваў ягоны магнітафон.**

**Чым больш слухаў М. Гайдук спевакоў, тым больш пераконваўся, што творы, якія гучаць з іх вуснаў, нельга ўспрымаць толькі як нешта адасобленае. Гэта тычыцца і іншых узораў фальклору. А ў выніку слушна гаворыць у прадмове да кнігі: "Не толькі песні, але і ўся іншая беларуская народная творчасць Беласточчыны — казкі, легенды, прыказкі, выслоўі, будаўніцтва, ткацтва, даўнія строі і ўвесь побыт — складаюць неад'емную арганічную частку агульнабеларускай народнай культуры. Доказ таго — роднаснасць многіх песень з Беласточчыны, змешчаных у гэтым зборніку, з песнямі Гродзеншчыны, Палаччыны, Міншчыны, Палесся і іншых рэгіёнаў Беларусі".**

**Роднаснасць ёсць, але і ёсць свая непаўторнасць, а часам і нерушавасць. І ў гэтым лёгка пераканацца, пазнаёміўшыся з кнігай, у якую ўвайшло 607 твораў. Пераважная большасць з іх суправаджаецца нотным матэрыялам. А аб'яднаны яны ў раздзелы "Каляндарна-абрадавыя песні", "Сямейна-абрадавая паэзія", "Пазаабрадавыя песні".**

**Кніга "Песні Беласточчыны" — яшчэ адно пацвярджэнне таму, наколькі багатыя песенныя традыцыі ў нашага народа, лепшыя прадстаўнікі якога валодаюць бясспрэчным талентам. Дарэчы, як згадвае М. Гайдук, ад асобных пяюх ён запісаў па некалькі дзесяткаў твораў.**

**А закончыць гэтую нататку хочацца на тым аптымізме, які гучыць на завяршэнне ўступнага артыкула: "Родная песня была спакон веку і застанецца, пэўна, яшчэ на немалы час найзванчэйшым, найяскравейшым і наймацнейшым нашым нацыянальным сцягам вось тут, на прасторах Аўгустоўскага Паазер'я ды Паазер'я Уладаўскага, дзе мы спрадвечна жылі, жывём і жыць будзем у наступных пакаленнях".**

**Вячаслаў АНІШЧЫК**

## "Спадчына", N 4

**У раздзеле "Дзень Волі" прапануюцца артыкулы "Прэзідэнты Рады Беларускай Народнай Рэспублікі" (падрыхтоўка У. Ляхоўскага) і "Дыяспара перахоўвае беларускую дэмакратычную традыцыю" (аўтар — Д. Суорц). "Адлюстраванні" прадстаўлены артыкуламі В. Лебедзевай "Камітэт заграгнічных груп Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (1920—1923 гг.)" і Э. Іофе "Мітрафан Доўнар-Запольскі — даследчык сацыяльна-эканамічнага развіцця феадальнай Беларусі". Часопіс знаёміць з творчасцю аднаго з прадстаўнікоў літаратуры беларускага замежжа П. Сыча, змясціўшы яго вершы і слова У. Немановіча "Над магілай Пётры Сыча". Друкуюцца і такія матэрыялы, як "Тадэвуш Рэйтан" Г. Жавускага, "У братоў украінцаў" С. Грынкевіча, "Літоўская Метрыка і яе каштоўнасць для вывучэння мінуўшчыны Беларусі" З. Даўгялы, "Віцебскі летапіс Панцырнага і Аверкі" і іншыя.**

УГОДКІ

# Усё чалавечае

### 17 ВЕРАСНЯ УЛАДЗІМІРУ КАЛЕСНІКУ СПОЎНІЛАСЯ Б 75 ГАДОЎ

Дакладна не памятаю гэты выраз, але недзе ў Алеся Адамовіча прачытаў нешта накшталт таго, што калі крытык, літаратуразнавец — вышэйшага кшталту, дык ён павінен паспрабаваць свае здольнасці і ў іншых галінах творчасці. Зразумела, Алесь Міхайлавіч пры гэтым меў на ўвазе зусім не юнацкія пробы пяра, калі ледзь не кожны літаратар у маладым узросце піша вершы, а той момант, калі сталы аўтар, ацэньваючы стваранае іншымі, і сам паказвае прыклад, як трэба пісаць, а не застаецца толькі звычайным павучальнікам, які ведае, як усё робіцца.

Думка наконт гэтага прагучала ў А. Адамовіча падчас яго разваг аб творчасці Віктара Каваленкі, які, як вядома, з'яўляецца і аўтарам цікавага рамана "Падвышанае неба". Але яе, бадай, з поўным правам можна аднесці і да Уладзіміра Калесніка. Канечне, ён найперш вядомы як выдатны крытык і літаратуразнавец, але ж на яго мастакоўскім рахунку і дакументальныя творы "Аповесць пра Таўлая", "Пасланец Праметэя" (як сведчаць даведнікі). На самай справе яны не проста дакументальныя, а дакументальна-мастацкія. А яшчэ не трэба забываць, што У. Калеснік разам з А. Адамовічам і Янкам Брылём меў самае непасрэднае дачыненне да стварэння унікальнай у сусветнай літаратуры кнігі "Я з вогненнай вёскі..."

Здавалася б, гэты твор сапраўды ўжо толькі дакументальны — сведчанні тых, хто перажыў жахі фашызму, каго расстрэльвалі, палілі, але не змаглі расстраляць, спаліць... Яно так, канечне, але ж "Я з вогненнай вёскі..." — і кніга мастацкая, бо такі агромністы матэрыял не проста сабраць, а і належным чынам сістэматызаваць, падаць маглі толькі тыя, хто дакладна адчувае само слова і хто дасканала валодае законамі мастацкага твора. Адамовіч і Брыль, вядома, валодалі, але ж і Калеснік — таксама. Таму і атрымала гэтая кніга такі шырокі рэзананс, бо ў ёй не проста дакументальныя сведчанні, а сама душа народная — пакутная але нязломная, слабая перад лютасцю, чалавеканенавісніцтвам і моцная ў сваім жаданні выжыць.

Уладзімір Калеснік увогуле быў чалавекам таленавітым. А раскрыццю таленту спрыяла атмасфера, што была ў Навагрудскай гімназіі, куды ён паступіў у 1936 годзе. Хоць сказаць "атмасфера" будзе, бадай, завельмі, бо хапала ў гімназіі таго, што наўрад ці садзейнічала станаўленню падлеткаў менавіта ў тым кірунку, у якім ім хацелася. Прынамсі, паколькі гэтая навучальная ўстанова з'яўлялася польскай, пра дасканалае авалоданне роднай мовай і гаворкі не магло ісці. Але, як гэта часта бывае, дастаткова аднаго чалавека, непадобнага на іншых, каб з'явіўся той светлы прамень, які надасць упэўненасці. Такім промнем для У. Калесніка стаў прыход у гімназію прафесара Крука, выкладчыка малюнка і ручной працы.



*Ул. Калеснік з Я. Брылём, 1985 г.*

Пра гэты момант Уладзімір Андрэевіч з прыязню ўспамінаў у аўтабіяграфіі "Сваім следам", напісанай яшчэ ў 1964 годзе і змешчанай у кнізе жыццяпісаў беларускіх пісьменнікаў "Пра час і пра сябе" (1966):

"— Валодзю, — гаварыў ён, — бяры ключы ад майстэрні і пасля заняткаў рабі сабе, што захочаш. Набівай руку.

Я маляваў, тачыў на станку, займаўся разьбой па дрэве. Рабілі мы з ім на пару розныя драбніцы — настольныя лямпы, шкатулкі, падстаўкі, рамачкі — усё ў мадэрным стылі. Ён прыносіў мне кнігі, часопісы, малюнкі, і я хутка засвоіў прынцыпы харастава ў прыкладным мастацтве... Сам я маляваў акварэлі то рэалістычныя з натуры, то стылізаваныя ў кубісцкім духу. Прафесар Крук быў прыкладнік і далікатна адгаворваў мяне ад выяўленчага жывапісу як такога..."

Уладзімір Калеснік нават марыў стаць "крытыкам жывапісу" і "пісаць пра карціны па-польску так, як піша славуты Віткевіч або Герсан-Дамброўская", артыкулы якіх ён "прачытаў ад коркі да коркі ў першым і другім класе гімназіі". А па-польску таму, што польская мова яму ў гімназіі, як, дарэчы, і іншым вучням-беларусам, давалася цяжка. Настаўніца ж, якая неяк прынесла ў клас "па паштоўцы з рэпрадукцыямі і загадала апісаць", "прытрымлівалася прынцыпу, што беларусы ніколі не могуць знаць польскую мову больш як на "тройку". Ну і характво адчуваць — мабыць, таксама".

Тым самым хацеў даказаць, што гэта не так... Даказаць, стаўшы крытыкам жывапісу і пішучы менавіта па-польску.

Але было яшчэ адно захапленне — беларуская літаратурай. І адпаведнае жаданне: "Пад уражаннем Палескіх аповесцей я рашыў змяніць свае планы на будучае. Не буду крытыкам мастацтва, стану вясковым настаўнікам. Буду вучыць дзяцей. Буду жыць і працаваць з чыстым сумленнем, як Андрэй Лабановіч. А маляваць буду для сябе, для прыемнасці".

І маляваў "для сябе", і "для сябе" фатаграфаваў. Але лепшыя з яго аматарскіх здымкаў па кампазіцыйнай завершанасці, уменню адчуць фактуру смела могуць спаборнічаць з работамі прафесіяналаў. І ў гэтым таксама праяўленне таленту У. Калесніка.

Аднак усё яшчэ было наперадзе — і маляванне для душы, і фатаграфаванне для душы. Наперадзе была і вайна, якой, як вядома, папярэднічала ўз'яднанне былой Заходняй Беларусі з Беларуссю Савецкай.

Як і пераважная большасць жыхароў, вітаў яго. Вітаў, бо бачыў вонкавы бок і не ведаў таго, што, як кажуць, "за кадрам". І калі перайшоў на вучобу ў Навагрудскае педагагічнае вучылішча, настрой таксама па-

КНІГАРНЯ

# "Залатыя стрэлы на блакітным полі..."

У свой час асаблівай папулярнасцю, трывалым попытам у чытача рэгіянальнага карысталіся кнігі, прысвечаныя гарадам Беларусі. Выходзілі яны ў "Беларусі" і "Полымі". Нічога незвычайнага ў кнігах не было. Сапраўды гісторыі, краязнаўства ў большасці нарысай памерам у пяцьдзесяц друкаваных аркушаў было не дужа багата. Кнігі адпавядалі тагачасным ідэалагічным запатрабаванням. Але ж у любым выпадку пяць-дзесяць тысяч асобнікаў нарыса (прыкладам, пра Баранавічы) могуць элементарна разысціся (і разыходзіліся) сярод мясцовага насельніцтва, па мясцовых бібліятэках. Праўда, справядлівасці дзеля, трэба заўважыць, што былі кнігі і досыць адметныя. З тых, што і з чужой мясцовасці чытачу падаваліся цікавымі. Гэта і кнігі-даследаванні Генадзя Каханоўскага, Міколы Калінковіча, некаторых іншых аўтараў.

Але з часам утварыўся пэўны вакуум. Выдавецтва "Полымя" занялося іншымі, болей цікавымі праектамі. У тым ліку — і вяртаннем да шырокага ўжытку кніг-даследаванняў мінулага стагоддзя. І падобная выдавецкая практыка зразумелая, апраўданая, з улікам росту чытацкіх зацікаўленняў, чытацкай дасведчанасці.

Але ўявіце сабе, што на месцы, у тым альбо іншым раёне, дзе ідзе краязнаўчая работа, дзе працуюць апантаныя, руплівыя краязнаўцы, плёну ў сэнсе даходжання да чытача радавога няма. Настаўнікі расказваюць пра свой родны Чэрвень, а кніжку параіць прачытаць — не могуць. Багацейшы гістарычны лёс у Мар'інай Горкі, а, зноў жа, не маюць жыхары горада і ваколіцы своеасаблівай мясцовай энцыклапедыі.

Оршы, якая толькі што адзначыла свой 930-гадовы юбілей, пашчасціла. У выдавецтве "Полымя" выйшла кніга Святаслава Асіноўскага "Орша: Залатыя стрэлы на блакітным полі". Жанр яе вызначаны наступным чынам: ілюстраваны храналагічны даведнік. У выдавецкай анатацыі слушна заўважаецца: "Кніга з'яўляецца першым на Беларусі багата ілюстраваным храналагічным даведнікам, прысвечаным асобнаму гораду..." І далей: "Яскрава паказана месца і значэнне Оршы і звязаных з ёю падзей у агульнай еўрапейскай гісторыі".

Аўтар рэканструіруе аршанскую даўніну (пачынаючы з XI тысячагоддзя да нашай эры), укладвае яе ў кантэкст тых падзей, што адбываліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Расказваючы пра стаянкі старажытных людзей, С. Асіноўскі не забываецца падаць інфармацыю пра акселератаў, якія зрабілі адкрыццё. Выкладаючы тое альбо іншае меркаванне адносна аршанскай гісторыі, падкрэслівае характар яго паходжання, аўтарства. Як прыклад — наступны артыкул: "Канец III тысячагоддзя да н.э. Паўночны ўсход Беларусі (на думку А. Рагалёва, вучонага з Гомеля) насялялі плямёны угра-фінаў. Прарадзімай іх лічыцца Паўночны Урал. Існаванне гэтых паселішчаў на Аршаншчыне ўскосна пац-

наваў святочны. І справа не ў нейкай прапагандзе. Проста пашчасціла У. Калесніку, што побач аказаліся сумленныя людзі: "З першымі часцямі Чырвонай Арміі прыйшоў дзядзька, бацькаў брат, высокі ў чорнай казацкай бурцы, з маёрскімі шпаламі на пятліцах і вялікай рудою барадой". Ім нельга было не захапляцца і яму нельга было не верыць. А тут яшчэ ў педвучылішчы "настаўнікі гавораць... як з роўнымі, трактуюць нас як дарослых".

У гады вайны — ужо ў ліпені сорак першага — У. Калеснік прымаў удзел у стварэнні падпольных антыфашысцкіх арганізацый і баявых дружын, а летам наступнага года ў складзе адной з іх уступіў у партызанскі атрад, з восені камандаваў узводам. Яшчэ праз год стаў начальнікам штаба атрада "2-гі Камсамольскі" брыгады "Камсамолец" Баранавіцкага злучэння.

Перажыта было шмат, не менш пабачана. І хоць у сваёй творчасці Уладзімір Андрэевіч не абыходзіў увагай ваенных падзей, пісаць уласныя разгорнутыя ўспаміны не спяшаўся. Разумеў, што патрэбны час, каб пра ўсё пагаварыць аб'ектыўна, непрадузята і каб можна было сказаць праўду.

І сказаў. У сваёй новай кнізе "Голы бор" — кнізе, якая, на жаль, яшчэ не прыйшла да чытача. Але адзін раздзел з яе пад назвай "Блакада" часопіс "Беларусь" пачаў публікаваць у сваім восьмым нумары за 1994 год. Сам У. Калеснік, як вядома, на той час быў ужо цяжка хворы. І не дачакаўся канца публікацыі — не стала Уладзіміра Андрэевіча 15 снежня 1994 года.

"Блакада" — гэта ў многім тое, чаго пра партызанства раней не пісалася. "Блакада" — асабіста перажытае і выпакутаванае. "Блакада" — споведзь спакутаванай душы. Па сапраўднай праўдзе. Трэба спадзявацца, зацікавіць чытача і яшчэ адна аповесць У. Калесніка "Доўг памяці", якую абяцае надрукаваць у бліжэйшых нумарах часопіс "Полымя". Яна таксама пабудавана на аўтабіяграфічным матэрыяле і яна ж свайго роду падагульненне пройдзенага шляху. Прынамсі, асобных, найбольш памятных момантаў асабістага жыцця.

Прыходу ж у літаратуру У. Калеснік, як прызнаўся ў аўтабіяграфіі, "абавязаны перш за ўсё Янку Брылю", з якім пазнаёміўся ў партызанах. Бываючы ў Мінску на кватэры ў Івана Антонавіча, мог з ім шмат разважаць пра літаратуру, слухаць толькі што напісанае сябрам — Я. Брыль "меў тады звычку чытаць свае свежыя рукапісы, як бы правяраючы напісанае на жывым чалавеку".

Шмат дала таксама вучоба ў Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага на філалагічным факультэце, пасля — у аспірантуры пры гэтай вышэйшай навучальнай установе. З 1952 года Уладзімір Андрэевіч звязаў свой лёс з выкладчыцкай дзейнасцю. Працаваў у Бабруйскім настаўніцкім інстытуце, а з 1956 года загадваў кафедрай беларускай літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна.

З першымі артыкуламі выступіў у друку ў 1953 годзе. І адразу знайшоў творчую дзялянку, да распрацоўкі якой іншыя тады амаль не падступаліся — пачаў даследаваць заходнебеларускую літаратуру. Паступова гэтая арыенціроўка стала справай жыцця, што засведчылі кнігі "Паэзія змагання. Максім Танк і заходнебеларуская літаратура" (1959), "Час і песні" (1962), "Зорны спеў" (1975), "Ветразі Адысея. Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі" (1977), "Тварэнне легенды" (1987) і іншыя.

У гэтых зборніках ёсць і згадкі пра літаратараў, якія пасля сталі знакамітымі, але сваю творчую працу пачыналі ва ўмовах заходнебеларускай рэчаіснасці. Пацвярджэнне гэтага кірунку і кнігі "Максім Танк. Нарыс жыцця і творчасці" (1981) і "Янка Брыль. Нарыс жыцця і творчасці" (1990). А да ўсяго У. Калеснікам складзены зборнікі паэзіі Заходняй Беларусі "Сцягі і паходні" (1965) і "Ростані волі" (1990).

Заходнебеларускі матэрыял дамінуе і ў апошняй кнізе пісьменніка "Усё чалавечае" (1993). Найбольшую цікавасць у ёй уяўляе нарыс "Пражскі эпісталярый", у якім дадзена шырокая і праўдзівая панарама літаратурнага, культурнага і палітычнага жыцця Беларусі 20—30-х гадоў і ўдзелу ў ім літаратараў, асветнікаў, палітыкаў, чыё жыццё было звязана з былымі "ўсходнімі крэсамі". У полі зроку У. Калесніка — Антон Луцкевіч, Ігнат Дварчанін, Тамаш Грыб, той жа Уладзімір Жылка...

Дарэчы, сама назва — "Усё чалавечае" — сёння, калі ўжо Уладзіміра Андрэевіча няма з намі амаль тры гады, набывае асаблівы сэнс. Нішто чалавечае не было чужое і яму. І найперш тое, што тычылася беларускасці, нацыянальнага Адраджэння. У. Калеснік не паўтараў гэтыя словы, як асобныя з тых, хто гатовы цяпер лічыць сябе прарокам, а рабіў сваю справу. Няспынна. Штодзённа. Мэтанакіравана. І праяўлялася яна не толькі ў творчай працы. Нямала зроблена У. Калеснікам па падтрымцы маладых літаратараў. І калі яны яшчэ вучыліся ў пединстытуце, і калі толькі ўваходзілі ў літаратуру — а Уладзімір Андрэевіч, як вядома, у 1956—1970 гадах узначальваў Брэсцкае абласное літаратурнае аб'яднанне, з 1981 па 1983 год з'яўляўся сакратаром Брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. І шмат пісаў пра тых, у кім бачыў надзею, на каго спадзяваўся, з кім звязваў далейшае адраджэнне Бацькаўшчыны.

Сімвалічна, што яго апошні артыкул, карэктуру якога паспеў вычытаць — "Паэтаў лёс і воля-нявольніца" ("Полымя", 1994, N 12), прысвечаны творчасці аднаго з найбольш таленавітых прадстаўнікоў маладзейшага пакалення берасцейскіх літаратараў Алеся Каско.

У. Калеснікам для літаратуры зроблена вельмі шмат. А аб значнасці напісанага ім яскрава сведчыць і такі факт. Як вядома, доўгі час сярод літаратурных прэмій, што прысуджаюцца Саюзам беларускіх пісьменнікаў, не было асобнай прэміі па крытыцы і літаратуразнаўстве. Калі вырашылі яе прысуджаць, вагаліся, чыё імя яна павінна насіць. У рэшце рэшт пагадзіліся — імя Уладзіміра Калесніка.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

вярджаецца мясцовай тапанімікай. Ёсць меркаванні, што тапонім "Орша" — угра-фінскага паходжання і азначае — праточная вада, рака, або вада, якая цячэ ў рэчышчы".

Праўда, ужо адразу ўзнікае наступная думка. Чаму б не даваць дакладна крыніцу, дзе гаворыцца, выказваецца тое альбо іншае меркаванне? Тым самым кніга займела б большую навуковую грунтоўнасць, яна б падштурхнула чытача да далейшага пошуку, да далейшага даследавання.

Перайшоўшы разам са сваёю энцыклапедыяй у пятнаццатае стагоддзе, С. Асіноўскі згадвае пад 1484 годам: "У дакументах упершыню згаданы Смаляны (вёска ў аршанскім раёне)". І следам — падрабязны, цёплы аповед пра вёску. Калі не памыляюся, Смаляны — родная вёска аўтара. То, магчыма, якраз тут і хаваюцца пазнакі, штрыхі ў наступную кнігу аўтара "Аршанскай энцыклапедыі"? Смаляны, безумоўна ж, вартыя асобнай кнігі.

Гартаючы і чытаючы "Оршу"...", затрымаўся на 358 старонцы. Тут пачынаецца аповед пра год — год усталявання Савецкай улады ў Оршы. І здзівіўся, колькі ж мала старонак засталося ў кнізе на асвятленне савецкага часу — усяго 70! Здзівіўся і парадаваўся, што так багата прадстаўлена даўніна. Раней жа было — наадварот. Дзесяць старонак — на ўсю мінуўшчыну. Астатняе — на савецкі перыяд.

Важка прадстаўлена ў кнізе дзевятнаццатае стагоддзе. Яно і зразумела. Пра яго — вялікая колькасць крыніц і ілюстрацыйнага матэрыялу. І аўтар напоўніцу выкарыстоўвае гэты шанц, адбіраючы цікавыя, адметныя аршанскія, скажам так, факты.

Уладзімір Арлоў у прадмове да "Оршы"..." даў наступную ацэнку кнізе С. Асіноўскага, падкрэсліўшы, што яна "вабіць ужо загадкава-прыгожаю назвай "Залатыя стрэлы на блакітным полі...". Магчыма, не кожны жыхар сённяшняй Оршы ведае, што гэта — герб яго роднага горада. Горада з зайздросным лёсам, які "пісалі" князь Усяслаў Чарадзей і ваяры гетмана Канстанціна Астрожскага, адукаваныя манахі Куцінскага манастыра і камандзір інсургентаў 1863 года Ігнат Будзіловіч... Не, зусім невыпадкова гэты горад даў Беларусі Уладзіміра Караткевіча, аповесці і раманы якога зрабілі ў свой час, напэўна, болей за цэлы акадэмічны Інстытут гісторыі. "Залатыя стрэлы" раняць соннага, але смяротна небяспечнага звера — бяспамяцтва, які застаўся ў многіх з нашых суайчыннікаў. На добры лад, кнігу накшталт той, якую вы зараз трымаеце ў руках, павінен дачакацца кожны са старажытных беларускіх гарадоў: Полацк і Наваградак, Горадня і Нясвіж, Ліда і Слуцк... Няхай гэта здарыцца яшчэ ў нашым стагоддзі".

Няхай бы збыліся гэтыя словы пісьменніка.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

---

БЛІЦ-КРЫТЫКА

# Карабас-Барабас у функцыі Карамзіна

***Сёння ў рубрыцы "Бліц-крытыка" — меркаванні пра творы Вітаўта Чаропкі (апавяданне "La bagatelle са смерцю", зборнікі гістарычнай прозы). Як нярэдка здаралася і раней, падчас абмеркавання ўвагу рэспандэнтаў прыцягвалі не толькі заяўленыя для абмеркавання творы, але асоба самога аўтара, і яго творчасць у цэлым. Свае думкі выказалі Пятро Васючэнка, Галіна Каржанеўская, Таццяна Мушынская, Раман Тармола-Мірскі, Галіна Тварановіч, Алесь Туровіч, Міхась Тычына, Юры Станкевіч, Алена Яскевіч. Нагадваем, што пералік прозвішчаў даецца ў алфавітным парадку, які не супадае з парадкам друкавання адказаў.***

Наша айчынная гістарыяграфія, гістарычны працэс выглядае такім збедненым і бляклым, бо мы вывучаем, даследуем сацыяльна-грамадскія працэсы, а не гісторыю постацей, з усім багаццем духоўнага свету асобы. Шчаслівым выключэннем сталіся кнігі Вітаўта Чаропкі "Імя ў летапісе" і "Уладары Вялікага княства Літоўскага".

●

Вітаўт Чаропка робіць тое, што ў рускай літаратуры рабіў Карамзін — спрабуе белетрызаваць гісторыю. Гэта яму ўдаецца лепш, чым эратычныя шуканні ў прозе.

●

Вітаўт Чаропка імкнецца быць арыгінальным. Але там, дзе ён выходзіць за межы сваёй гістарычнай дзялянкі, ён нешта страчвае. Яму пажадана заставацца на гістарычным палетку. Творы, што друкаваліся ў "Крыніцы", падаліся мне надуманымі, змрочнымі і разбуральнымі для чытача.

●

Вітаўта Чаропку як пісьменніка я ведаю найперш дзякуючы ягоным цудоўным кнігам "Імя ў летапісе" і "Уладары Вялікага княства". Гледзячы на гэтыя ўнушальнага памеру тамы, якія змяшчаюць сапраўды унікальны матэрыял, ці не ўпершыню ўведзены ў грамадскі ўжытак, цяжка паверыць, што аўтар іх — даволі малады чалавек, дый у дадатак не гісторык па адукацыі.

Шкадую, што гэтыя (ці аналагічныя) кнігі не трапіліся мне ў рукі гадоў дваццаць назад.

Невыпадкова акцэнтую я ўвагу менавіта на гэтых кнігах, бо лічу, што фарміраванне свядомасці цяперашніх дзяцей і падлеткаў, фарміраванне тых ідэалаў з гісторыі, на якія трэба ўвесь час азірацца і з якімі суадносіць цяперашнія падзеі, — задача, не пабаімся гучных слоў, агульнанацыянальная. Яна непараўнальна больш важкая і глабальная, чым унутрылітаратурныя спрэчкі і дыскусіі. І кнігі Чаропкі такую задачу вырашаюць.

У нядаўнім апавяданні, надрукаваным у "ЛіМе", — "Інтрыжка са смерцю" — відавочны ўплыў заходняй прозы, яго найноўшых кірункаў. Але пісьменнік займаецца не дэманстрацыяй уласнай дасведчанасці, а менавіта такім чынам адлюстроўвае складанасць свету, шматпланавасць, шматслойнасць чалавечай псіхікі — таксама.

●

Амаль пастаянна рэйтынг-каэфіцыент, які набірае Вітаўт Чаропка сярод крытыкі, ужо гаворыць сам за сябе. Усё больш спрактыкаваным становіцца ён, як аўтар аповесцяў і апавяданняў: і ў галіне формы, і ў майстэрстве выканання твораў. Пра гэта сведчыць і яго аповед у чэрвеньскім нумары "ЛіМа" "La bagatelle са смерцю", хаця ён і грашыць своеасабовай квазізалітаратуранасцю. Усё-ткі мелі рацыю папярэднікі, калі казалі, што "сэнс мастацтва — хаваць яго".

●

*На князях не пастаўлена кропка,*
*Можа здарыцца роду працяг,*
*Як абкняжыцца Вітаўт Чаропка*
*У пісьменстве на нашых вачах...*

*Ёсць падставы ў яго азірацца*
*На мінуўшчыну зараз, цяпер,*
*Калі князем і плебс хоча звацца,*
*Падсучасніўшы гэты намер.*

●

Спецыялісты па старажытных мовах сцвярджаюць, што на грунце ўсяго адной фразы, часам без пачатку і без канца, можна ўзнавіць вобраз чалавека, аўтара гэтай фразы. У Вітаўта Чаропкі мяне здзіўляе менавіта гэта — умельства стварыць на грунце двух-трох сказаў з "Летапісу пра Рагнеду" адразу некалькі гістарычных версій, у верагоднасць якіх ахвотна вершы. Такая багатая і нечаканая фантазія гэтага празаіка.

Праўда, часам узнікае сумненне ў сур'ёзнасці намераў Вітаўта Чаропкі. Асабліва, калі чытаеш такія яго опусы, як "Эрагенная зона". Тады эратычныя снабачанні задужа збліжаюцца з парнаграфіяй, а літаратурны жанр — з зусім нелітаратурным жахам.

●

Вітаўт Чаропка ўяўляе сабой вельмі паказальны прыклад беларускага інтэлігента. Прафесійна яшчэ ніяк не звязаны з літаратурай, здаецца, ён працаваў рабочым і, што называецца, "выседзеў" свае тэксты ў бібліятэках. На працягу апошніх год у кнігарнях увесь час можна было бачыць яго розныя кнігі, ён праявіўся як яскравы папулярызатар гісторыі ў газетах і часопісах, рэдактар (у мяне на паліцах да гэтага часу стаяць рэдагаваныя ім часопісы "Хрысціянская думка"), празаік (творы трэба было чытаць, бо ўваходзілі ў праграму філфака БДУ). Да таго Чаропка быў адным з нефармальных рухавікоў літаб'яднання "Крыніцы", з якога пасля вырас часопіс для пачынаючых літаратараў "Першацвет". Разам з тым не даводзілася чуць, каб ён актыўна праяўляў сябе ў якіх-небудзь сацыяльных структурах (Саюзе пісьменнікаў, ТВЛ, ці дзе-небудзь яшчэ), акцыях. Ён проста аўтар, чый вобраз звязваецца толькі з яго тэкстамі, ды, бадай, беларускай літаратурай.

●

Вось і з'явілася ў нас сваё "фэнтэзі": казка пра пісьменніка Вітберга, які перамог саму Смерць. Аўтар і не падумаў надаць герою рысы пераканаўчасці, ні характару, ні знешніх прыкмет, ні нацыянальнасці ў таго няма. Ёсць просценькі сюжэт, ёсць глыбакадумныя развагі, ёсць атачэнне ў выглядзе дзіўных персанажаў з рускімі імёнамі (у замежнай краіне?!). Акрамя таннай містыкі і гэткай самай філасофіі, у апавяданне не ўкладзена нейкіх дарагіх для празаіка, выпакутаваных ісцін, пануе голая канструкцыя. Са сваімі героямі В. Чаропка абыходзіцца, як Карабас-Барабас з зацюканымі вулічнымі артыстамі. І добра, калі толькі ў гэтым творы...

**У наступнай рубрыцы "Бліц-крытыкі" прапануецца для абмеркавання аповесць Віктара Казько "Да сустрэчы" ("Полымя", N 5, 1997 г.). Свае меркаванні можна выказаць пісьмова ці па тэл. 233-19-85 рэдактару аддзела крытыкі Людміле Рублеўскай.**

## Памятаюць у Ганцавічах Праскурава

У Ганцавічах нарадзілася добрая традыцыя — штогод праводзіць чытанні, прысвечаныя вядомаму пісьменніку-нарысісту, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васілю Праскураву, большая частка жыцця якога звязана з гэтым палескім горадам, у якім Васіль Фёдаравіч працаваў рэдактарам газеты "Савецкае Палессе". Для правядзення Праскураўскіх чытанняў выбрана 25 жніўня — дзень нараджэння пісьменніка, які свой талент аддаў служэнню людзям, з якімі назаўсёды парадніўся, хоць сам нарадзіўся далёка адсюль, у Дубровенскім раёне на Віцебшчыне.

Сёлета ў раённым Доме культуры сабраліся настаўнікі беларускай мовы і літаратуры вясковых школ Ганцаўшчыны, члены мясцовага літаратурнага аб'яднання і ўвогуле ўсе, хто любіць творчасць В. Праскурава.

Перад прысутнымі выступілі зямляк ганцаўцаў, вядомы празаік і паэт, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа В. Гардзей, дэпутат Нацыянальнага сходу А. Свірыд, рэдактар раённай газеты І. Амяляшчык, дырэктар бібліятэчнай сістэмы Т. Валуевіч.

У гэты ж дзень у памяшканні Дома культуры была разгорнута і выстаўка кніг знакамітага беларускага этнографа і фалькларыста І. Сержпутоўскага, які, як вядома, шмат матэрыялаў сабраў у ваколіцах вёскі Чудзін, што цяпер знаходзіцца на тэрыторыі Ганцавіцкага раёна.

## Флабэр на беларускай мове

Адзін з самых вядомых твораў класіка французскай літаратуры Гюстава Флабэра гістарычны раман "Саламбо", у якім расказваецца аб паўстанні наёмных войск супраць рэспублікі Карфаген у трэцім стагоддзі да нашай эры, выдавецтва "Ураджай" выпусціла ў серыі "Школьная бібліятэка" ў перакладзе на беларускую мову Віктара Гардзея. Прадмову, у якой расказваецца пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка і пра гэты раман, напісала Т. Луцэнка.

## Дарунак землякам

Нядаўна ў Старадарожскай гарадской цэнтральнай бібліятэцы ў вестыбюлі з'явілася фігура нашага знакамітага першадрукара і асветніка Францішка Скарыны, выкананая скульптарам Сяргеем Адашкевічам. А падараваў гэтую скульптуру сваім землякам выкладчык Беларускага дзяржаўнага універсітэта, вядомы руплівец на нацыянальнай ніве і калекцыянер Анатоль Белы. У дадатак ён перадаў і 103 графічныя работы, 17 медалёў, медальёнаў і плакатаў з выявамі славутых паэтаў, празаікаў, дзеячаў культуры Беларусі, аўтарамі якіх з'яўляюцца вядомыя мастакі Я. Бусел, М. Герус, Я. Ціхановіч, Б. Ткачук і іншыя. Гэтыя творы з калекцыі А. Белага будуць экспанавацца ў мясцовым Цэнтры эстэтычнага выхавання моладзі. У будучым Анатоль Яўхімавіч мае намер перадаць яшчэ частку сваёй калекцыі будучаму мастацкаму музею, што адкрыецца ў Старых Дарогах.

Перадача дарункаў мінскага калекцыянера землякам была прымеркавана да Дзён беларускага пісьменства і друку. З нагоды гэтага ў бібліятэцы прайшло свята. Словы ўдзячнасці А. Беламу сказалі ад імя ўсіх прысутных і мясцовага кіраўніцтва загадчык Старадарожскага раённага аддзела культуры А. Галота і намеснік старшыні райвыканкама А. Міхайлаў.

## Той Карынфскі, які...

Кніга "Народная Русь" Апалона Карынфскага, якая выйшла ў выдавецтве "Московский рабочий", як быццам не з тых выданняў, пра якія паведамляе "ЛіМ": у гэтай кнізе ўзнаўляюцца старонкі духоўнай культуры Расіі, а калі канкрэтней — пераважна Паволжа. Тым не менш не згадаць пра яе нельга, бо А. Карынфскі — паэт, перакладчык — мае дачыненне і да беларускай літаратуры. Ён быў знаёмы з Янкам Купалам і стаў адным з лепшых перакладчыкаў яго твораў на рускую мову, пачаўшы пераўвасабляць іх яшчэ ў 1913 годзе.

ПАЭЗІЯ

Васіль САХАРЧУК



# Ля падножжа гары

### Шалі

*Вузее кола*
*маіх аднадумцаў,*
*шырэе круг*
*маіх спрэчнікаў,*
*але*
*глыбее маё разуменне:*
*я сапраўдны*
*не з тымі,*
*хто "за",*
*і не з тымі,*
*хто "супраць",*
*а толькі сам-насам з сабою,*
*узброены*
*нябачнымі вагамі,*
*на якіх*
*ніяк не ўтаймуюцца*
*шалі —*
*мае ўласныя*
*і боскія*
*"за" і "супраць".*

### Спакусніца

*Пагляд акруглена-здзіўлёны,*
*падробнай сціпласцю замглёны,*
*у адначасе палахлівы,*
*распусна-вабны і цнатлівы,*
*салодка-мляўкі, даўка-горкі,*
*а вочы ззяюць, быццам зоркі.*

### Балада маўчання

*— Прыеду праз тыдзень, —*
*сказаў сын бацьку*
*і пацалаваў яго на развітанне,*
*яшчэ не ведаючы:*
*апошні раз.*

*— Прыязджай заўтра, —*
*адказаў яму бацька*
*і квола пацiснуў руку на развітанне,*
*ужо ведаючы:*
*апошні раз.*

*І ўсе,*
*хто быў у хаце,*
*заплакалі.*
*І толькі ў бацькі*
*вочы засталіся сухія.*

*Гэта было*
*ў нядзелю.*
*Сын паехаў,*
*а заўтра на раніцу*
*бацька сказаў:*

*— Сёння я памру,*
*але не турбуйце*
*тых, хто далёка.*
*Яны мяне бачылі,*
*а цяпер — не паспеюць.*
*А праз дзень была вячэра...*

*...і сын дакараў сябе,*
*што паехаў...*

*...і сястра дакарала брата,*
*што не застаўся...*

*...і тыя, хто прыехаў здалёку,*
*дакаралі сябе, што не паспелі...*

*...і ніхто не быў вінаваты,*
*і ўсе былі вінаватыя...*

*І маці сказала:*
*— Вас столькі,*
*а я адна —*
*ужо нічыя —*
*і маўчу.*
*То й вы,*
*напалову нічыйныя,*
*лепш памаўчыце.*
*Сляпы і глухі,*
*Ён усё бачыць і чуе,*
*але таксама маўчыць,*
*бо ўсім дараваў*
*і крыўды*

Васіль ЖУКОВІЧ



# Жыцця метамарфозы

### Сорам

*Вучыцель і мучыцель ты, мой сорам.*
*Ты — праўды друг,*
*маны і фальшу — вораг.*
*Ты — плод сумлення ці яго карань?*
*Не ў стане жыць я без твайго дакору.*

*Ты — мая ўлада, я — твая пакора,*
*мая ахова ты, мая апора,*
*мой чуйны камертон у шчасці й горы,*
*ты — мой агмень і на агмені порах.*

*Гару за крок свой невысакародны,*
*за словы свае рэзкае не раз,*
*за позірк неапраўдана халодны,*

*паспешны суд, марудлівы адказ,*
*за здрады блізкіх і заганы родных*
*і за дзяржаву родную падчас.*

### Жаданне

*Хачу кахаць, кахаць і быць каханым,*
*зусім на адзіноту не хварэць —*
*у полымі двaіх часцей гарэць,*
*вясёлым, чыстым і самаадданым.*

*Што небам добрым мне наканавана?*
*Хачу адно жаданую сустрэць.*
*Паняцце ўсім вядомае с т а р э ц ь*
*да старасці хай будзе неспазнана.*

*О, вы, мае памкненні, мроі, крозы!*
*Адно не здрадзіць — збыцца вас прашу,*
*я ведаю жыцця метамарфозы...*

*Так нечакана споведзь завяршу:*
*зіма калісьці апячэ марозам,*
*а зараз лета ў сэрцы я нашу.*

### Чаму ж ты позірк свой хаваеш?

*Агонь не баіцца агню...*
*Чаму ж ты свой позірк хаваеш?*
*Ты вейкі дарма апускаеш:*
*агонь не баіцца агню.*

*Няўжо гэтак не адчуваеш:*
*нікім цябе не замяню!*
*Агонь не баіцца агню.*
*Чаму ж ты свой позірк хаваеш?*

### Дыпціха ціхі акорд

Марыі ЗАХАРЭВІЧ

*І*
*Трапяткое сэрца — на далоні сцэны...*
*Бацькаўшчыны цяжкі шлях яму баліць.*
*Трапяткому сэрцу не існуе сценаў,*
*што маглі б ад свету ўзяць і аддзяліць.*

*Да людзей дарога — шчодры дар ад Бога.*
*Трэба ж так ахвярна, мужна так любіць*
*і ў палове Слова і жыцця чужога*
*самасці не страціць, — так, сабою быць!*

*2*
*Ні маланкі, ні вясёлкі...*
*Нават гром і той маўчыць.*
*Больш не клічуць Навасёлкі*
*летам трошкі адпачыць.*

*Сірата без мамы хата.*
*Каля плоту ў крапіве*
*вінавата, слепавата*
*вокнамі глядзіць на свет.*

*Навасёлкі — боль сардэчны.*
*Родны край ужо — не рай...*
*Найраднейшы брат стрыечны,*
*братка, госцю сустракай!*

*Край любімы, край азёрны,*
*ты пабудзь з дачкой сваёй*
*і мінорны на мажорны*
*замяні яе настрой.*

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА



### Снегапады

Олі

*1*
*Праз далягляды наўздагад*
*Прыйшоў з радзімы снегапад*
*На нашу вуліцу, ў наш сад.*
*Пасланец неба, — снегапад*
*Мяне з табой благаславіў,*
*Святочны здзейсніўшы*
*абрад...*

*2*
*Нібы вярнуўшыся назад,*
*Прыйшоў з юнацтва снегапад,*
*Да слёз крануўшы,расцяплiў*
*І мой пагляд і твой пагляд.*
*І так пяшчотай агарнуў,*
*Нібы ў юнацтва*
*нас вярнуў...*

●

*Як доўга я ўдачы не ўбачу,*
*Прыеду ў Падольцы,*
*На дол*
*За вёскай упаўшы,*
*заплачу,*
*Уткнуўшыся полю ў падол.*

*Дзе калісь дзяды працавалі,*
*Бацькі шчыравалі ў адно:*
*Шмат сілы яму аддавалі,*
*Ды болей вяртала яно.*

*Ўспамін жа то ржышчам уколе,*
*То зёлкай прылашчыць:*
*Увысь*
*Глядзеў я маленькі —*
*ў прыполе*
*Вось гэтага поля*
*калісь.*

*Такое ў яго біяполе,*
*Што поле мне ўпасці не дасць:*
*Адцягне ўсе крыўды і болі,*
*Мне сілы і моцы надасць.*

*Я болей ад шчасця заплачу,*
*Як змыю слязамі тугу:*
*Вялікай удачай убачу,*
*Што бачыць Айчыну магу...*

### Памяці Казіміра Сваяка

*Вёсачка Барані — за барамі —*
*Мілая радзімка Сваяка,*
*Дзе ўзяла пачатак свой у ранні*
*Слынная жыцця яго рака.*

*Слухалі тут белыя бярозкі*
*І пачуў нарэшце белы свет*
*Як з чароўнай Музай-беларускай*
*Шчыра гаварыў Сваяк-паэт.*

*цяпер ні на кога*
*не мае.*

## Дзень святога Валянціна

*Дзіўна жывуць людзі:*
*з аднымі сварацца,*
*другім дагаджаюць,*
*адных любяць,*
*другіх ненавідзяць,*
*да адных ідуць,*
*другіх абыходзяць,*
*а пасля наіўна здзіўляюцца:*
*чаму ў свеце*
*столькі звадак, нянавісці і раўнадушша?*
*І я таксама здзіўляюся:*
*чаму?*
*І нехта за мяне адказвае:*
*не пытайся пра гэта*
*ў іншых, пытайся пра гэта*
*ў сябе,*
*а сёння*
*зусім не задавай пытанняў,*
*а проста*
*кажы альбо думай:*
*— Я вас люблю...*

## Гара

*Вяршыню адолеў і долу сышоў,*
*а ісціну ўсё-ткі ў падножжы знайшоў.*
*Банальна, ды будзе да скону вякоў:*
*усё да мяжы, да пары...*
*Цяжкі быў шлях мой туды і назад.*
*Доўжыўся ён паўжыцця акурат.*
*Стаю ля падножжа гары...*

---

*Шлях вяртання — немінучы,*
*ён у два канцы вядзе,*
*і прывабны, і гаючы,*
*да людзей усё ідзе.*

*Не забыты ролі, словы.*
*Затужылі гледачы.*
*І сезон на носе — новы,*
*там афіша не маўчыць.*

*Там паэзія і драма*
*апантаную завуць.*
*Да купалаўскага храма*
*зноў паломнікі ідуць.*

●

*Святло сонца й зорак люблю я,*
*а сняцца мне прыцемкі, змрок.*
*Стаміўся душы маёй зрок:*
*святынямі нехта гандлюе,*
*а хтось на памінках балюе.*
*Стаміўся душы маёй зрок.*

*Люблю я прыемныя чуткі,*
*а чую шмат вестак благіх.*
*Стаміўся душы маёй слых;*
*але ў яе цесным закутку*
*спадзеў на збавенне ад смутку*
*не гасне ад вестак благіх.*

●

*— Срэбра плоці жанчынай падорана, —*
*кажаш ты, — захапляючы дар!*
*Гэтак шчодра ты ёю адораны —*
*ты цудоўнай красы валадар!*

*Валадар ці слуга, ясны сокале?*
*Ты гатовы той дар ацаніць?*
*Знай: за срэбра ды пробы высокае*
*трэба золатам волі плаціць!*

---

*Моў прыгожых ёсць на свеце многа,*
*Ды найпрыгажэйшая — свая.*
*Як на беларускай мове з Богам*
*Годна размаўляў святар Сваяк.*

*Колькі гора наш народ пабачыў,*
*Колькі здзекаў люд наш перанёс!*
*І маё часамі сэрца плача,*
*Што такі у роднай мовы лёс.*

*Толькі ўсё ж я скрусе не скаруся:*
*Ёсць яшчэ на свеце сваякі,*
*Што ўтрымаюць гонар беларусаў —*
*Жыцьме Беларусь вякоў вякі!..*

●

*На пагорку гэтым*
*гэты свет*
*Ім сышоўся клінам*
*жураўліным.*
*Быццам ад купальскага кастра —*
*Знічка тут каліну падпаліла.*

*Быццам пальцы радасныя рук,*
*Травы дзвюх магіл перапляліся.*
*Быццам на Купалле,*
*два вянкі,*
*Толькі пад крыжамі ўжо,*
*спляліся...*

ПРОЗА

**Апавяданні, мініяцюры, вершы Міколы Сянкевіча ўжо друкаваліся ў часопісах "Маладосць", "Вожык", "Першацвет", у "Дні паэзіі-91", у газеце "Чырвоная змена", на старонках перыядычных выданняў Берасцейшчыны. Ён удзельнічаў у рэспубліканскай нарадзе маладых літаратараў "Іслач-90". Малады аўтар родам з вёскі Асіпавічы, што на Драгічыншчыне. Закончыў Пінскае СПТВ, Брэсцкі педінстытут, працаваў экскаватаршчыкам, служыў у войску, 13 год працаваў настаўнікам у Брэсце. Яму хутка 40 год, і зараз ён — выкладчык Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта.**

Мікола СЯНКЕВІЧ

# ВЯСЕЛЬНЫ КАСЦЮМ

АПАВЯДАННЕ

"...Хто вінаваты, і за што Усявышні так абышоўся з намі, за чые грахі мы з табою пакутуем, мой хлопчык?! Каму патрэбны ў гэтым свеце?! Трывожылася сэрца, прадчувала бяду... Гэты свет ты сустрэў моўчкі, заплакаў, калі я ўжо губляла розум ад непакою. "Ну, вось, бачыш, усё на месцы: і рукі, і ногі, і мужчынскае. Так што радуйся", — голас медсястры як цераз сцяну. Радавалася, спачувала суседцы, у якой дзіця нарадзілася шасціпалым. Калі мянялі пялюшкі, яно крычала, і перавязаныя ніткай, пасінелыя лішнія пальчыкі недарэчна матляліся. Рабілася трывожна. Жанчына плакала, кляла Чарнобыль. І не здагадвалася я, што шкадаваць трэба мяне... Прыйшоў пад акно твой бацька. Я бачыла, як марна намагаецца ён стрымаць слёзы. Слёзы падманнай, прывіднай радасці... Праз тыдзень, шчаслівыя, мы ішлі па вуліцы, і ўвесь горад глядзеў на нас. Ты заварушыўся, кракануў, а наш бацька разгубіўся, стаіць бездапаможны, збянтэжаны, сам нібы дзіця малое. Якімі дарагімі для мяне былі вы абое ў гэтае імгненне! Ён усё яшчэ не мог паверыць, што трымае ў руках сваё, жывое, сапраўднае дзіця, што стаў бацькам. Бацькам... ідыёта. Праз непрацяглы час я ў поўнай меры пазнала, што абазначае гэты псіхіятрычны тэрмін у яго прамым сэнсе... Я зусім супакоілася. Я болей не віню яго, твайго бацьку і майго мужа. Былога мужа. Ён вытрымаў амаль чатыры гады, без трох тыдняў, не даў звар'яцець у тыя першыя жудасныя месяцы. Ты крычаў амаль без перапынку. Як ты крычаў!!. Колькі дактароў мы абышлі, колькі бабак улагоджвалі за апошнія рублі! Гэта цяпер ты можаш спаць запар і дзве, і нават тры гадзіны. А тады?.. Заплюшчыш вочы, сцішышся. Лічу да дваццаці, да сарака — і ўсё спачатку. Прыходзілі родзічы на адведзіны. Усё ж бачылі: як закатваюцца пад лоб твае безуважныя вочкі, як хіліцца галоўка, якая нежывая спіна, — але абнадзейвалі, пілі за здароўе. "Думай пра лепшае, беражы сябе. Дасць Бог, перарасце..." Перарос. Табе чатыры гадочкі, і адзінае, чаму навучыўся — перакочвацца з боку на спіну. Каб толькі ведаў ты, як баляць рукі ў маці. У маці... Я, твая маці, ніколі не пачую гэтага слова ад цябе. А можа, і наогул не пачую. Я не змагла нарадзіць табе ні брата, ні сястры. Мо і па гэтай прычыне мы засталіся без бацькі. Ты заўважыў, што яго няма? Заўважыў. Такі неспакойны стаў, такі капрызлівы. Ён болей не прыйдзе. Не прыйдзе, бо не даруе ні мне, ні тваёй бабулі. Мужчыны не даруюць такое. Пра сябе я не думала. Ніколі не пайшла б да той жанчыны, калі б пакінулі толькі мяне. Але як ён мог?.. Я адпомсціла ёй... Адпомсціла, а пакутую цяпер сама. Адкуль столькі злосці ўзялося?.. Дачка з маці пабілі палюбоўніцу... Так атрымліваецца. Можа, хто і пасмяяўся б, каб убачыў. Бо карціна ж была... Маці рукі трымае, а дачка зняла туфель і гэтым туфлем сапернiцу па твары, у бяспамяцтве, як ашалелая, да крыві... Чаму яна не абаранялася? Маўчыць, зубы сцяўшы, не просіцца, не вырываецца. Даў Бог розуму спыніцца, а магла і забіць. Твой бацька пашкадаваў яе, а не нас..."

Маладая маці прачнулася рана і ўжо каторы час, нерухома застыўшы над ложкам, прамаўляла, нібы ранішнюю малітву, гэты бясконцы маналог. Алёшу чатыры гады. Ёй — дваццаць другі. Аднакласніцы яшчэ па дыскатэках гойсаюць, а яна... Кінуць усё, аддаць Алёшу ў інтэрнат і пачаць усё нанава. Не, яна не зможа. Не будзе лягчэй. Прападзе хлопчык. Каму ён патрэбны, бездапаможны, Наташа спадзяецца яшчэ на адну аперацыю, на добрага доктара, на цуд... Апошнія месяцы Алёша стаў трымаць галаву. Каб яшчэ сеў самастойна.

Толькі бралася на дзень. У пакоі прыкметна пасвятлела. Наташа працерла падлогу, з горкаю ўсмешкай глянула на састаўленыя ўпрытык шафы і скрыні, якія займалі акурат палову пакоя. "Дачакаліся новай кватэры. Прадаць усё гэтае дабро як найхутчэй, а яшчэ лепш — выцягнуць у двор і падпаліць. Так усё надакучыла!"

Забегла суседка з пісьмом. Яна часта забірае пошту, ходзіць у магазін, калі сын не адпускае Наташу. Пісьмо было ад маці.

"Як ты, дачка? — пыталася маці. — Пасля таго, што здарылася, не магу знайсці сабе месца. Не гаруй, не нішчы сябе вельмі. Пражывём неяк. І мне не лягчэй. Хочацца, каб і гаспадарка была, як у людзей, каб і вам памагчы. Бацька амаль ніколі не бывае цвярозым. Прападае чалавек. А такім хлопцам у маладосці быў! Я на яго ледзьве не малілася. І зрабіць, і сказаць — ніхто лепш не зможа. На вяселлі, бывала, як пойдзе ўпрысядку ды з прыпеўкамі. Рана, як і ты ў семнаццаць, я замуж выскачыла. Намардавалася за жыццё. Вы з братам позна нарадзіліся. Чаго я толькі ні наслухалася за дзесяць гадкоў. Сямейны, а дзяўчаты за ім, тваім бацькам, па-ранейшаму сохнуць. Поўнач, чакаю, а яго няма і няма. Апранаюся, іду шукаць. Усю траву вытаптала пад вокнамі мясцовых дзяўчат ды маладзіц, высахла ў трэску. Іду, а мне здаецца, што ззаду пальцамі тыцкаюць. Выгляду не паказваю, трымаюся на людзях. Каб худобу схаваць, то і ў духату, бывала, два свідры пад сукенку нацягну. А пасля ўжо не ў вокнах выглядала, а ў канавах шукала ды пад плотам. Вечарам пасля працы прывязуць з будоўлі, — ён, пакуль не спіўся, нават майстрам рабіў, — на плот павесяць: рабі, жонка, з ім, што хочаш. Да чаго дапіўся. Сам будаўнік, а ў хляве праваліўся дах. Лёс, дачушка, мяне ніколі не мілаваў. заўсёды так, як мае — то і нялюдскае. Усіх Пятровых равеснікаў у Барысаў служыць пабралі, а нашага, адзінага з акругі, у Афганістан. А ці быў хто мізарнейшым? Колькі перадумала ўсяго. Нават бацька піць перастаў, за паўгода матацыкл купіў: "Пятру будзе!" Вярнуўся сынок, Бог злітаваўся. Нічога не пыталася. Медалі ля абразоў павесіла. А сын з бацькам на пару піць пачалі. Мяне ледзьве не штодня ў кантору клічуць: "Пятро трактар пабіў". То сусед перапыняе: "Твой душман — Пятра так за вочы на сяле клічуць — ноччу з гаража матацыкл вывеў. Мала, што свайго ухвойдаў". Колькі ён, бедны, перажыў, толькі здагадваюся. І не раскажа нікому, бо і мне не расказаў. Цяжка яму, бачу, а памагчы не магу. Не ведаю чым. Спадзявалася, дачушка, што хоць ты ў нас будзеш шчаслівейшая. Карай, Божа, усім, толькі не гэтым. І ўсе мае няшчасці нішто ў параўнанні з тваёй бядой. За чый грэх ты, дзіцятка, адказваеш? Здагадваюся, і баюся нават сабе прызнацца..."

Дзед Даніла, родны дзед Наташынай маці, па гадах быў самым старым у вёсцы чалавекам. Бабуля памерла адразу пасля вайны. Вайна забрала і абодвух дзедавых сыноў, на той час ужо сямейных. Адышлі ў лепшы свет нявесткі, раз'ехаліся ў пошуках лепшай долі ўнукі. Яны дачакаліся сваіх унукаў. Гады дзедавы ўшчыльную падбіраліся да ста. Многа перажыў дзед Даніла. Бывала, стане расказваць, як у Мікалаеўскую сядзеў у акопах, як ездзіў на заробкі ў Канаду, колькі разоў на яго вачах улада мянялася. "Ох, нажыўся я", — дзівіцца. А то пачне ўспамінаць, як у дзяцінстве ўюноў лавілі зімою, ці як, пасучы каровы, вераснёўскімі ранкамі грэлі пасінелыя ногі ў цёплых каравяках. "Ой, — кажа, — быццам і не жыў зусім, нібы толькі ўчора нарадзіўся". Не прычыняў дзед Даніла вялікага клопату Веры, сваёй унучцы. (Дзед казаў "мая ўнука".) І зелле на мяжы скосіць, і за хатай прыгледзіць. Сівы, нізкага росту, з нязменнаю самаробнаю кульбаю — такім памяталі яго нават немаладыя аднавяскоўцы. Толькі хада запаволілася і голас з гадамі стаў глухаватым. Шныпае дзед па двары, шукае работу. А то да прыёмніка вуха прыставіць, ловіць сваю Канаду. Тут ён свайго не прапусціць.

Галоўным жыццёвым прынцыпам у дзеда Данілы было класічнае правіла даўгалецця — ведаць ва ўсім меру. Калі і выпіваў раней з тугі, то ці ж так, як цяпер? З розумам. Іншым разам пасля вайны на вяселлі маладыя мужыкі надубасяцца і ляжаць, як тыя снапы: хто на калёсах, хто пад плотам. Падыдзе Даніла, галавою паківае, накрые, калі ёсць чым.

Грошай дзед не збіраў. Пасля таго, як у нішто ператварыліся яго паўтары тысячы на кніжцы, усю пенсію ён аддаваў Веры нават не пералічваючы. Вера і пакорміць, і кашулю памые. З другога боку, разумеў: дзеці растуць. А з такім мужам, як яе, у свет пойдзеш з працягнутай рукою.

Неўзабаве пасля выпускнога Наташа, Верына дачка, стала прыспешваць з замужжам. Кінулася, як у вір з моста. Не адгаварылі. Вера апошнія перад вяселлем месяцы і сваю і дзедаву пенсію траціла на "Маскоўскую", якую хавала ад мужа па суседзях, купляла падарункі зяцевай радні. Ну а дзеду, чаго ўжо там грашыць, нешта зацыруе, нешта мужава ці сынава падлатае. Стары разумеў. Ён заўсёды ўсё разумеў...

Дзед Даніла памёр раптоўна праз месяц пасля Наташынага вяселля. Пэўна, рашыў, што дачакаўся ўсяго, чаго толькі можа чалавек дачакацца. І такой нечаканай стала гэтая смерць!.. Грошай у Веры не засталося ні рубля, даўгоў — у кожнай хаце. Гарэлку пазычалі нават на другі дзень вяселля, бо вясёлы бацька, карыстаючыся зручным момантам, не адну бутэльку пераправіў сваім сябрукам.

У чым выправіць дзеда ў апошні шлях? Перабрала Вера лахі ў куфры — усё такое, што сорам людскі. А час не чакае. Вось-вось дамавіну павінны прывезці. Адчыніла Вера шафу ў бакавым пакоі — на вешалцы адзінока вісеў зяцеў вясельны касцюм. Зяць не захацеў з сабою ў горад браць. Адразу пасля вяселля ўлез у свае скуры. Касцюм, казаў, няхай цесць носіць, калі ёсць жаданне. Не насіў, маўляў, я касцюмаў і насіць не буду. Вера якую хвіліну павагалася, адарвала белы вясельны бант, запіхнула яго ў ніжнюю шуфлядку...

Дзеда пахавалі, справілі жалобны абед. Чужыя на касцюм не звярнулі ўвагі, свае прамаўчалі. Плакала Вера не напаказ: і дзеда было шкада, і аб сваёй гаротнай сірочай долі плакала жанчына.

Дзед прысніўся ўсяго адзін раз. Сядзіць Вера на лаўцы, шые. Ціха заходзіць дзед, хрысціцца. Вазьміце, кажа, касцюм, мне ён ужо не трэба, а вам без яго не абысціся. І галавою ківае зусім як у дзяцінстве, калі дзяцей журыў. Пятро ўзяў пінжак, але Вера насварылася на яго, выхапіла адзежу з рук... Нікому, нават Наташы, не расказала Вера пра свой сон. Сыну яна купіла новы касцюм. Здала ў калгас цялушку, збольшага пааддавала даўгі і купіла. А сон не выходзіў з галавы. Тут яшчэ зяць нейкую даведку пасеяў. Прыехаў нечакана, палез у шафу. Вера сказала, што касцюм прадала, а ён толькі прамаўчаў, думаючы пра сваё.

Наташы дзед прысніўся якраз у тую самую ноч, калі пад грудзьмі ўпершыню тарганууся яе першынец. Яны з мужам доўга не маглі ў тую ноч заснуць: марылі пра будучае жыццё, выбіралі імя. Пад раніцу прысніўся дзед, чамусьці белабароды, ва ўсім зрэбным. "Наце, — аддае закручаны ў марлю пакунак, — не спатрэбіўся бацьку, то будзе патрэбным сыну". Дзед знік. Раскрывае Наташа пакунак — а там мужаў касцюм, пацвілы, зямлёю патыхае...

Алёша прачнууся, застагнаў. Наташа перавярнула яго на другі бок, сцягнула мокрыя калготкі. Нядзеля. Сыну чатыры гады. Праз два дні прынясуць пенсію. А ўчора муж тайком ад новай жонкі пераслаў ажно цэлых пяцьдзесят даляраў. Як угаварыць маці, каб узяла хоць бы палову дзеду на помнік. У вёсцы і так абгаворваюць.

Наташа адсунула фіранку. Якое надвор'е? Два дні не вывозіла Алёшу, дрэнна адчувала сябе. Пад самым акном у кантэйнеры са смеццем корпаўся нягolены мужчына бацькавых гадоў. Рабрыстая грудзіна выступала з-пад зашмальцаванага, на голае цела, пінжака. Рыжае кацяня — як яно сюды патрапіла? — каторы час адчайна намагалася і ніяк не магло выпаўзці з кантэйнера на волю.

Пачынаўся новы дзень...

## Гулегіна думае пра... Беларусь

**Здавалася б, незваротна пакінула беларускі небасхіл заслужаная артыстка рэспублікі, оперная "зорка" сусветнай велічыні Марыя Гулегіна. Стыль жыцця заходняй прымадонны, чарада прэстыжных і выгодных кантрактаў, аднак, не замінаюць ёй думаць пра калыску сваёй творчай кар'еры — Мінск. Марыя Гулегіна марыць прыехаць сюды і выступіць перад беларускай публікай. Яна знойдзе "акенца" ў сваім напружаным гастрольным раскладзе, але... Але трэба, каб ейныя планы супалі з планамі нашага знакамітага оперна-сімфанічнага дырыжора Генадзя Праваторава. Бо, як паведаміў дасведчаны ў гэтай справе мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі Юры Гільдзюк, Марыя Гулегіна дасць канцэрт у Мінску пры ўмове, што за пультам аркестра будзе яе даўні творчы партнёр — маэстра Праватораў. Планы ўзгадняюцца, і ёсць надзея, што ў гэтым сезоне доўгачаканая сустрэча адбудзецца.**

**С. Б.**

## Святая да спеваў любоў



**Ва Уладзіміра Іванавіча Вепрыка шмат вартасцяў, галоўная з якіх — ягоны талент. Пра такіх, як ён, кажуць "самародак". Зрэшты, сам ён сцвярджае, што яго родная вёска Барысаўка, што пад Харкавам, здаўна славілася спевакамі. Аднак менавіта яму, Уладзіміру Вепрыку, наканавана было стаць прафесійным артыстам, ды якім!**

**Ягоны голас — непараўнаны лірычны тэнар — адразу ж бярэ ў палон і захапляе прыгажосцю тэмбру, дасканалай вакальнай нюансіроўкай, багаццем дынамічных адценняў. У гэтым голасе — адначасова і цеплыня, і незвычайная моц, і яму падуладная ўсялякая музыка — і камерныя творы, і оперныя арыі, і нават эстрадныя творы.**

**Вядома, цяпер Уладзімір Іванавіч спявае не так многа, як у маладыя гады. Пачаўшы з самадзейнасці, ён скончыў Кіеўскую кансерваторыю і неўзабаве стаў салістам Львоўскай оперы, на сцэне якой засвоіў увесь вядучы тэнаровы рэпертуар. Ён спяваў Альфрэда і Ленскага, Фаўста і Юродзівага, Альмавіву, Герцага...**

**Ягоны пераезд у Мінск у 1963 годзе не застаўся незаўважаным: Уладзімір Вепрык адразу ж уключыўся ў музычна-канцэртнае жыццё рэспублікі, і своеасаблівы гэты "марафон" працягваецца па сённяшні дзень.**

**Зусім нядаўна вядучы саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі і яе ветэран, заслужаны артыст рэспублікі Уладзімір Іванавіч Вепрык адзначыў 70-гадовы юбілей. Але па-ранейшаму ён выступае з канцэртамі і ставіцца да сваёй прафесіі звышадказна. А яшчэ з поспехам абвяргае меркаванні, што з гадамі пеўчы голас страчваецца, губляе прыродную прыгажосць і сілу. Уладзімір Вепрык у цудоўнай вакальнай форме, якой можа пазайздросціць і малады спявак.**

**Калегі ведаюць: там, дзе Вепрык — абавязкова будуць жарты, смех, яго "фірменныя" анекдоты. Ён выдатна імітуе галасы сваіх сяброў і многіх вядомых людзей, з якімі яму даводзілася працаваць. Увогуле, слова "працаваць" было і застаецца яго жыццёвым дэвізам. Гэта і сапраўды вялікі і нястомны працаўнік, для якога музыка, спевы — паняцці святыя. Такая ж святая і ягоная ўлюбёнасць у прафесію.**

**Здароўя Вам, Уладзімір Іванавіч, новых твораў, новых канцэртных праграм і ўдзячных слухачоў.**

**Вольга БРЫЛОН,**
**лектар-музыказнаўца**
**Беларускай дзяржаўнай філармоніі**

*На здымку: заслужаны артыст Беларусі У. Вепрык у партыі Ленскага. 1959 г.*

МУЗЫКА

***Кожны адукаваны і інтэлігенты чалавек пагодзіцца з думкай, што жывём мы ў акіяне масавай культуры. Апошняя праяўляецца паўсюдна, штодзённа і досыць агрэсіўна. Асабліва гэта датычыць музыкі. Музыкі, якая гучыць з кіёскаў гуказапісу — а яны звычайна знаходзяцца ці не на кожным аўтобусным прыпынку. Музыкі, якая выконваецца ў рэстаранах і на дыскатэках, танцпляцоўках і школьных вечарах. Музыкі, якая далятае з адкрытых вокнаў рабочых і студэнцкіх інтэрнатаў. Свой важкі ўклад у выхаванне адпаведных музычных густаў штодня ўносяць радыё і тэлебачанне. Ваяўнічасць такога мастацтва звычайна бывае памножаная на магутнасць калонак самай сучаснай апаратуры. У такіх выпадках заўсёды згадваеш вядомыя радкі Барыса Пастэрнака: "О, тишина! Ты лучшее, что слышал..."***

***Прафесійнае музычнае мастацтва, тым больш акадэмічнага кірунку, уяўляецца мне большым ці меншым архіпелагам, або проста выспай сярод бязмежнага мора масавай культуры. І менавіта з гэтай "выспай" звязаны факт, які зрабіўся падставай для сённяшняй гутаркі.***

***Дык вось, у 1996 г. вядомая фірма "Каўчэг" выпусціла чатыры аўдыёкасеты з запісам твораў беларускіх кампазітараў. Як паведамляў "ЛіМ", сярод тых, чыя музыка трапіла на касеты, — Леў Абеліёвіч, Галіна Гарэлава, Уладзімір Дамарацкі, Уладзімір Дарохін, Вячаслаў Кузняцоў, Аляксандр Літвіноўскі, Яўген Паплаўскі, Валерый Жывалеўскі.***

***Такім чынам, створаны прэцэдэнт. Хаця варта згадаць, што ў 1994 г. тая ж фірма "Каўчэг" разам з Міністэрствам культуры выдала фонахрэстаматыю з шэрагу касет па беларускай музычнай літаратуры. Яе ўкладальнікамі былі Г. Глушчанка і К. Сцепанцэвіч.***

***Але фонахрэстаматыя прызначалася ў першую чаргу для дзіцячых музычных школ і была часткай падручнікаў. А вось апошняя, 1996 года, аўдыёпрадукцыя "Каўчэга" адрасаваная не толькі будучым музыкантам, але і больш шырокаму колу спажыўцоў.***

***Мы гутарым з кампазітарам Яўгенам ПАПЛАЎСКІМ, які з'яўляецца ініцыятарам гэтай акцыі, а таксама прадзюсерам серыі касет.***

# Запісанае — застаецца,

## або Як ствараўся прэцэдэнт

**— Ведаю, Яўген, што гэтая разумная ідэя прыйшла ў галаву менавіта вам. Але што да такой ідэі падштурхнула?**

— Фірма "Каўчэг" выдае шмат рознай рэкламнай прадукцыі, выпускае касеты з рок-музыкай. Вясной 1996 года я размаўляў з кіраўніком гэтай фірмы, дарэчы, паэтам, Юрыем Цыбіным. Паказаў яму нотныя зборнікі, якія былі выдадзены ў той час пад грыфам аб'яднання "Беларуская Капэла" і пры маім непасрэдным удзеле, — "Царкоўная музыка на Беларусі", "Рэлігійная музыка на Беларусі", "Беларуская гітарная музыка". Асабліва зацікавіў Юрыя Цыбіна апошні зборнік. І тады я падумаў: а чаму б не зрабіць касету, якая будзе дапаўненнем да нотаў? (Была нават думка, каб зборнік і касету прадаваць як камплект. І наогул усе наступныя нотныя зборнікі выдаваць разам з касетамі. Але на гэта проста не хапіла часу).

Цыбіна ідэя зацікавіла. Бо сур'ёзную музыку "Каўчэг" яшчэ не выдаваў. За выключэннем фонахрэстаматыі для дзіцячых музычных школ, а таксама касеты з запісам хору хлопчыкаў Рэспубліканскага ліцэя пры Акадэміі музыкі. Дамовіліся, што "Каўчэг" бярэ ўсё фінансаванне на сябе, правы на выданне — фірмы і "Беларускай Капэлы". З майго боку трэба было прадставіць усё афармленне і ўласна запісы, магнітафонную стужку. Тэхнічна ажыццявіць выпуск першай касеты было не складана. Бо ёсць запісы гітарнай музыкі ў выкананні нашых вядомых музыкантаў Валерыя Жывалеўскага і Яўгена Грыдзюшкі. А ў "Каўчэга" ёсць апаратура, якая дазваляе перавесці гучанне магнітнай стужкі на лічбавы запіс, а потым на міні-кампакт-дыск. Вядома, з такіх дыскаў ужо можна рабіць запіс вялікіх кампакт-дыскаў.

**— Дарэчы, калі б у нашай дзяржаве існаваў разумны і цывілізаваны падыход да мастацтва, дык многія сапраўдныя рэліквіі — музычныя помнікі мінулых стагоддзяў, якія гучаць у Мінску падчас міжнародных фестываляў, варта было б запісаць на касеты адразу ж. Бо прафесійны музыкант ці аматар зазвычай чуе аднойчы твор на фестывалі ці па радыё — і ўсё. Першы раз амаль без выключэння робіцца і апошнім...**

— Падчас выпуску касет вельмі важны такі момант, як захаванне аўтарскага права. Якім чынам будуюцца, напрыклад, узаемаадносіны членаў Саюза кампазітараў і Дзяржтэлерадыё? Аўтар музыкі мае права на запіс. Радыё не плаціць яму за гэта ніякіх ганарараў. Таму кампазітар мае права выкарыстаць гэты запіс, па сваім жаданні. Я дамовіўся з кампазітарамі і выканаўцамі, што яны не будуць прэтэндаваць на ганарар у сувязі з выхадам касет. Бо звычайна ж, калі выдавецкая фірма друкуе тыраж, яна павінна плаціць ганарар. Ды і мая работа як аўтара ідэі і аўтара музыкі выконвалася фактычна на грамадскіх асновах...

**— Наша дзяржава заўсёды любіла людзей, згодных працаваць дзеля ідэі і бясплатна...**

— Падрыхтоўка кожнай касеты — клопат немалы. Бо тут павінна быць усё прадумана да дробязей — падбор і кампаноўка самога музычнага матэрыялу, тэксты на беларускай і англійскай мовах, шрыфт, вокладкі (у якасці іх выкарыстоўваліся гравюры Міхася Барздыкі). Анатацыі да касет пісала музыказнаўца Радаслава Мікалаеўна Аладава.

Такім чынам была выпушчана "Беларуская гітарная музыка", дзе прадстаўлены творы Галіны Гарэлавай, Валерыя Жывалеўскага, Аляксандра Літвіноўскага і мае. Касета раскупляецца нармальна. Вядома, не такімі тэмпамі, як рок-музыка, бо тая — частка шоу-бізнесу, дзе іншыя законы, іншыя патрэбы і тыражы...

Музычныя кіёскі, дзе прадаецца аўдыёпрадукцыя, існуюць па ўсёй Беларусі, але ніхто з сур'ёзных музыкантаў туды не зазірае. А спецыялізаваных магазінаў, дзе прадаваліся б выданні па сур'ёзнай музыцы, у нас няма — акрамя сталічнага магазіна "Ноты" і асобных аддзелаў у кнігарнях абласных гарадоў.

Пасля гітарнай музыкі я прапанаваў "Каўчэгу" для выдання касету сімфанічнай музыкі, куды ўвайшлі творы Галіны Гарэлавай, Уладзіміра Дамарацкага і мае. Трэцяя касета была аўтарская — піяніста Алега Крымера, які выконвае фартэпіянныя творы Льва Абеліёвіча, Аляксандра Літвіноўскага, Уладзіміра Дарохіна, Вячаслава Кузняцова. Чацвёртая касета — з маімі творамі.

**— Хто адбіраў творы і кіруючыся якім прынцыпам?**

— Творы адбіраў і прадумваў агульную пабудову я. У падрыхтоўцы касеты гітарнай музыкі дапамагаў Валерый Жывалеўскі. Нешта ён прапаноўваў, нешта я. Мы вырашылі, што адзін бок касеты будзе аддадзены яму як выканаўцу, другі — Яўгену Грыдзюшку. Што датычыць касеты Крымера, дык Алег выконвае шмат сучаснай музыкі, таму тут было з чаго выбіраць. Фірма толькі пагаджалася — так ці не... Пасля таго, як першая касета з гітарнай музыкай пачала разыходзіцца, у самім "Каўчэгу" паверылі ў гэтую ідэю.

**— На якім тэхнічным абсталяванні рабіліся запісы? Цікава, на Захадзе на такім самым пішуць?**

— Пачнём з таго, што запісы, якія робяцца у нас на радыё, ужо не сучасныя. Бракаваныя, калі ацэньваць па самым высокім рахунку. Бо тэхніка ўжо даўно рушыла наперад. Брак заключаецца ў тым, што захоўваецца шумавы фон...

**— Але ж фондавыя запісы, напрыклад, робяцца ў студыі...**

— Нашы магнітафонныя стужкі я паказваў кампазітарам у Польшчы. Яны мне расказвалі, што ў іх творы запісваюцца ў час канцэртаў, і атрымліваецца гэта лепш, чым наш, студыйны запіс...

**— Вельмі цікава: у іх на канцэртах атрымліваецца якасць запісу лепшая, чым у нас на студыі...**

— Каб зняць шумавы фон, трэба зрабіць каласальную працу. На другой праграме нашага радыё ўжо ёсць апаратура, якая дазваляе рабіць вельмі якасныя запісы. Наколькі мне вядома, з цягам часу ўсе запісы, якія захоўваюцца ў фондах радыё, будуць пераводзіцца на лічбавы запіс і захоўвацца на міні-кампакт-дысках. Але ж фанатэка вельмі вялікая, і трэба шмат часу, каб адолець гэтую працу.

**— Але вернемся да тэмы нашай гаворкі. Ці дае выпуск касет фірме і арганізатарам гэтай акцыі які-небудзь прыбытак?**

— Мяркую, што не. Тут хоць бы звесці затраты да нуля. Каб тое, што ўкладзена, з цягам часу вярнулася. Як ні парадаксальна, але ў нас вельмі малы пласт людзей, якія цікавяцца сур'ёзнай музыкай. У нас няма традыцыі яе слухання. Бо ўсё пабудавана на музыцы шоу... Між іншым, "Каўчэг" мае намер выпусціць каталог усіх запісаў, зробленых фірмай у апошнія гады, па 1996-ы ўключна. Мяркуецца, што ён будзе разасланы па музычных школах, вучылішчах. Таму што на любы запіс павінна існаваць рэклама. Юрый Цыбін нядаўна ездзіў у Маскву з мэтай прапанаваць тамтэйшым фірмам гуказапісу пэўныя кампакт-касеты (для выпуску). Ён расказваў, якая сітуацыя там: пакуль няма рэкламы, напрыклад, на тэлебачанні, ніхто не возьме тыя ж касеты для продажу. У Маскве законы такія, як на Захадзе — купляецца тое, што разрэкламавана. Часам рэклама робіцца нават не столькі для публікі, колькі для бізнесменаў. І таму падыход адпаведны: калі няма рэкламы, значыць, гэта не прадукцыя. Фірма, якая не можа прарэкламаваць сваю дзейнасць, — небагатая, а значыць і не сур'ёзная...

**— На каго разлічана ваша аўдыёпрадукцыя? Хто яе патэнцыяльны спажывец?**

— І на беларускага пакупніка, і на замежнага. Гэта вельмі важны момант, таму што ў нас і друкаваная, і аўдыёпрадукцыя звычайна выходзіць ці толькі на беларускай, ці толькі на рускай мове. Інакш кажучы, усё напісана кірыліцай. І арыентавана выключна на ўнутранага спажыўца. Замежны пакупнік такога не ўспрымае, няхай узровень выдання будзе найлепшы.

Першы раз я сутыкнуўся з гэтым, калі быў у Варшаве і зазірнуў у нотны магазін, які належыць Польскаму музычнаму выдавецтву. Магазін досыць папулярны і сярод польскіх кампазітараў і музыкантаў, і сярод прыезджых. Там шмат літаратуры, якая выпушчана за ўвесь час існавання выдавецтва, — сімфанічныя партытуры, клавіры, кнігі, касеты. Разгаварыўся з прадаўцом, які працуе тут ужо дваццаць гадоў. Калі паказаў яму зборнік "Музыка сям'і Ельскіх", выпушчаны нашым "Паліфактам", дык пачуў, што выданні такога паліграфічнага ўзроўню ад усходніх суседзяў да іх яшчэ не

траплялі. Але на будучыню параілі, каб і на вокладцы, а не толькі ў самой кнізе, прысутнічаў англійскі тэкст. Бо прыязджаюць да іх, у Варшаву, напрыклад, японцы. І калі выданне надрукавана кірыліцай, дык яно не зацікавіць патэнцыяльнага пакупніка — японскага ці амерыканскага, нягледзячы на высокі паліграфічны ўзровень.

**— Скажыце, ці ёсць у вас як ініцыятара гэтай ідэі нейкія планы на будучае?**

— Сама фірма прапаноўвае — працяг патрэбны. Але справа ў тым, што нашай краінай падпісана ўжо Жэнеўская канвенцыя па аўтарскіх правах. І ўсе запісы, зробленыя пасля ліпеня 1996 года, падпадаюць пад гэты кодэкс. І таму аўтару за выкананне, выданне, запіс яго творы паціны. Але выплачвацца ганарар. У нашай жабрацкай краіне пакуль на гэта няма сродкаў. Але закон усё роўна прыняты, і некалі ён пачне дзейнічаць. Таму з юрыдычнага пункту гледжання тут яшчэ шмат няпэўнага, нявызначанага.

**— З другога боку, думаю, што многія кампазітары проста мараць мець аўтарскую касету з запісам уласных твораў. Гэта вельмі зручна. Бо, напрыклад, наладзіў, арганізаваў творца аўтарскі вечар — але ўсе творы ў яго праграму не ўвойдуць. Хтосьці трапіў на канцэрт, хтосьці — не... Паехаў кампазітар на міжнародны фестываль за мяжу — і касета з'яўляецца своеасаблівай візіткай. На маю думку, аўдыёкасеты для кампазітара тое самае, што для мастака каталог твораў, для пісьменніка — выдадзены зборнік вершаў ці прозы. І вынік працы, і падсумаванне. Калі перафразіраваць вядомы выраз, дык можна сцвярджаць, што запісанае — застаецца...**

— Сапраўды, калі ў кампазітара ёсць касета, дый цудоўна выдадзеная, да яго пачынаюць інакш ставіцца. І да яго музыкі таксама. Пачынаюць слухаць, разглядаць розныя аспекты гэтай музыкі. А без запісаў творы нібы ёсць і разам з тым іх нібы і няма...

**— Няма, бо яны не зрабіліся набыткам грамадскай свядомасці.**

— Дарэчы, на Захадзе выпуск касет каштуе вельмі дорага. Калі паказваеш такую прадукцыю, ствараецца імідж багатага чалавека. Калі я быў у Гданьску, дык размаўляў пра гэта з праправнучкай Станіслава Манюшкі, Катажынай Корчак-Манюшкай. Калі падараваў ёй касету з гітарнай музыкай, пані Катажына з гумарам заўважыла: "Бедныя-бедныя, а касеты выдаюць..." У Польшчы выдаць аўдыёкасету, наколькі я разумею, не так і проста.

**— У жабрацкай краіне гэта, як бачым, адбываецца працай... Думаю, што асобныя кампазітары падыходзяць да вас з прапановай: "А можа, мяне наступнага выдадзіце?" Бо ў выдавецкія планы трапіць нялёгка, а ў планы гуказапісваючай фірмы — тым болей...**

— Мне здаецца, многія кампазітары проста не ўсвядомілі, што ў першую чаргу гэта патрэбна ім самім. Паміж Саюзам кампазітараў і фірмай "Каўчэг" ужо была дасягнута дамоўленасць, што фірма перададзе ў пямяшканне саюза, паставіць сваю апаратуру і планава, мэтанакіравана будзе выпускаць кампакткасеты.

**— Гэта супер-ідэя!**

— А таксама "Каўчэг" будзе выпускаць усю рэкламную прадукцыю, якая звязана з фестывалямі, з'ездамі. Прычым, бясплатна, у кошт арэнднай платы. Навошта браць арэнду, калі саюз усё роўна будзе некаму плаціць за друкаваную прадукцыю? Ужо нават была падпісана дамова, але некаму прыйшло ў галаву, што "Каўчэг" занадта ўзбагаціцца. І ад добрай ідэі адмовіліся...

**— Як на мой погляд, дык гэта смешна! Бо можна было выпусціць цэлую серыю — пятнаццаць-дваццаць касет, якія б ахоплівалі творчасць буйнейшых кампазітараў і найбольш вядомых выканаўцаў. Тым больш, калі гэта робіцца досыць хутка...**

— Існуе меркаванне, што "Каўчэг", акрамя выпуску касет, павінен яшчэ і плаціць аўтарскія ганарары. Але пакуль фірма не такая багатая і не з такім размахам працуе. Без фінансавай падтрымкі дзяржавы ў гэтай справе не абысціся. Таму як "Каўчэгу" трэба страты хоць бы да нуля звесці. Інакш фірма проста прагарыць...

**— Будзем спадзявацца, што гэтая ідэя ўсё ж не будзе пахавана і раней ці пазней Саюз кампазітараў да яе абавязкова вернецца. Таму што гэта проста патрабаванне часу.**

**Гутарыла Таццяна КЛЯНОВІЧ**

ТЭАТР

# Творчы адпачынак у "Аварыі"

***Усё змянялася, іначылася хутка: яшчэ крыху больш за год таму ён быў, — адзіным, адметным, дабрабытным, — быў Альтэрнатыўным тэатрам, калі трапіў пад прыхамаці ды ўзаемныя крыўды стваральнікаў і ўтрымальнікаў. Яшчэ крыху больш за год таму!***

...Ён застаўся Альтэрнатыўным паводле ідэі, хоць яго, тэатр, і трэба ствараць нанова. Так мяркуе Вітаўтас Грыгалюнас, былы кіраўнік і цяперашні ўладальнік ідэі ды назвы "Альтэрнатыўны". Вітаўтасу належаць усе правы на ўвасабленне пад гэтаю назвай любых тэатральных праектаў, што да тэатра, які ведалі і наведвалі, дык ягоная гісторыя ўжо ў мінулым. Мінску ўсё больш вядомы Малы тэатр на чале з Ігарам Забарам, былым вядучым артыстам Альтэрнатыўнага. Мінчукі ўглядаюцца і пазнаюць акцёрскія абліччы, — вабныя яшчэ па Альтэрнатыўнай сцэне. Шырыню й глыбіню планаў навастворанага Малога выпрацоўваў, відавочна, здаровы розум; адкрыўся ён прэм'ерай "Скарпіёна" паводле Л. Андрэева, пры канцы сёлетняга сезона запрасіў на "Дрэйфуса" Ж.-К. Грумберга. Але падставовы рэпертуар папулярны яшчэ пад альтэрнатыўным назовам...

Двухсэнсіца дачыненняў Альтэрнатыўнага ды Малога існуе, бадай, толькі ў друку. Не зламысна, — ад няведання справы. Рэжысёры, акцёры, персанал дачыняюцца, грамадуюць, мяняюцца жыццёвымі ролямі, з'язджаюць з Беларусі і вяртаюцца на Беларусь браць удзел у двухсотым, трохсотым і прэм'ерным спектаклі... Малога тэатра, вядома. Альтэрнатыўны тэатр усё яшчэ прадстаўлены толькі Вітаўтасам Грыгалюнасам і ягонай добрай воляй, якая не дае разняволіцца рэжысёрскаму апарату да анеміі або агульнай млявасці і абыякавасці да жыцця ў мастацтве. Добрая воля па-добраму змушае Грыгалюнаса ставіць. Пакуль што — без Альтэрнатыўнага арэолу. Пакуль што — як рэжысёра запрошанага на адну, дзве пастаноўкі або на ўвасабленне вечарыны ці оперы. Ягоны Альтэрнатыўны тэатр ізноў наперадзе, — прынамсі, ідзя з ім, знайсці альтэрнатыву любому датацыйнаму тэатру — толькі пашукаць; Грыгалюнасава справа хіба забяспечыць якасць ды вартасць гэтай альтэрнатывы...

...Вясенняй, самай буйной, самай розгаласнай прэм'еры Грыгалюнаса ў Паневежысе шчасліва папярэднічала вечарына... ягонага дзеда, Ёнаса Каспяравічуса, паводле Вітаўтаса, "вядомага гарадскога інтэлігента, які сам сябе зрабіў". Натуральна, вечарына была прымеркаваная да дзедавага дзевяностагоддзя, расповеды літаратуразнаўцаў, выкананне дзедавых вершаў ды ўспаміны завяршыліся апавесткай, маўляў, прыемна, што назаўтра вы ўбачыце спектакль унука.

Унук Грыгалюнас рэпеціраваў па-літоўску, адначасова і прыгадваючы, і дасканалячы сваю... дзедаву мову. Усе задумы замінаў увасобіць грып; акцёры паверылі беларускаму літоўцу пасля таго, як усё задуманае прайграў для іх перад макетам сцэнічнага афармлення. А задумаў ён ні больш ні менш, як "Аварыю" паводле Ф. Дзюрэнмата, і ні ў якім іншым месцы, як у тэатры Мільцініса (Паневежыскі драматычны тэатр цяпер носіць імя свайго стваральніка, знакамітага літоўскага рэжысёра). Дзюрэнмата на гэтай сцэне адважваўся ставіць і з поспехам хіба сам Мільцініс.

Натуральна, паневежыскія газеты адразу ж заняліся параўнаннем. Не рэжысуры, натуральна, але — поспеху спектакля. "Аварыю" на нашай сцэне стварылі аднадумцы", — вырак рэцэнзент. Грыгалюнасу хутка паверылі і гледачы. Дарэчы, больш за ўсіх за "Аварыю" перажываў Рымас Тэрэсас, дырэктар Тэатра Мільцініса (сам — былы акцёр, намагаўся неяк і ставіць, вылучыўся ў кіраўнікі тэатра). Рызыкаваў, як кажа Вітаўтас, куды больш за яго, за рэжысёра, але — рызыкаваў і выйграў. Увогуле стыль кіраўніцтва дырэктара прыйшоўся Грыгалюнасу дастадобы, не замінае рэпеціраваць, неназалае пільнасцю, але ўвесь час нібыта ля рэжысёра, так што дапамога і адчуваецца, і адчуваецца паміж іншым не падкрэслена.

Афармленне "Аварыі" — пакуль што лепшая работа мастака Вігантаса Касмаўскаса (хлопец у тэатры літаральна выгадаваўся, ягоны бацька доўгі час быў дырэктарам). Адпавядаючы агульнай задуме, кампазітар Рымантас Багдонас пакінуў у гукавым шэрагу спектакля няшмат, але тым цяжэй яму было працаваць. Ды што там, нават асвятляльнік на імя Аўдрус бясконца важдаўся з прыборамі, каб забяспечыць усе патрэбныя эфекты; Аўдрус працаваў яшчэ з мэтрам Мільцінісам і спакваля ўласнаручна стварыў для тэатра ці не лепшую асвятляльную тэхніку ў Літве...

Ва ўсе часы ўсе, каму рупіў Тэатр Мільцініса, чакалі пастановак Дзюрэнмата як падзей; здаецца, падзею рыхтавалі старанна і пэўна. Самай вялікай праблемай стаўся запіс натуральнай шатландскай валынкі (выявілася, што сінтэзаванне такі гук для пэўных умоў спектакля немагчыма), і на ўсю Літву знайшоўся адзін Скірмантас Саснаўскас, які і гэта агораў! Але напраўду ўразіла нашага літоўца, як акцёры — тыя, што прайшлі кузню і млын Мільцініса, — пільнуюцца работы. Як гадзінамі могуць разміняцца, як не балабоняць за кулісамі пра жыццё (а яно ў літоўскіх акцёраў — як ва ўсіх акцёраў свету — не толькі творчае). Нарэшце, Альгірдас Паўлавічус, Ёнас Гарляўскас, Энрыкас Кашынскас, Рамуальдас Урвініс (улюбёнец паневежыскай публікі), Рудольфас Янсанас ды Рэгіна Кайрытэ склалі вартую "аварыйную каманду", або, як прынята мовіць сярод тэатралаў, ансамбль.



І пасля ўсіх гэтых прыемнасцяў трэба дадаць, што, каб патрапіць у Літву — патрабуецца віза, што віза каштуе грошай, што яшчэ даражэй беларускаму тэатралу даехаць да Паневежыса ды заначаваць у ім. А калісьці нашы бацькі ездзілі "да Мільцініса" на адкрыццё сезона і з ночы бавіліся ў чарзе па квіткі...

Тэатр Мільцініса і сёння лічыцца адным з лепшых у Літве... Зала — на 480 месцаў; пры колькасці паневежыскага насельніцтва ў 120 тысяч — яна заўсёды набітая бітма. Ёсць яшчэ тры гарадскія тэатры: музычны, "Мянас" і лялечны. У лялечным (Брэсцкім) Грыгалюнас аднойчы ўжо ставіў, мо ёсць сякія-такія планы і ў Літве?

"Мне вельмі й вельмі бракуе... Альтэрнатыўнага тэатра, — прызнаўся Вітаўтас. — Усе мае праблемы — ува мне. Хтосьці можа ездзіць, а я хачу быць у сваіх сцэнах. Каб дзеці былі побач, каб кнігі пад рукой, каб абедаць дома..."

Вітаўтас Грыгалюнас на свае паездкі і пастаноўкі, нават у Паневежысе, нават у Тэатры Мільцініса, глядзіць як на творчы адпачынак. Трэба разумець, толькі ад Альтэрнатыўнага тэатра...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея ІЛЛІНА*

КІНО

# Дастаеўскі нічога не баяўся

***Здаецца, радавацца трэба, што на "Беларусьфільме" яшчэ здымаюцца ігравыя стужкі. Няхай сабе і сярэдняга ўзроўню. Аднак не буду. На карысць лянівым рэжысёрам. Бо пра фільм Віктара Дзяругіна "Бег ад смерці", які цяпер дэманструецца ў мінскіх кінатэатрах, яшчэ Эклезіяст сказаў: "Бывае нешта,, пра якое кажуць: "глядзі, вось гэта новае", але гэта было ўжо"...***

Мінчук Яўген Носаў, былы воін-афганец (яго сыграў малады расійскі акцёр Дзмітры Шчарбіна), з-за грошай забівае дзвюх жанчын: заможную кватэрную гаспадыню ды сваю жонку. Знаёмая фабула рамана Дастаеўскага "Злачынства і пакаранне". У фільме Носаў— Раскольнікаў нават знаходзіць свайго Мармеладава — вясковага п'яніцу. "Ты ведаеш, якое пачуццё самае старое на зямлі?" — пытаецца Носаў у прыяцеля. "Каханне", — адказвае той. "Не, самае старое пачуццё на зямлі — гэта страх". Страх прымушае Носава амаль увесь фільм уцякаць ад міліцыі. Шукаючы выратавання, ён рабуе старую жанчыну, паштовае аддзяленне, падпальвае будынак домакіраўніцтва, дзе крадзе пашпарт. Грошы і дакументы яму патрэбны, каб схавацца за мяжой. Як злачынца, Носаў не ведае іншага пачуцця, акрамя страху. Што з таго, што Носаў некалькі разоў убачыў абразок ці зайшоў у праваслаўную царкву, жадаючы спавядацца. Што з таго, калі вера ад слухання, а слуханне — ад слова Божага". У фільме В. Дзяругіна галоўны герой пазбаўлены Сонечкі Мармеладавай. Яна па сцэнарыі не прадугледжана. Як, дарэчы, і тонкі псіхалагізм Дастаеўскага.

Дзеля чаго забівае Раскольнікаў (як тлумачыў яшчэ Дастаеўскі)? "Не для того я убил, чтобы, получив средства и власть, сделаться благодетелем человечества. Вздор! Я просто убил; для себя убил, для себя одного... Тварь ли я дрожащая или право имею..." А дзеля чаго забівае Носаў? З фільма вынікае, што галоўная прычына — грошы. І ўсё? Няўжо толькі імі будзе сёння жыць чалавек? Няўжо толькі грошы выратуюць яго ад цемры ў самім сабе? Наогул, цікава, як В. Дзяругін разумее галечу, якая, на яго думку, і падштурхнула Носава да забойства: у адрозненне ад Раскольнікава, які ішоў на злачынства амаль у лахманах, Носаў забівае ў дарагім джынсавым касцюме.

На жаль, у карціне шмат такіх мякка кажучы, недапрацаваных тэм. Следчы Ігар Ветраў (яго сыграў беларускі акцёр Генадзь Шкуратаў), даведаўшыся пра смерць свайго калегі, ноччу ідзе на раку, дзе ў зарасніку чароту знаходзіць прыбіжага каня. На думку В. Дзяругіна, гэта самы моцны эпізод фільма. А можа, самы кіношны? Бо ніхто не пасвіць коней у чароце.

В. Дзяругін ледзь заўважыў і павярхоўна крануў праблемы паўсюднага п'янства, беднасці жыхароў усходніх беларускіх вёсак, падхалімства правінцыйнай міліцыі, дзе мараць выслужыцца да Мінска. Дастаеўскі не баяўся дэталяў, яны дапамагалі зразумець матывы ўчынкаў яго герояў. На злачынства Раскольнікава, як вядома, вельмі паўплывалі брудны Пецярбург. Дзяругін пра такія далікатнасці не думае. А ці мог план Раскольнікава нарадзіцца ў галаве маладога мінчука, які жыў у чыстай сталіцы і нават меў палюбоўніцу? Мо гэта супярэчнасць псіхалогіі чалавека, у якога шмат што ёсць у жыцці?.. А калі не супярэчнасць, дык — не трэба баяцца гэта давесці. Дастаеўскі, той нічога не баяўся.

На кінафестывалі "Залаты Віцязь" Дзмітрыю Шчарбіне як выканаўцы галоўнай ролі ў фільме "Бег ад смерці" быў прысуджаны дыплом за лепшую мужчынскую ролю. Гэта першая вялікая перамога акцёра: злыдзень у ягоным выкананні сапраўды выглядаў пераможна. І толькі злыдзень. Бо вобраз Раскольнікава значна глыбей, увасобіць яго ў жанры кінадэтэктыва мог бы толькі сапраўдны, сталы майстар.

Карціна "Бег ад смерці" шмат што рэкламуе. Напрыклад, песні беларускай групы "Палац" (праўда, гучаць яны ў большасці сцэн не да месца), мінскую міліцыю, вобраз якой нібыта ўваскрэс з савецкіх казачных дэтэктываў, ды сучасную дзяржаўную сімволіку. У фільме яна з'яўлялася ў кадры ці не больш за сем разоў. І гэта, відаць, адзіная арыгінальная ідэя В. Дзяругіна.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

ЛіМ ЧАСАПІС

## Жыве Багушэвічам...

УЛАДЗІМІРУ СОДАЛЮ — 60

**"Па-ранейшаму жыву Багушэвічам..." — так прызнаецца наконт сваіх творчых планаў гэты даследчык беларускай літаратуры і краязнаўца. А захапленне творчасцю Ф. Багушэвіча ў У. Содаля даўняе, як і вывучэнне ўсяго, што мае дачыненне да класіка нашай нацыянальнай літаратуры, а таксама яго акружэння. Гэтая праца ўжо прынесла жаданы плён. Ва Уладзіміра Содаля выйшлі кніга-альбом "Францішак Бенядзікт Багушэвіч", зборнікі нарысаў "Кушлянскі кут", "Сцежкамі Мацея Бурачка", "Жупранская старонка", што ўтварылі свайго роду трылогію. Меў У. Содаль дачыненне і да ўкладання асобных кніг Ф. Багушэвіча.**

**На творчым рахунку даследчыка і такія зборнікі, як "Людзьмі звацца", "Пуцявінамі сейбіта" (пра Янку Купалу), рэгулярна ён выступае з даследчыцкімі артыкуламі і краязнаўчымі нарысамі ў перыёдыцы. А да ўсяго У. Содаль даўно свой чалавек на тэлебачанні, з якім супрацоўнічае ўжо 30 гадоў. Ён стваральнік вядомай праграмы "Роднае слова", дзякуючы яму з'явіўся і цыкл "Гаворым па-беларуску".**

**А нарадзіўся Уладзімір Ільіч у вёсцы Мормаль Жлобінскага раёна. Пасля школы працаваў загадчыкам клуба і бібліятэкі ў Мурманску, а вярнуўшыся на радзіму, скончыў Мінскі педагагічны інстытут. Як і многія, пачынаў з вершаў.**

**Віншуем спадара Содаля з днём нараджэння! Зычым яму здароўя і поспехаў у жыцці і творчасці!**

## Даследчык

ВІТАЛЮ СКАЛАБАНУ — 50

**Плённа і ўпэўнена працуе на гістарычнай ніве Віталь Скалабан, які сустрэў сваё 50-годдзе. Віталь Уладзіміравіч родам з вёскі Шылавічы Слонімскага раёна, з 1951 года жыў у Ляхавічах. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю, паступіў у Ленінградскі універсітэт імя А. Жданава, гістарычны факультэт якога скончыў у 1970 годзе. Кандыдат гістарычных навук. З 1972-га да 1995 года працаваў у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, прымаў удзел у выданні такіх аўтарытэтных даведнікаў, як "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя", "Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі", біябібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі", падрыхтоўцы "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", "Беларускай энцыклапедыі" і іншых выданняў. Асноўны накірунак даследчыцкай дзейнасці Віталя Уладзіміравіча — гісторыя беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Вывучае ён таксама беларускую літаратуру і культуру XIX — пачатку XX стагоддзя. В. Скалабан быў рэдактарам-складальнікам гісторыка-дакументальнай хронікі "Памяць" Ляхавіцкага раёна, адным з аўтараў дакументальна-мастацкіх тэлефільмаў "Без эпітафіі" (пра Ц. Гартнага, 1990), "Справа Ігнатоўскага" (1991), "Ніколі я не паміраў..." (пра Янку Купалу, 1992), "Імша па Купалу" (1993), "БНР. Час звеставання" (1993). Аўтар шматлікіх публікацый у перыядычным друку.**

**З юбілеем, шаноўны Віталь Уладзіміравіч! Далейшых поспехаў Вам у жыцці і даследчыцкай дзейнасці!**

## Была і літаратурная камуна

**А калі дакладней — "Беларуская літаратурна-мастацкая камуна" — была створана ў верасні 1927 года групай маладых пісьменнікаў, якія выйшлі з "Маладняка". Ініцыятарам яе стаў П. Шукайла, а ўвайшлі ў яе А. Атава (Кананові), П. Броўка, У. Варава, Я. Відук (Скрыган), Ю. Лявонны (Л. Юркевіч), У. Прыбыткоўскі, Я. Сукала, М. Шалай. Былі створаны таксама літаратурныя гурткі пры Полацкім і Магілёўскім педагагічным тэхнікумах, у некаторых вёсках Полаччыны і Случчыны. Удзельнікі камуны захапляліся футурызмам і творчасцю У. Маякоўскага, арыентаваліся на ЛЕФ. Арганізацыя мела свой друкаваны орган — часопіс "Росквіт": у 1927—1928 гадах выйшлі два яго нумары. У 1928 годзе "Беларуская літаратурна-мастацкая камуна" самаліквідавалася, а яе члены вярнуліся ў "Маладняк".**

СПАДЧЫНА

# Імпульс шчырасці

Усё больш выразна вызначаюцца сёння абрысы нясвіжскай сцэны XVIII стагоддзя. Тут у верасні 1784 года, у часе гасцявання ў Радзівілаў караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, была пастаўлена (у ліку іншых твораў) опера "Агатка, або Прыезд пана". Яе аўтары — кампазітар Ян Голанд і лібрэтыст Мацей Радзівіл — не маглі тады яшчэ ведаць, што напісалі твор, які, асмелюся сцвердзіць, выходзіў на магістральны шлях беларускага літаратурна-музычнага мастацтва і, абапіраючыся на маральнасць народнага светаразумення ды арыентуючыся на жанр камічнай оперы кшталтам "Вясковага чараўніка" Жан-Жака Русо, што ішла ў Ружанах у 1778 годзе, угадваў жыватворныя традыцыі ў развіцці беларускай оперы і аперэты...

Перакладу "Агаткі" на беларускую мову яшчэ доўга магло не быць. І вось чаму. Нашыя даследчыкі, літаратуразнаўцы ведалі пра існаванне гэтага твора на пачатку сямідзесятых гадоў, чыталі і нават збольшага пераказвалі яго змест, але копіі лібрэта зрабіць не паруппіліся. Шчаслівая думка скапіраваць лібрэта оперы "Агатка" прыйшла да Вольгі Дадзіёмавай, якая, дарэчы, здабыла і партытуру гэтага твора. Дзякуючы энтузіястычна-прадпрымальнаму кроку музыказнаўцы мы сёння можам не толькі ведаць пра існаванне "Агаткі", але і паглыбіць знаёмства з гэтай, я б сказаў, галоўнаю беларускаю операю XVIII стагоддзя, паглыбіць праз пераклад, праз вяртанне яе ў кантэкст свайго часу і праз далучэнне да сучаснай мастацкай сітуацыі — я маю на ўвазе, найперш, сцэнічнае ўвасабленне, якое дазволіць мастацкую рэальнасць мінулага зрабіць рэальнасцю нашай сучаснасці і тым самым замацаваць у нашай свядомасці часавую сувязь.

Прымеркаванасць з'яўлення "Агаткі" да прыезду манарха ў Нясвіж выконвала двайную задачу: замацоўвала гледачоў і слухачоў ва ўспрыманні Радзівілаў як прыхільнікаў справядлівасці ў стасунках з падданымі ў межах сваіх уладанняў і заклікала караля быць справядлівым у дачыненні да ўсіх падданых у межах Рэчы Паспалітай. Несумненна, опера зрабіла ўражанне на асвечанага манарха: у адказ ён выступіў з вітальным вершам на беларускай мове.

2 лістапада 1994 года ў часе радыёпрэм'еры "Агаткі", паспяхова здзейсненай на 211 годзе пасля першай пастаноўкі гэтай оперы ў Нясвіжы таленавітым калектывам акцёраў пад кіраўніцтвам шчодра адоранага, незабыўнага Юрыя Авяр'янава, у вусны караля былі ўкладзены наступныя словы:

***Я сяння шлях сабе раскошай сэрца значу,***
***Бо веле перад вочмі дабралепу бачу,***
***Бо цешыць духа тутка візія такая,***
***Што нас на блогасць чыну***
***толькі паклікае.***
***Нех кружыць вжэсень,***
***кружыць ліст барвовы,***
***Мы гонар маем тут***
***ад сэрца мовіць словы:***
***Імпрэза бляскам і прастотай***
***задзівіла —***
***Нех жые добрасць гучнай славы Радзівіла!***

Гэтага вымагаў сцэнарый, напісаны Людмілаю Мітаковіч для прэм'еры оперы на Беларускім радыё. Паколькі наша гісторыя літаратуры зыходзіла толькі з інфармацыі Яўстаха Тышкевіча пра выступленне Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў Нясвіжы з беларускім вершам, але тэксту гэтага верша не мела, то мне як перакладчыку лібрэта Мацея Радзівіла давялося дадумваць тэкст каралеўскага выступлення і крыху пашчыраваць над стылізацыяй асобных выразаў, над рыфмаванымі радкамі, каб запоўніць утвораную часам лакуну і па магчымасці падступіцца да рэстаўрацыі малюнкаў нясвіжскага мінулага, а не проста займацца містыфікацыяй.

Сёння ўжо вядома, што апошні кароль Рэчы Паспалітай, ураджэнец Волчына з-пад Брэста, прыхільнік мастацтваў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, кіруючыся кружным шляхам на сойм у Гародню, заехаў не без палітычных мэт у Нясвіж на гасціну да Караля Радзівіла і ў суботу вечарам 18 верасня 1784 года, пасля знаёмства з архівам і бібліятэкай Радзівілаў, з іх тэатрам і механікай сцэны, трапіў па святочна ілюмінаванай дарозе ў летнюю радзівілаўскую рэзідэнцыю Альба, дзе і прачытаў пад тост свой беларускамоўны верш. Першы радок яго гучаў наступным чынам: "Шчоб ліха не знала дом Радзівілаў". Як гучалі астатнія, пакуль ніхто не ведае. Але звесткі, назапашаныя вядомым польскім знаўцам літаратуры XVIII стагоддзя Томашам Хахульскім, даюць падставы на тое, што беларускамоўны вершатвор Станіслава Аўгуста, прамоўлены ў радзівілаўскай Альбе, можна будзе адшукаць.

"Агатка", напісаная ў жанры камічнай оперы, давала імпульс шчырасці і натуральнасці чалавечых стасункаў і, можна сказаць, выклікала жаданне караля Рэчы Паспалітай звярнуцца да Радзівілаў, да тутэйшай шляхты, да нясвіжскага люду па-беларуску. Гэта была перадумова таго, што развівалася пазней, у саракавыя гады, у двухмоўнай аперэтцы Манюшкі, Крыжаноўскага і Дуніна-Марцінкевіча "Сялянка" (у беларускім перакладзе "Ідылія") — яе змест скіроўваўся на высмейванне мясцовай "франкаманіі", як на сцверджанне аптымістычнай думкі, што менавіта ў цнатліва-ачышчальнай беларускамоўнай атмасферы, праз любасць да тутэйшых запрыгоненых сялян магчыма маральнае адраджэнне і прасвятленае вяртанне да радзімы тых, хто нясе адказнасць за падданых перад Богам.

**Уладзімір МАРХЕЛЬ**

ПЕРАКЛАДЫ

# Чысты голас

***Падчас вандроўкі ў Вялікабрытанію, улетку мінулага года, я — тады перакладчыца ў групе чарнобыльскіх дзяцей — пазнаёмілася з англійскім паэтам Майклам Вудвардам. Ён нарадзіўся ў 1959 годзе, закончыў каледж святога Яна ў Кембрыджы (вывучаў там англійскую літаратуру). Атрымаў прэстыжную стыпендыю Харпэр-Вуд, падарожнічаў, працаваў у Індыі. Цяпер дырэктар пачатковай школы — Майкл Вудвард жыве ў Уэльсе. Жанаты, мае чацвёра дзяцей.***

***Зборнік вершаў Вудварда пад назвай "Прыстанак" быў высока ацэнены крытыкай. У творчасці паэта заўважаюць багатую асацыятыўнасць, эмацыянальную насычанасць. Майкл ставіць перад чытачом нечаканыя і вострыя пытанні, імкнецца выкарыстоўваць мінімум моўных сродкаў.***

***Прапаную некалькі перакладзеных мною вершаў Майкла Вудварда са зборніка "Прыстанак".***

**Святлана ЯВАР**

Майкл ВУДВАРД

## Руіны кляштара

I

*Я не ў стане перадаць спакой мясціны,*
*Што застаўся такі ж, як быў тут,*
*Калі ў келлях яшчэ жылі манахі.*
*Чалавечыя дух і думка тады*
*Пераадольвалі перашкоду*
*каменных сцэнаў,*
*У сэрцах пракладвалі шлях да Бога...*
*У манастырскім садзе*
*Заўсёды будзе сонечна і ціха.*

II

*Звон пахавальны паўтараў матыў,*
*Што поўніўся тугой... Жывых манахаў*
*Чакала праца. І яны, бы пчолы,*
*Руплівыя, выконвалі загады,*
*Паддаўшыся пачуццям дасканалым.*

III

*Ды і цяпер чуцён хор галасоў,*
*Чые ўладальнікі травою сталі.*
*Жыццё прайшло іх у змаганні. Усё ж*
*Паспелі знакі пэўныя пакінуць*
*Манахі — на камяні ці на дрэвах.*
*Магутныя пісалі запавет...*
*Таму іх сіла духу не памрэ.*

IV

*Адкуль трываласць для цярпенняў*
*Бралі,*
*Як белае адзенне*
*Апраналі?*
*У роднае зямлі*
*Прытулак вы знайшлі...*
*Калі манахі пры жыцці спазналі*
*Пакуты, вытрымаць якія*
*Прысягалі,*
*Дык з песнямі яны праз іх прайшлі,*
*На Небе ўзнагароджаны былі.*

## Каханне ў маладосці

*Калі судакрануліся нашыя вусны*
*Ды спляліся нашыя рукі,*
*Бразнула клямка,*
*І адчыніліся дзверы.*
*Мы апынуліся ў пырсках сонца,*
*Ад якіх награваліся валасы.*
*Пахла свежаскошанай травою.*

## Ліст з Тыбету

*Атамы, з якіх складалася рака,*
*спыніліся.*
*Таму яна знерухомела.*
*Чарада дзікіх быкоў апынулася*
*ў ледзяной пасткы.*
*Хутка і жывёлы застылі.*
*Здавалася, што яны*
*Уночы і ўдзень*
*Плывуць па рацэ,*
*Якая — сама — не рухаецца.*
*Бычыныя раты расчыніліся,*
*Пачырванелі ноздры,*
*Ускінуліся вялізныя рогі,*
*Цяпер уся пастава жывёлін выказвала*
*безвыходны жах.*
*Іх скульптуры засталіся тут да вясны.*

*Праз месяц, узімку, у пошуках броду*
*З гары сыходзіў наш караван.*
*Ідучы следам за ўзмакрэлымі якамі,*
*Мы здзівіліся: што такое гэтыя*
*Далёкія камяні, якія крочаць,*
*Хоць і зашыты ў белае шво ракі.*
*Над галовамі ў нас праляцеў арол...*

*Падчас таго, як мы цягнуліся*
*Паверсе пяцідзесяці звяроў,*
*ператвораных у ледзяшы,*
*Напалохаліся*
*Нават нашыя вярблюды,*
*Што супыніліся, паслухмяныя,*
*У маўчанні,*
*На мяжы паміж жыццём ды смерцю —*
*Аж раптам усе мы ўбачылі:*
*Быкі не могуць глядзець,*
*Ім даўно ўжо выдзеўблі вочы.*

## Унутры знешняга

*Знадворку праз вакенца без фіранак*
*Магу я назіраць вагеньчык хатні,*
*Надзіва яркі ў навакольнай цемры.*
*Тлум вулічны расце і хваляю спадае.*
*Чутно, як праз тунэль — праз ноч! —*
*цягнік праходзіць.*

*Мы ў хаце, незалежна ад таго,*
*Што пад уплывам Месяцавай фазы*
*Зямля варочаецца недзе пад нагамі,*
*Непадуладная жаданням нашым.*

*І бойкі ў гушчарах,*
*Мароз у парку,*
*Нас не датычаць. Мо таму ўнутры*
*Трымаемся бліжэй, каб у нягодах*
*Абараняцца... ад сябе саміх.*

## Нешта зразумелае

*Я нічога яшчэ не зразумеў...*
*Толькі паглыбляецца таямніца.*
*Ведаю адно:*
*Водар язміну, сандалавага дрэва,*
*лотаці,*
*Які далятае да мяне,*
*Змешваецца з пахам гніласці.*

*У часе паўзы паміж словамі*
*Думкі пачынаюць крычаць*
*І адбываць мяне,*
*моцна трымаючы*
*Пытаннем, што не мае адказу.*

*О, кароткі прамежак часу*
*Перад тым, калі гладкая паверхня*
*Сцягнецца ў глыбокія зморшчыны*
*І мяне зноў апануюць дэманы!..*

Аляксандр ЛУКАШУК

# Адзіная палітноч

## СТАРОНКІ З КНІГІ "ПЕРАД СВАБОДАЙ. НАТАТКІ ПЕРАБЕЖЧЫКА"

ДВА РАЗЫ на год мы друкавалі артыкулы, наўпрост звязаныя з назвай аддзела, прысвечаныя пачатку і заканчэнню вучобы ў сістэме палітасветы. Далісаўшы да гэтага месца, я надоўга задумаўся. З тае прычыны, што зараз амаль ніхто не помніць, што гэта такое, а тады, здавалася, не было на свеце важнейшай справы, чым заняткі прапагандыстаў, палітінфарматараў і агітатараў, метадычныя семінары, спецкурсы, наглядная агітацыя і тэхнічныя сродкі навучання, агітмашыны, пераносныя стэнды і іншая паранфералія "ідэалагічнага забеспячэння".

Дзеля гэтага забеспячэння спынялі камбайны, раней выключалі станкі, не адчынялі пасля абедзеннага перапынку магазіны — веды несліся ў масы, каб ператварыцца ў дзеянні, г. зн. працаваць больш і лепш, але за тую ж зарплату. І пры гэтым не задаваць пытанняў. Хаця тэарэтычна пытанні заахвочваліся, бо лічылася, што прапагандыст змог зацікавіць слухачоў, ускалыхнуць, абудзіць да творчай думкі. Асабліва важным лічылася не пазбягаць вострых пытанняў.

На Берасцейскім электрамеханічным заводзе пасля лекцыі пра міжнароднае становішча адна слухачка, маладая дзяўчына, спыталася, калі ж скончыцца вайна ў Афганістане. Яе хлопец перастаў пісаць...

— Таварыш правільна ставіць пытанне, — адзначыў прапагандыст. І прызнаў: — Недахопы ў рабоце нашай пошты яшчэ ёсць.

Напачатку 80-х было афіцыйна ўведзена свята — дзень прапагандыста, якое адзначалася ў апошнюю суботу верасня, напярэдадні вучэбнага года. Лепшым надавалі ганаровыя званні "Заслужаны прапагандыст", уручалі ўзнагароды — настольны знак і ганаровую грамату, а таксама падпіскі на дэфіцытныя зборы твораў. У абласных цэнтрах праводзіліся злёты і семінары, на якіх прапагандысты ў асноўным выкарыстоўвалі час для закупаў усяго таго, што ў раёне днём з агнём не знойдзеш, а таксама для беспрабуднага п'янства і ідэалагічна бяспечных заляцанняў.

— Я на курсы заўсёды пасылаю камсамолак і маладых настаўніц, — тлумачыў мне за бутэлькай падбор дэлегацыі загадчык парткабінета аднаго райкама. І ў абкаме задаволеныя, і ім заахвочванне: з кім яна пераспіць у вясковай школе? Моладзь даўно паўцякала...

Раён лічыўся перадавым у справе партвучобы і загадчык часта дзяліўся вопытам у друку. Сексуальную падаплёку прапаганды і агітацыі пры гэтым не згадваў.

Уся рэспубліка была густа пакрытая сеткай школаў маладога камуніста, гурткамі палітасветы, семінарамі навуковага камунізму і універсітэтамі марксізму-ленінізму. Наведванне было абавязковым, і, нягледзячы на жахлівы сум і прыдурачнасць усёй задумы, выкруціцца амаль нікому не ўдавалася.

Час ад часу ідэалагічнае начальства запускала нейкую ініцыятыву, і тады патрабавалася яе апісваць. Адной з такіх прыдумак стаў адзіны палітдзень. Калі знойдзецца вар'ят, які захоча пагартаць усесаюзныя часопісы "Партийная жизнь", "Коммунист", "Политическое самообразование", "Агитатор" першай паловы 80-х гадоў, у яго застракаціць у вачах ад гэтага тэрміна. (Дзівосныя справы Твае, Божа: не паспеў я напісаць гэтыя радкі, як вар'ят знайшоўся і тэрмін "палітдзень" зноў з'явіўся на старонках беларускіх газет).

"Адзіны палітдзень" азначаў, што ў гэты дзень начальства дружна сустракалася з народам і натхняла апошні на новыя працоўныя подзвігі. Тэмы рэспубліканскага палітдня вызначалі ў ЦК, абкамы і райкамы прыдумлялі свае ўласныя замарочкі. Усе рэспубліканскія газеты мусілі паводле графіка надрукаваць артыкулы ў дапамогу прапагандыстам, а тыя потым пераказвалі іх і разбаўлялі мясцовымі прыкладамі. Прыклады былі розныя: хто працуе ў лік будучай пяцігодкі, хто патраліў у выцвярэзнік (часам прозвішчы супадалі). І народ, і начальства разумелі дурноту такіх масавых дэсантаў і па магчымасці ўхіляліся, але часцей усё ж даводзілася выконваць урок.

Неяк у Пінскім раёне мяне павезлі на такое мерапрыемства ў калгасны клуб. Справа была зімой, і а сёмай раніцы стаяла яшчэ цемра хоць вочы выкалі. І дакладчыкі — раённы пракурор ды старшыня райвыканкама, і калгаснае начальства абралі гэты час, бо ён найменш замінаў працы. У халодны з начы клуб нагналі больш за сотню механізатараў, сядзелі ў кажухах, ды і пракурор не стаў здымаць форменнага шыняля. Тады якраз зноў пачалі барацьбу з непрацоўнымі даходамі і, распавёўшы пра складанае міжнароднае становішча, пракурор тлумачыў новыя правілы, паводле якіх патрабавалася ламаць цяпліцы і ганяць бабулек з кветкамі. Народ слухаў уважліва — пінчукі славіліся сваімі гуркамі, амаль у кожнага на гародзе стаяў парнік.

— Пытанне маю — падняўся адзін паляшук. — Як з волшэбныкамы будэ — забoронять, чы як?

Я падумаў, што не зразумеў і перапытаў у суседа: з кім? З волшэбныкамы, адказаў раўнадушна сусед.

— Ніякіх выключэнняў. Калі не зарэгіструюцца і не будуць плаціць падаткі, будзем прыцягваць. Для інвалідаў вайны прадугледжаныя льготы.



*Фота А. Клешчука*

Ашаломлены дыялогам, я толькі на наступны дзень у рэдакцыі раёнкі ўведаў, што калгасны дзядзька і прадстаўнік Феміды пад чараўнікамі мелі на ўвазе знахараў — бабак-шаптух і іншых мясцовых кашпіроўскіх. Казалі, што ў глухіх вёсках яшчэ заставаліся шаманы. Раённая медыцына вядома якая, да таго ж не наездзішся да тых лекараў, а гэтыя заўсёды пад бокам. І дапамагаюць не горш за камсамолак з дыпломам фельчарскіх курсаў. Загнаць знахараў у падполле лёгка, але як прыцісне — і сам пракурор прыедзе на паклон, растлумачылі калегі.

Палессе славілася цудамі: мясцовыя паслядоўнікі паганскіх багоў "вадзілі куста", вучоныя знаходзілі тут рэшткі зараастрызму, у Моталі шылі кажухі. Там, паміж асушаных балот, я пабачыў цуд ідэалагічнай інкарнацыі — агітатара. Расказвалі, сам ідэалагічны загадчык з ЦК, грозны і бязлітасны шэф усёй прэсы, начальнік партвучобы і камандзір нагляднай агітацыі грэбліва крывіўся, гледзячы на рапарты аб колькасці праведзеных гутарак, і гучна заяўляў:

— Я ніколі не бачыў жывога агітатара.

Ці азначала гэта, што ён бачыў мёртвых агітатараў, дакладна невядома. У адзін з прыездаў у Пінск мне паабяцалі паказаць агітгутарку. Агітатар — даяр, з гонарам паведамілі ў райкаме.

"Газік" да фермы пад'ехаць не змог, і ў чырвоны куток мы з інструктаркай прабіраліся праз завалы гною. Чырвонымі куткамі ці ленінскімі пакоямі называліся спецыяльныя месцы для адпраўлення рытуалаў — лекцыяў, палітінфармацыяў, падвядзення вынікаў сацспаборніцтва ды іншых магічных дзеянняў. Патрабавалася мець іх на кожнай ферме, у кожным цэху дзеля таго, каб паказваць правяраючым. Ленінскі пакой на той ферме меў асаблівасць: якраз на ўзроўні жывата праз дзверы праходзіла труба малакаправоду. Каб увайсці ці выйсці, даводзілася нізка прыгінацца; загадчык фермы, высокі тоўсты дзядзька, упоўз амаль на карачках.

Калі ўсе расселіся, наперад выпхнулі хлопца ў вайсковай форме — ён толькі вярнуўся з войска і на работу хадзіў у салдацкіх чаравіках і гімнасцёрцы.

Уменскпрыбылакубінскаяпартыйнаўрадаваядэлегацыяначалесастаршынёмурадарэспублікікубараўлемкастрамуаэрапорцедэлегацыюсустракаўсакратарцэкакапэбэдземянцейдэлегацыяўсклалакветкідапомнікаперамогі, — на адным дыханні, драўляным заціснутым голасам, утаропіўшыся пад ногі, адрапартаваў учарашні выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі і, зрабіўшы крок назад, схаваўся за спінамі даярак. Гэты сюжэт дні два перад тым паказвалі па тэлебачанні.

— Наш госць спяшаецца, сёння абыдземся без пытанняў, — падвяла вынікі інструктарка. Па дарозе назад яна махнула рукой:

— Ведаю я іх пытанні. Чаму цукру даюць па кілаграму на чалавека, ды і таго няма, дзе мыла падзелася. Дзе я ім мыла вазьму — нам, думаеце, даюць? Так, што дастанеш...

У разгар мыльнага крызісу я патраліў у Маскву на дачу былога кандыдата ў члены Палітбюро, сакратара ЦК КПСС — выхадца з Беларусі: той пагадзіўся адказаць на пытанні газеты, звязаныя з адной гісторыяй сталінскіх часоў. Калі я развітваўся з гаспадаром, яго жонка ўручыла мне невялікі, прыгожа загорнуты пакунак. У сярэдзіне аказаліся тры кавалачкі туалетнага мыла. Мой сябар, тэатральны рэжысёр, у якога я спыніўся, рагатаў як агалошаны:

— Дажыліся бальшавікі, мыла дораць. А тытуню табе не далі, солі не адсыпалі?!

І сурочыў — неўзабаве пачаліся "тытунёвыя бунты", знікла зубная паста. Калі сябар супакоіўся, дык спытаў, ці не ахвярую я пачак палібюроўскага мыла ў мэтах беспартыйнай гігіены і санітарыі, як ён выказаўся. Давялося дзяліцца. Праўда, даярка ці механізатар, нават з партбілетам, пасля рабочага дня пахлі зусім не так, як пасля дня ў райкамаўскім кабінеце ці рэпетыцыйнай зале.

Каб ствараць хаця б ілюзію дзейнасці, трэба было нешта рабіць. І райкамаўцы рабілі, праклінаючы прыезд карэспандэнта, дзеля якога даводзілася даваць прадстаўленне. Калі ў газеце з'яўляўся крытычны артыкул, яны шчыра недаўмявалі і крыўдзіліся. У адным раёне на Віцебшчыне новы сакратар, былы дырэктар саўгаса, пагнаў увесь склад райкама на буракі і сенакос, прычым не толькі наглядаць, але і палоць дзялкі. Гэта было найлепшае выкарыстанне прафесійных атэістаў, лектараў і ідэолагаў, хаця канечне, калгаснікам ненамнога палягчэла. Але калі я напісаў пра сакратарку па ідэалогіі, якая замест тэарэтычнага забеспячэння нарыхтоўкі кармоў сама выйшла ў поле, тая страшна абурылася і паехала скардзіцца спачатку ў абкам, потым у Мінск:

— Ён абразіў мяне як жанчыну, — заявіла госця рэдактару, — Напісаў пра мазалі на маіх руках!

Першая лэдзі раёна раней была некалі настаўніцай, паходзіла з вясковай сям'і. У сваім райкаме яна перажыла некалькіх першых сакратароў, вызначалася моцным характарам і ўладарнасцю. Жонкі мясцовай эліты — пракурора, суддзі, дырэктара фабрыкі таксама працавалі на сваіх гародах, але не афішавалі.

Калі пра гэтую драму пачуў адзін мінскі тэатральны крытык, мой добры знаёмы, ён заўважыў, што разносныя артыкулы пра ідэалагічную работу вядуць да няправільнай мэты. У выніку гэтая работа павінна паляпшацца, недахопы выпраўляцца, а значыць людзей будуць дурыць яшчэ лепш. А трэба хваліць, тады дасягалася б звышзадача — развальваць сістэму. Пра развал, сказаць праўду, асабліва тады не думалася. Але, далібог, ніякае самаўдасканаленне пасля крытыкі сістэме не пагражала, тут маё сумленне чыстае.

Уся стройная шматпавярховая структура прапаганды і агітацыі існавала на паперы і ў ідэалагічна заклапочаных мазгах выбраных функцыянераў. У эканоміцы эфект ад школаў маладога рацыяналізатара і гурткоў палітасветы сапраўды можна вымераць — мільёнамі змарнаваных працоўных гадзін. А ў ідэалогіі...

На Мінскім заводзе шасцерняў мяне завялі да лепшага прапагандыста, чыё імя вандравала як прыклад з даклада ў даклад. Мажная кабета з размаляваным тварам сядзела ў запушчаным цёмным пакоі, які аддзяляла ад цэха тонкая металічная перагародка. За сценкай раўлі станкі, час ад часу нешта бухала, са скрыгатам цягнулі жалеза па жалезу.

— Дзе вы праводзіце заняткі? — пракрычаў я.

— Што? Кажыце гучней!

Пасля паўторнага пытання прапагандыстка крыкнула ў адказ:

— Тут!

## Будучы філолаг



Будучы філолаг студэнтка Магілёўскага педагагічнага універсітэта Ірына Анціпава цікавіцца не толькі мастацкай і навуковай літаратурай, але і работамі мастакоў і фотамайстроў.

*Фота Мікалая ЦІТОВА, БЕЛТА*

## Бабровіцкая "Спадчына"



Створаны пяць гадоў назад фальклорны калектыў "Спадчына" Бабровіцкага Дома культуры Іўеўскага раёна атрымаў сёлета званне народнага. У яго рэпертуары ёсць і беларускія, і украінскія, і рускія песні. Але аснову складаюць непаўторныя мясцовыя напевы.

*На здымку: удзельніцы калектыву "Спадчына" Марына Вайніловіч, Алена Гурын, Алёна Чарнюкевіч, Жана Унгур, Вольга Дзегуль, Вольга Федарака, Людміла Шокаль.*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## Жыве ў Віцебску графік



Валерый Дураў — графік і гравёр з Віцебска. Яго творы ў чорна-белай і арыгінальнай графіцы, у тэхніцы металапластыкі добра вядомы многім аматарам гэтага віду творчасці.

Валерый — неаднаразовы ўдзельнік многіх выстаў у Лондане, Жэневе, Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Германіі, Прыбалтыцы і Расіі. Яго работы знаходзяцца ў прыватных калекцыях і галерэях як на Беларусі, так і за мяжой.

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

ПОСТАЦІ

# Скарынавых спраў прадаўжальнік

***480 гадоў назад, 6 жніўня 1517 года, знакаміты Францішак Скарына выдаў у Празе сваю першую кнігу. Тым самым ён стаў заснавальнікам беларускага кнігадрукавання. Прайшоў час, і ў слаўнага сына з Полацка знайшліся прадаўжальнікі. Але ці ўсіх з іх мы добра ведаем? У гэтым артыкуле гаворка — пра Міхаіла Слёзку...***

Псаваць адносіны з кіеўскім мітрапалітам Пятром Магілам у яго планы не ўваходзіла. І не таму, што Магіла меў уладу, карыстаўся вялікім аўтарытэтам, а з такімі людзьмі Слёзка не хацеў асабліва канфліктаваць. Была і іншая, прытым больш значная прычына. Менавіта Магіла ў 1639 годзе, калі Слёзка толькі які год паспеў папрацаваць ва ўласнай друкарні, стаў адным з тых, хто аказаў яму падтрымку, дазволіўшы "друкованье в друкарнъ своей вшеляких книг кгрецким, словенским и руским диалектом".

Не абышлося, праўда, без вырашальнага голасу і іншых, ад каго залежала даваць дазвол ці адмовіць. Але Слёзка, калі канчаткова вырашыў распачаць друкарскую справу, загадзя гэта прадбачыў. Яшчэ купляючы абсталяванне ў спадчыннікаў польскага друкара Яна Шэлічы, выйшаў на рымска-каталіцкага Львоўскага архіепіскапа С. Грахоўскага. Дамовіліся, што па яго заказе Слёзка пачне друкаваць польскія і лацінскія кнігі. І, канечне ж, вуснай згодай не абмежаваліся. С. Грахоўскі выдаў 5 жніўня 1638 года спецыяльную грамату, паводле якой Слёзка з гэтага часу лічыўся архіепіскапаўскім друкаром.

Не адкладваючы задуму на пасля, займеў каралеўскую прывілею на выданне і кніг кірылаўскім шрыфтам — царкоўнаславянскіх і ўкраінскіх. А ўжо ў 1639 годзе выйшаў на кіеўскага мітрапаліта. Аднак і тут, перш чым заручыцца блаславеннем Магілы на справы друкарскія, наладзіў кантакты з канстанцінопальскім патрыярхам і львоўскім епіскапам Іераміем Пісароўскім. Таксама атрымаў жаданыя граматы. Першая ж з іх, якую даў канстанцінопальскі патрыярх, была замацавана не толькі яго подпісам — сваю руку да гэтага, такога важнага для Слёзкі дакумента, прыклалі 12 мітрапалітаў...

Пасля ўсяго Слёзка і разгарнуў актыўную друкарскую дзейнасць. Апантаны любімай справай, па-сапраўднаму захоплены ёю, не ведаў спакою. Штодзённым правілам стала — жыць "эпрацы рук своих". Паняцце ж праца для Слёзкі ніколі не абмяжоўвалася асноўным заняткам. Хоць кнігі і былі на першым плане, але яны не перашкаджалі іншым пачынанням. Адно з іх і было звязана з імі.

Слёзка, заўважыўшы, якой папулярнасцю карыстаюцца розныя выданні, вырашыў і сам заняцца іх распаўсюджваннем. Калі дагэтуль гандлем надрукаванай літаратурай з поспехам займаліся іншыя, дык цяпер усе грошы заставаліся ва ўласнай кішэні. А яны ж — не лішнія. Заўсёды можна ўкласці і ў далейшае разгортванне друкарскай дзейнасці — матэрыялы неабходныя закупіць, паперу, рабочых наняць. Урэшце і ў іншы абарот лёгка пусціць.

Так і зрабіў, перайшоўшы ад продажу кніг на гандаль тканінамі, усходнімі дыванамі. І нават віном, чым вельмі здзівіў і сяброў і знаёмых. Ды чаму здзіўляцца — ні ў кога не ўкраў, нікога не абрабаваў. Віно гэткі ж тавар, як і ўсё, што прадаецца і купляецца. Адно каб карысць ад гандлю была. І зноў жа нязменным правілам застаецца — "эпрацы рук своих" жыць.

І, беручыся за выкананне выгаднага заказу львоўскага праваслаўнага епіскапа Арсенія Жаліборскага — перадрук па кіеўскіх выданнях Номаканона і Служэбніка, думаў Слёзка, што пагроза Пятра Магілы пагрозай і застанецца. Мітрапаліт жа яшчэ ў маі 1646 года (цяпер ішоў жнівень), калі даведаўся, што Слёзка з "прадпрымальніцтвам" зайшоў далёка, не жадаў улічваць, як яго пачынанні і намеры адпавядаюць намерам апекуноў, заявіў, што калі ён будзе праяўляць празмерную самастойнасць — анафемы не мінаваць. Тады ж і запатрабаваў "абысте поперестали Служебников от сего часу друковати, ним наши сподадутся".

На добры лад, Слёзку трэба было б прыслухацца і адносіны з Магілам не пагаршаць. Тым больш, што на гэты час яны ўжо былі сапсаваны з Львоўскім брацтвам. Толькі друкарскі "зуд" быў настолькі моцны, а жаданне патрымаць у руках чарговыя выданні да нараджэння якіх сам спрычыніўся, настолькі не пераадольнае, што Слёзка пра мітрапалітаву пагрозу, захоплены працай, забыўся. А ў выніку тое, што мусіла адбыцца, стала явай. З'явіліся новыя кнігі з цэрпкім, ні з чым не параўнальным пахам свежай фарбы і была аб'яўлена анафема.

Сапсаваныя ж адносіны, у параўнанні з ёй, успрымаліся цяпер драбязой, на якую і ўвагу звяртаць не варта.

А вось анафема...

Не толькі настрой сапсаваўся. Слёзка некалькі дзён нікога не хацеў бачыць. Думкі, адна за другую самотлівей, не пакідалі яго. Мог жа прадчуваць, на што ідзе, калі браўся за выкананне гэтага заказу Жаліборскага. Але, хіба адзін ён такі? Вынікі чалавек пачынае ўзважліва ацэньваць толькі тады, калі магчымае стане рэальным. І ацэнку зробленаму дае, ведаючы, што нічога перайначыць немагчыма.

Як маглі, супакойвалі яго дочкі. Зяці Мікалай Дзмітровіч і Сцяпан Лаўрышэвіч таксама абыякавымі не заставаліся. Але самыя спагадлівыя і шчырыя словы нядатны што-небудзь змяніць, калі пакутуе душа. А яна ў Слёзкі балела. І таму, што чым старанней асэнсоўваў гэты свой учынак, тым больш прыходзіў да высновы — надта вялікай віны за ім няма. І таму, што ўзрост такі, калі час задумацца над пражытым, паспрабаваць падвесці першыя вынікі, а замест гэтага даводзіцца ці не каяцца ў грахах. Нічога не зробіш — такая яго планіда...

Міхаіл Слёзка — беларускі майстар-друкар, асветнік, пісьменнік — адзін з самых дзейсных і паслядоўных прадаўжальнікаў выдавецкіх, асветніцкіх, адраджэнскіх (калі пад гэтым паняццем мець на ўвазе ўзвышэнне чалавечага духу, духоўны росквіт людства) традыцый Францішка Скарыны і Івана Фёдарава. Яго трэба згадваць у адным шэрагу з такімі выдатнымі нацыянальнымі дзеячамі, як Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Спірыдон Собаль і іншымі, хто ствараў адзін з найвялікшых цудаў, якія прыдумала чалавецтва за тысячагадовую гісторыю свайго існавання. Але імя Слёзкі марна шукаць у аўтарытэтных даведачных выданнях, якія з'явіліся ў нас з наладжваннем энцыклапедычнай справы. Выключэнне даведнік "Мысліцелі і асветнікі Беларусі" (1995), у якім усё ж знайшлося месца і Слёзку.

У чым жа прычына такой прыкрай няўвагі да чалавека, які заслугоўвае таго, каб пра яго ведалі нашчадкі? Яе, бадай, трэба шукаць у нашай спаконвечнай нацыянальнай бядзе — тое, што належыць самім, з лёгкасцю аддаваць іншым народам. Асабліва тых, хто працаваў за межамі Бацькаўшчыны. Са Слёзкам гэта зрабіць было прасцей простага: большую частку жыцця ён правёў на Украіне, працаваў у Львове. Да гонару ўкраінцаў, яны пра нашага выдатнага земляка не забыліся і імя яго пастаянна згадваецца ў навукова-даследчых працах, што тычацца гісторыі кнігадрукавання. Асабліва шмат зрабіў даследчык гісторыі кніг Я. Ісаевіч. У нас жа пра Слёзку можна прачытаць хіба ў манаграфіі Г. Галенчанкі "Идейные и культурные связи восточно-славянских народов в XVI — середине XVII в." (1989).

Дата нараджэння Слёзкі невядома. Можна сказаць прыблізна — канец XVI стагоддзя ці самы пачатак XVII-га. Магчыма, нарадзіўся ён у Вільні. Прынамсі, Вільня згадваецца ў адным з дакументаў, у якіх называецца і імя Міхаіла Слёзкі. Але ёсць падставы сцвярджаць, што нарадзіўся ён бліжэй да Навагрудка ці нават у самой колішняй сталіцы Вялікага княства Літоўскага. Дайшлі звесткі, што ў час пажару, які адбыўся ў Навагрудку ў 1616 годзе, у цэнтры горада згарэлі дзве гандлёвыя крамы, што належалі бацькам будучага друкара. Тым самым Слёзка застаўся без спадчыны і вымушаны быў сам турбавацца, як жыць далей. Ужо ў сталым узросце ён сведчыў, што з маленства зарабляў на кавалак хлеба "при знаменитом дълъ типографском".

У 1616 годзе Слёзку было недзе гадоў 16—17, а мо і таго меней. Магчыма, працаваў у Вільні, дзе, як вядома, былі моцныя друкарскія традыцыі. Праўда, на гэты час становішча брацкіх друкарняў, а таксама прыватных рэзка пагоршылася. Звязана гэта было з Брэсцкай уніяй. У асноўным дзяржаўная падтрымка аказвалася каталіцкай і уніяцкай цэрквам, праваслаўныя храмы яе не мелі. Прывілея захавалася толькі за беларускай друкарняй Мамонічаў. У ёй, відаць, і знайшоў на пэўны час прыстанішча Слёзка. Аднак ранейшага размаху дзейнасці не назіралася, і многія майстры ехалі туды, дзе былі больш спрыяльныя ўмовы. У тым ліку і на Украіну. Услед за імі падаваліся і вучні, падмайстры, а да апошніх хутчэй за ўсё яшчэ і належаў Слёзка.

Не маючы сродкаў, Слёзка накіраваўся пехам, узяўшы з сабой толькі сумку, у якую паклаў самае неабходнае. Выказваюцца меркаванні, што на некаторы час ён спыніўся ў Кіева-Пячорскай лаўры. Сталае ж прыстанішча знайшоў у Львове, ва Успенскім Стаўрапічыйскім брацтве, у члены якога быў прыняты ў 1633 годзе.

Падтрымку знайшоў у асобе ўплывовага братчыка М. Мазапеты, які па вартасцях ацаніў маладога чалавека, ахвочага праявіць сябе ў друкарскай справе. А спачатку Слёзка любой работы не цураўся. І не толькі ў сценах брацтва. Каб жа замацаваць прыязныя ўзаемаадносіны з Мазапетам, пабраўся з яго сястрою Варварай. Той дапамог яму стаць падмайстрам, потым Слёзка быў друкаром, а пасля ўступлення ў брацтва яму даручылі загадваць друкарняй.

Арганізатарскія здольнасці Слёзкі далі добры плён. У 1634 годзе пабачылі свет Каноны Багародзіцы, у 1636-ым — Евангелле, у 1637 годзе — Служэбнік. Не кажучы пра іншыя выданні.

Праца прыносіла задавальненне, але хацелася большай самастойнасці, друкаваць не толькі тое, што замовіць брацтва, але і рабіць нешта па душэўнай патрэбе. Таму Слёзка пачаў дабівацца стварэння ўласнай друкарні. Калі справа вырашылася станоўча, памочнікам яго стаў вядомы львоўскі друкар Андрэй Скольскі. Яны хутка знайшлі паразуменне. Зблізіла і агульнасць справы, і інтарэсы не разыходзіліся. Гэта выявілася ўжо тады, калі ў 1638 годзе па заказе луцкага епіскапа Афанасія Пузыны друкавалі "Павучанне новапрысвечанаму Іерэві" і адначасова набіралі царкоўнаславянскі Апостал. Яго Слёзка з гонарам называў "первым овощем" сваёй друкарні.

Калі кошка перабегла ім дарогу — сказаць цяжка. Але рознагалоссі, што нечакана ўзніклі, паступова перараслі ў непрымірымасць, і справа дайшла да суда. Матэрыялы яго даюць падставы меркаваць, што прычыну пагаршэння ўзаемаадносін Слёзкі і Скольскага трэба шукаць у самым пачатку, калі яны ўзяліся сумесна выдаваць кнігі. Даверлаючы адзін аднаму, правы і абавязкі кожнага дакладна не агаварылі. І ўявіць сабе не маглі, што калі-небудзь стануць ворагамі. Кожны і сваю працу рабіў, і таварышу дапамагаў. Пра гэта, нягай і не прама, а ўскосна, сказалі на судзе падмайстры, заявіўшы, што працавалі пад кіраўніцтвам абодвух, а Слёзка і Скольскі "заведавали печатание и все делали совместно". Сам Скольскі аднак з такім сцвярджэннем не пагаджаўся і з крыўдай канстатаваў, што з'яўляўся ў Слёзкі звычайным наёмным работнікам, хоць і перадаў для агульнага карыстання многія свае матэрыялы, рыштунак і, у прыватнасці, пяць відаў кірыліцкіх шрыфтоў.

Відаць, дыму без агню не было, чым і кіраваўся суд, вырашаючы спрэчную справу. У сакавіку 1640 года, калі Скольскі канчаткова развітаўся з нядаўнім таварышам па працы, са Слёзкі ўзялі штраф, каб хоць неяк кампенсаваць арэндную працу. Мусіў Слёзка падзяліцца са Скольскім грашамі і для завяршэння тым выпуску кніг, друкаванне якіх пачалося да таго, як паміж імі ўзніклі непаразуменні. Бок Скольскага ўзяло і брацтва, угаварыўшы патрыярха Парфенія, каб той прапанаваў Пятру Магілу забраць у Слёзкі раней выдадзены прывілей. Да гэтага, аднак, не дайшло. Магіла ў канфліктнай сітуацыі паказаў абачлівасць і разважлівасць. На той час у яго планы не ўваходзіла прымаць такія строгія меры. Ведаў, наколькі вопытны майстра Слёзка.

Нарэшце і ў брацтве зразумелі, што гэты канфлікт і ім на карысць не пойдзе. Звярнуліся да Слёзкі з просьбай забыць нядаўнія крыўды і зноў узначаліць друкарню. Угаварылі яго толькі ў 1643 годзе. Падпісалі адпаведныя дагаворы, і Слёзка стаў адначасова ўладальнікам уласнай друкарні і кіраўніком брацкай. Тым самым яго становішча ўмацавалася, а гэта надало большай упэўненасці, пашырыліся і правы. Мяркуючы, што канфлікты магчымы і ў будучым, Слёзка дабіўся, каб у дагаворах былі вызначаны яго абавязкі як выдаўца. Буйнафарматныя кнігі памерам у друкарскі аркуш і ў чацвёртую долю аркуша мелі на вокладцы выхадныя даныя брацтва. Невялікія ж выданні, што друкаваліся кірыліцкімі шрыфтамі, выходзілі пад яго імем.

"Брацкія" кнігі было выгадна друкаваць. Звычайна яны мелі вялікі тыраж, які часта даходзіў да 1200 экземпляраў. Слёзка з іх атрымліваў 150 і мог свабодна прадаваць. А гандляваць ён, як вядома, умеў. Выданні, якія выпускаліся яго друкарняй, і тыя, што выходзілі пад эгідай брацтва, распаўсюджваліся не толькі на Украіне, а і траплялі на Беларусь і ў паўднёва-славянскія краіны.

Гэта відаць з экземпляраў, што захаваліся. Напрыклад, "Трыёдзі каляровая", датаваная 1642 годам, была куплена есаулам Запарожскага войска Янам Барабашам. "Анфалагіён", выпушчаны ў 1643 годзе, набыў масквіч Андрэй Васільевіч Талстой. А вось "Трыадзіён" (1642) праз некалькі гадоў апынуўся ў прыказе "пана" Леўкі Патаповіча ў "граде" Кралееве. Перад гэтым экземпляр згаданай кнігі некаторы час знаходзіўся ў сяле Пірычы, ім карыстаўся "абывацель слабоцкі" Грыгорый Ігнатоўскі. Цікавы лёс "Евангелля" 1636 года. Яго "адмянілі" (г.зн. перакупілі для ўкладу ў царкву) дзяржыкраўскія мяшчане Семіон Трушчанка і яго таварыш нехта Ахрэм.

Але Слёзка прадаваў не толькі кнігі, да выдаўцу якіх меў непасрэднае дачыненне. У першай палове 40 гадоў XVII стагоддзя ён наладзіў сувязі з друкарняй Кіева-Пячорскай лаўры. Найперш, канечне, каб атрымліваць асобныя паліграфічныя матэрыялы. У прыватнасці, для друкавання "Трыёдзі..." узяў каляровую дошку для тытульнага аркуша, падабраў ілюстрацыі.

Наладжваючы кантакты, шукаў шляхі для абмену літаратурай. Знайшоў падтрымку ў кіраўніка брацтва К. Лагіша, узяў у хаўрусніке Мазапету і купіў у кіяўлян тысячу экземпляраў "Трыёдзей...", выпушчаных у Кіева-Пячорскай лаўры.

Агульны кошт гэтых кніг склаў 10 тысяч залатых. Сума ўнушальная! Грошы ў Слёзкі заўсёды былі (брацтва разлічвалася з ім не толькі 150 экземплярамі кожнай надрукаванай кнігі, а і аплачвала паслугі, працу), і ён разумеў, што прадпрымальніцтва ў распаўсюджванні літаратуры, як і ў любой гандлёвай справе, ідзе на карысць. У яго асобе ўдала спалучаліся друкар, які валодаў вялікім майстэрствам, і прапагандыст кнігі, які, не адмаўляючы матэрыяльнай выгоды, не забываў і пра духоўныя набыткі.

Сваіх поглядаў не хаваў. Найбольш поўна яны выказаны ў прадмовах "Апостала" 1639 года, прысвечаных П. Магілу, а таксама тых, што адрасаваны чытачу. Слёзка не адмаўляў цяжкасцяў на сваім шляху, але быў упэўнены, што іх лёгка пераадолець, калі мець перад сабой выразную мэту. Для падмацавання сваіх думак ён цытаваў "Энеіду" Вергілія:

***...А ты не ўступай злому,***
***Але иди смѣло напротив тому.***

Быў перакананы, што толькі свабода выдавецкай дзейнасці прынясе карысць. Як і таму, хто ёй займаецца, так і ўсяму грамадству. Гаварыў аб неабходнасці выпускаць як мага больш кніг, прытым рознага зместу: "их типом выдающи, не идина и другая десятерица топографий не вековала (бы)".

"Вакаваці" трэба разумець, як пуставаць, бяздзейнічаць. Відавочна, што Слёзка выступаў супраць таго, каб хоць якая-небудзь друкарня прастойвала. Не прымаў і манапалізацыі ў друкарскай справе. Разумеў: чым больш будзе друкарняў, тым лепш. Ратаваў, каб выдаўцы не толькі ў адным горадзе, а і нават у адным доме (меў на ўвазе саму друкарню) маглі "без зависти и один другому перешкоды" працаваць. Добрая ж канкурэнцыя магчыма там, дзе кожны імкнецца і як мага лепш наладзіць справу, і паклапаціцца, аб кніга стала не проста таварам, а і творам мастацтва.

А яшчэ апірышчам думкі... У гэтым кірунку Слёзкам таксама зроблена шмат. Каб апярэдзіць канкурэнтаў, ён пастаянна дбаў аб удасканаленні афармлення кніг. Часта выкарыстоўваў адлiўныя ўпрыгожванні, розныя віды наборнага арнаменту, а для зручнасці карыстання ствараліся алфавітна-прадметныя ўказальнікі. У асобных выданнях колькасць ілюстрацый дасягала больш за 60. Па ўсім відаць, іх рабілі розныя мастакі. Пад адбіткамі асобных засталіся ініцыялы ксілографаў — "ВФ", "ВФЗ", "ЗВФ" і іншыя. На жаль, даследчыкам так і не ўдалося ўстанавіць, хто за імі хаваецца.

Затое захаваліся імёны некаторых з тых, хто разам са Слёзкам рупіўся аб выданні кніг. Для прыкладу, у 1639 годзе ў яго ўласнай друкарні працавалі "слоўваадліўшчык" Дзмітрый, наборшчыкі Мацвей, Сцяпан Палавецкі, Дзям'ян Хамянскі. Тады якраз друкаваўся чарговы "Апостал". Ужо з гэтай кнігі відаць, наколькі творча Слёзка падыходзіў да друкавання. У прадмове да "Апостала" прыводзяцца вытрымкі з твораў Платона, Цэзара, Плутарха, Вергілія, Лукіяна. А каб думкі, выказаныя імі, былі чытачамі лепш засвоены, дзве цытаты пададзены на спецыяльна зробленым ксілаграфічным клішэ...

...Псаваць адносіны з кіеўскім мітрапалітам Пятром Магілам у яго планы не ўваходзіла. А атрымалася — ворагу не пажадаеш. Хіба цяплілася яшчэ думка, што мітрапаліт зменіць гнеў на міласць, здыме анафему.

Не зняў.

Не паспеў зняць — у канцы 1647 года Магіла памёр. Заставалася з анафемай змірыцца. Ды каб жа толькі адна непрыемнасць! Не мог спакойна перанесці тое, што Андрэй Скольскі, з якім яны так і не памірыліся, самавольна перавыдаў выпушчаную раней у друкарні Слёзкі "Азбуку". Звярнуўся ў суд, нанесеныя страты ацаніў у 2 тысячы залатых. Не паспеў з гэтай справай разабрацца, як самому прыйшла позва. І не проста ў суд, а ў Каралеўскі суд. У лістападзе 1647 года Слёзку абвінавацілі ў напісанні на польскай мове і распаўсюджванні "твора, варожага святой рымскай царкве" — кнігі "Збор кароткай навукі аб артыкулах веры праваслаўна-каталіцкай хрысціянскай".

Гэта было больш чым сур'ёзна. І анафема падавалася ўжо не такой страшнай. Таму і вырашыў пра яе "забыць". І заняўся ўладжваннем новага канфлікту.

Як быццам цяжкасцей гэта не выклікала, бо гэтай кнігі Слёзка не пісаў, а аўтарам яе з'яўляўся сам... Магіла. Толькі як даказаць невіноўнасць? Паставіць усё на месца магла адміністрацыя Кіеўскай мітраполіі. Як яму ўдалося памірыцца — невядома, але ў снежні 1647 года намеснік кіеўскага мітрапаліта Лявонцій Шыцык-Залескі афіцыйна заявіў, што кніга, якая выклікала такі перапалох, была напісана Магілам і па яго асабістым загадзе аддрукавана ў 1645 годзе ў Кіеве, "а не в типографии славетного господина Михаила Слёзки".

Канфлікт уладзіўся, канфлікт працягваўся... Гэтым разам ва ўзаемаадносінах з брацтвам. Цярпенню Слёзкі прыйшоў канец, калі брацкі пачалі ўмешвацца ў яго стасункі з падмайстрамі, а аднаго з іх паспрабавалі, без згоды Слёзкі, перавесці ў майстры. Адчуваючы, што праўды не дабіцца, Слёзка заявіў, што ён адмаўляецца ад пісьмовай дамовы з брацтвам, прынятай у 1643 годзе. А ў выніку са студзеня 1648 года пачаў выпускаць кнігі толькі ва ўласнай друкарні. Праўда, пачатыя сумесныя работы давёў да канца. Быў завершаны "Анфалагіён", да якога прыступілі ў 1647 годзе. Па даручэнні брацтва зрабіў пераплёт гэтай кнігі і ў 1651 годзе яна пабачыла свет.

Друкарская праца Слёзкі працягвалася 34 гады (памёр у 1667 годзе), калі браць за пачатак 1633 год. Але ўласна выдавецкай дзейнасцю ён займаўся з 1638 года і даў жыццё больш чым 50 кнігам, а гэта амаль трэць усіх, выпушчаных на той час на Украіне. Асноўнае месца сярод іх належыць богаслужэбнай літаратуры, хоць сустракаюцца і вучэбныя дапаможнікі, творы ўкраінскіх пісьменнікаў, лаціна-польскія выданні. На латыні выйшла ў 1646 годзе і самае цікавае свецкае выданне Слёзкі — папулярны твор польскага матэматыка Мікалая Жураўскага "Эфемерыды, ці Каляндар"...

Жыў і працаваў Слёзка, як вядома, удалечыні ад Радзімы, а ці памятаў пра яе? Канечне ж, як і кожны чалавек, якога вятры лёсу занеслі далёка ад родных пенатаў, не мог не згадваць яе. Але не толькі памяць маленства і юнацтва пастаянна жывіла душу знакамітага львоўскага друкара. Быў у яго і не менш прыемны напамінак. У 1658 годзе, калі памёр іераманах Самуіл Дабранскі, Слёзка паспяшаўся набыць яго бібліятэку, а ў выніку ў свой багаты кнігазбор змог дадаць яшчэ 48 выданняў — кнігі твораў Цыцэрона, Петраркі, "Пісьмы цёмных людзей" Э. Ратэрдамскага... І "Гісторыю аб жыцці Варлама і Іасафата...", выпушчаную Куцеінскай друкарняй.

Куцеіна пад Оршай... Куцеіна бліжэй да мясцін, дзе яму давялося жыць, пакуль не стаў трывала на ногі.

А што "стаяў" трывала — сумненняў няма. Гэта засведчылі і падзеі, якія разгорталіся пасля яго смерці. Брацтва, якое, здавалася б, цалкам адмежавалася ад Слёзкі, вырашыла любой цаной заўладаць яго маёмасцю і прымусіць зяцёў Слёзкі адмовіцца ад друкарскай дзейнасці. У дасягненні мэты перайшлі мяжу прыстойнасці. Угаварылі мітрапаліта Антонія Вінніцкага забараніць пахаванне, пакуль не будзе знята анафема. Як сведчаць дакументы, пахаванне было затрымана "на два тыдні і больш".

Ні Лаўрышэвіч, ні Сцяпан Дзмітровіч пагрозы не збаяліся і на ўгаворы не пайшлі, а з друкарняй развітвацца не збіраліся. Тады брацтва пачало супраць іх судовы працэс. Зяці Слёзкі абвінавачваліся ў тым, што парушылі манаполію, паводле якой, маўляў, друкаваць царкоўнаславянскія кнігі мела права толькі брацтва. Тыя, у сваю чаргу, паскардзіліся, што братнікі яшчэ да заканчэння суда перашкаджалі ім завяршыць выпуск кніг "рознага стылю".

Судовая цяганіна працягвалася да сакавіка 1670 года. Перамаглі братчыкі. Лаўрышэвіч і Дзмітровіч вымушаны былі прадаць друкарню брацтву за 7 тысяч залатых.

Каб лепш уявіць сабе, наколькі багатым быў Слёзка, да месца такое параўнанне: у 1675 годзе Перамышльскае брацтва купіла адну "друкарню" за 850 залатых, а ў 1683 прадала яе Львоўскаму брацтву за 1200 залатых. Але гэты дастатак не нажыве служыў, а на карысць духоўнасці.

Дык будзем часцей згадваць імя чалавека, які такім правілам кіраваўся ў сваім паўсядзённым жыцці. Хоць жыў і працаваў Слёзка не на Беларусі, але і жыццём, і вынікам працы сваёй даказаў, на якія добрыя справы здатны беларусы.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

АНОНС

# Шукаем мастацкай адметнасці

**Адметная завядзёнка апошніх часоў — прымяркоўваць да юбілеяў тэатральных калектываў прадстаўнічыя навукова-творчыя канферэнцыі — мае ўсе падставы называцца традыцыяй і плённа ўплываць на творчае жыццё Беларусі.**

Да 75-годдзя купалаўскага тэатра прымеркавалі міжнародную сустрэчу практыкаў ды тэарэтыкаў тэатра, якія разглядалі "Беларускі тэатр у прасторы сусветнай культуры"; летась, акурат на 70-годдзе коласаўскага тэатра, зацікаўленым міжнародным складам абмяркоўвалася "Беларускае акцёрскае мастацтва".

У сёлетнім кастрычніку — 50 гадоў Гродзенскаму абласному драматычнаму тэатру; з 15 па 17 кастрычніка юбілею будзе спадарожнічаць міжнародная навукова-творчая канферэнцыя "Сучасная беларуская рэжысура: пошукі мастацкай адметнасці ў кантэксце традыцый еўрапейскага тэатра". Ёсць усе падставы прычакаць усебаковага аналізу стану сучаснай беларускай рэжысуры, — рэжысуры, чыя роля ў тэатры нашага стагоддзя вызначальная.

З ініцыятывай правесці чарговае навукова-творчае спатканне Саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў звярнуўся ў Міністэрства культуры Беларусі, — адметнай завядзёнкай апошніх часоў зрабілася падтрымка міністэрствам вартых ініцыятыў творчых саюзаў. "Добра было б і ёй перапварыцца ў традыцыю, — заўважыў старшыня саюза літаратурна-мастацкіх крытыкаў Рычард Смольскі. — Новаўтворанаму нашаму саюзу прадстаўляецца выключны дэбют. Нагадаю, што адно з падставовых палажэнняў статута — аналітычная дзейнасць па вывучэнні і даследаванні сучаснага мастацкага працэсу".

Паводле старшыні саюза Р. Смольскага, рэй на канферэнцыі будуць весці рэжысёры-практыкі. Б. Луцэнка распрацоўвае тэму "Тэатр пры канцы дваццатага стагоддзя: досвед спасціжэння рэчаіснасці", В. Раеўскі мае намер распавесці пра "Гістарычны спектакль: традыцыі і навацыі". Даклад Р. Таліпава закране "Праблемы ўзаемадзеяння розных сцэнічных культур у сучасным мастацтве". А. Ляляўскі вызначыць у "Лялечным тэатры дзевяностых гадоў: межы магчымага". Натуральна, усе вядучыя рэжысёры перш-наперш будуць абапірацца на ўласныя досведы.

Даў згоду ўдзельнічаць у беларускай сустрэчы Л. Хейфец з паведамленнем пра праблемы ды перспектывы сучаснай рэжысуры; дарэчы, ягоны супольны праект (будучы спектакль) з купалаўскім тэатрам ужо абмяркоўваецца. Не ўпершыню прыедзе з Літвы Г. Падзягімас, які займаецца ў тэатры праблемамі нацыянальна-культурніцкага адраджэння. Акрамя прадстаўнікоў Польшчы ды Украіны, будуць мець магчымасць грунтоўна выказацца ўсе буйныя беларускія рэжысёры, — М. Пінігін, А. Андросік, В. Баркоўскі, М. Трухан, У. Караткевіч, В. Мазынскі, В. Катавіцкі, М. Абрамаў, А. Яфрэмаў, Г. Мушперт. З аналітычнай рыхтуюцца да спрэчак А. Сабалеўскі, Г. Алісейчык, Т. Гаробчанка, Т. Арлова, Т. Катовіч, В. Салееў.

ЛАПІНАЦЫЯ

# Яшчэ адна загадка XIX стагоддзя

## НЕВЯДОМЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЕРШЫ

— Колькі ж гэта архітвораў не можа назваць сваіх творцаў!? — усклікнуў некалі Альгерд Абуховіч.

Гэтыя радкі з "Мемуараў" пісьменніка (адзіных беларускамоўных дзённікавых нататак у XIX стагоддзі) можна прыгадваць у архіўных сховішчах кожны раз, беручы ў рукі ананімны верш, апавяданне-абразок, непадпісаную карэспандэнцыю...

Абуховічава выказванне ў нашым невялікім даследаванні будзе мець прамыя адносіны да самога творцы, паколькі размова пойдзе пра мастацкія тэксты мінулага стагоддзя, невядомыя айчыннаму літаратуразнаўству.

Нядаўна Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва ў шэрагу іншых паэтычных твораў (пераважна гутарак) набыў некалькі аркушыкаў з невялікімі вершаванымі тэкстамі. Аўтографы гэтыя ад 1946 г. перахоўваліся ў Мінску ў прыватным архіве. У нашу сталіцу яны трапілі з Вільні праз Уладзіславу Францаўну Луцэвіч.

За смугою часу згубілася імя віленскага ўладальніка. Улічым, што працяглы час Вільня існавала як цэнтр беларускага літаратурнага і культурнага жыцця. Успомнім, што ў Вільні быў музей імя Івана Луцкевіча, дзе месціліся незвычайныя скарбы і багатыя архівы. 1945 год быў для Беларускага музея трагічным: ён знік з еўрапейскага культурнага асяродка. Ягоныя скарбы раскідаліся па многіх сховішчах і бібліятэках. Відаць, тады і трапілі ў прыватны архіў гэтыя старонкі.

Якія яны? Пацямнелая ад часу папера ў два разлінаваныя лісткі з амаль выцвілым блакітам. На першай старонцы ў левым ражку цісненая манаграма M L з княжацкай каронай наверсе. Такія манаграмы ў мінулым выкарыстоўвалі пераважна заможныя, шляхетныя асобы. Справа ад манаграмы пачынаецца запіс верша "Шов я вчора в ночі с Глуска..."

***Шов я вчора в ночі с Глуска***
***Да так трохі зажурівся***
***Глянув, щось дорога вузка!***
***Ліхо ж!.. —***
***мабыть заблудівся?***
***Я туды, сюды шататца***
***Щось не тое! Ей же Богу,***
***Треба вам уже прізнатца:***
***Я попав не в ту дорогу!***
***Що робіть?***
***Достав запалку,***
***Засветів, дай нахілівся***
***Трохі на Леося палку.***
***А тут грівенік сгубівся!***
***Сев на землю, мацав-мацав***
***Да німашека нічого.***
***Тут уже б другій заплакав,***
***Да пріщлось не на такого.***
***Як же...***
***Там яны жартують,***
***Зубы скаляць да смеютца.***
***Полькі кадрілі танцують***
***С паненкамі —***
***в лапы бьютца.***
***Тутака ж савсім не жарты***
***За грошамі лазів, гнувся,***
***Бо чаго-нібудь да варты***
***І до дому чуть вярнувся.***

Далей яшчэ адзін мастацкі тэкст, адрозны сваім рытміка-інтанацыйным гучаннем, а галоўнае — высокімі ідэйна-мастацкімі вартасцямі. Нібы паўстаў ён пад пяром іншага паэта.

***Взбійсе в гору, мой соколе!***
***Глянь, што робітца на доле.***
***Глянь, ты браце,***
***вокам сонца***
***На радзімый край без конца.***
***Глянь на пушчы і разлогі,***
***На Дняпровы глянь парогі.***
***Гета ж твая зямля-маці***
***Тобі ж на ней пожіваці.***
***Адна душа ў хароводзе***
***Ад той зямлі плыве ў згодзе.***
***Прыслухайся той музыцы***
***Сабярэмся у вечарніцы.***
***А ты станеш между намі***
***Развяселіш нас песнямі.***
***Як высока ключаць гусі***
***Так да нашай Беларусі***
***Адарваўшыся ад беды***
***Завернуцца ўсе саседы***
***Так як колісь прыхадзілі***
***Хлеб ламалі і мёд пілі.***
***Толькі, браце, без развагі,***
***Не касайся чужой звагі.***
***Па бацькоўскім абычаю***
***Будзем ставіць хату з краю.***
***Лад завесці у ней трба***
***Каб на зіму стала хлеба***
***Каб слабодна і весоло***
***Слава наша пошла ў коло.***
***Каб прымером мы служілі***
***Хлеб ломалі і мёд пілі***
***І каб Бога мы хвалілі.***

Прынцып перадачы моўных асаблівасцей тэкстаў ашчадна захаваны, паколькі характар гукапісу і ўвесь рытміка-інтанацыйны малюнак паслужаць для дасягнення калі не галоўнай, дык важнай мэты публікацыі — высвятлення аўтарства. Галоўная ж мэта — увесці творы ва ўжытак. Што і зроблена.

Паспрабуем цяпер прасвятліць паходжанне аўтарства.

Публікацыя абодвух вершаў "Шоў я ўчора ўночы з Глуска..." і "Ўзбійся ў гору, мой саколе!" побач тлумачыцца тым, што, перапісаныя разам, адной асобаю, яны могуць праліць святло на разгадку іх аўтарства. Найбольш выніковай для вырашэння няпростай літаратуразнаўчай загадкі паслужыла суправаджальная празаічная прыпіска адразу ўслед за вершамі. Яна набліжае нас, хоць на некалькі крокаў, да таго часу і асяродкаў, у якім ствараліся многія творы беларускай літаратуры мінулага стагоддзя.

"Дасылаю Табе жаданыя вершы, мой дарагі братачка, вершы ж пра Зарэчча — у Цябе, ты іх цяпер забраў. Скажы таму Пану, што па Святах можаш яму прывезці "Стары ляснік" — калі ён тых вершаў не мае. Абдымаю Цябе найсардэчней. Твая М.

Найдаражэйшы мой Стасічак!

Сапсаваўся мой улюбёнец, што так доўга не пісаў і з мяне цяпер кпяць, аднак на гэты раз дарую і пішу колькі слоў, можа, і я спаткаю Цябе ў Менску [*далей тэкст старанна закрэслены*]..

Абдымаю Цябе, даручаючы ад усяго сэрца апецы Маці Божай. Любячая матка Станіслава".

Хто і каму адрасаваў гэты ліст? Хто і для каго перапісваў (кірыліцай) беларускія вершы?

Відавочна, "карэспандэнтаў" і адрасата, апроч сямейнай блізкасці, яднае яшчэ адно: усе яны з "польска"-каталіцкага асяродка на Беларусі. Пачатковае "mój drogi braciszku" зусім не стасавалася з подпісам "Kochająca matka Stanisława" і прывяло да хуткай лагічнай разгадкі: ліст паўстаў ад імя дзвюх асоб. Пачатак, верагодней за ўсё, пісала сястра і засведчыла крыптанімам "Twoja M." (З кантэксту становіцца зразумелым, што менавіта яна перапісвала і дасыла вершы брату Станіславу). Другая частка ліста выйшла з-пад рукі маці. Старанна закрэсленыя ёй напрыканцы два радкі ўдалося расчытаць: "аднак гэта цалкам будзе залежыць ад бацькавай кішэні". На жаль, ключ да разгадкі яны не далі.

Так і заставаліся ў нашым даследаванні доўгі час невядомымі тры постаці: маці Станіслава, сын Станіслаў-Стасічак і загадкавая дачка-сястра М. Дакладней, чатыры, бо ў першым, "глускім", вершы згадваўся яшчэ нейкі Леось-Лявон (Трохі на Леося палку).

Аднак прыпіскі самі па сабе каштоўныя ўжо тым, што дапамагаюць ускосна датаваць паходжанне вершаваных аўтографаў. "Стары ляснік", як вядома, упершыню быў апублікаваны ў календары "Северо-Западный край" на 1893 год (выйшаў з друку напрыканцы 1892 г. пад рэдакцыяй А. Слупскага). Значыць, час з'яўлення абодвух вершаў — не пазней сярэдзіны 1890-х гг.

Першапачаткова згадванне Менска і Лучынавага верша "Стары ляснік" схіляла да гіпотэзы: перад намі — невядомыя раней творы Яна Неслухоўскага (Янкі Лучыны, 1851—1897). Наогул, да аўтарства Я. Лучыны схіляла многае, у тым ліку аналіз мовы. Аўтар добра валодае версіфікацыйнай тэхнікай, пачатковыя запеўныя строфы лёгка запамінальныя. Пагартаўшы вершы Я. Лучыны, знайшліся іншыя сугучныя звароты паэта.

Янка Лучына:

***Ці над Дняпроўскай***
***затокай старою...***
*("Усёй трупе...")*

***Жураўлі ўжо лятуць***
***з крыкам звонкім ключом***
***Маці-зямліца***
*("Роднай старонцы")*

Ананімныя творы:

***На Дняпровы глянь парогі***
***Як высока ключаць гусі***
***Гэта ж твая зямля-маці***

Аднак што да "рытміка-інтанацыйнага гучання" — дык спецыялісты (тут мы спасылаемся на аўтарытэт даследчыка У. Мархеля, ён па нашай просьбе азнаёміўся з тэкстам абодвух вершаў) — сцвердзілі: няма падстаў казаць, што яны — Лучынавыя. Да таго ж, насцярожваюць пэўныя ўкраінізмы (шчось, взбійся).

Цяпер звернем увагу на верш "Шоў я ўчора ўночы з Глуска...". Першае, што прыходзіць на думку: ці стаў бы паэт у вершаваным радку рыфмаваць месца, дзе ніколі не быў? Тым больш, ці стаў бы засноўваць сюжэт твора на дробным бытавым здарэнні (чалавеча збіўся з дарогі, а шукаючы яе, пагубляў грошы), згадваючы канкрэтных персанажаў (Леося-Лявона)? Хутчэй за ўсё — не. Зыходзячы з такой акалічнасці, аўтарства верша наўрад ці магло належыць Лучыну.

А вось за згадкай пра Глуск паўстае іншая постаць беларускай літаратуры XIX ст. — Альгерд Абуховіч (1840—1898). Праўда, параўнальны аналіз вершаў з іншымі творамі "графа Бандзінэлі" не даў тых станоўчых вынікаў падабенства, як у выпадку з "аўтарствам" Лучыны. Але чым глыбей аналізавалі пытанне аўтарства, тым далей верагоднасць Лучынавага аўтарства знікала. Цяпер ужо А. Абуховіч нечакана падаў у нашыя рукі ключ да разгадкі займальнай таямніцы.

Зацытуем адзін урывак з слынных "Мемуараў" графа Бандзінэлі — частку мемуараў, пазначаную 1894 годам. "Сягонняшні дзень умацаваўся у маёй памяці: першы раз пачуў я, як да мяне сказана: "Дзеду, дзедку!" Было гэткае здарэнне: падвечар зайшоў я да майго даўняга суседа, п. Сымона Легатовіча, і трапіў там на дажынкі (...) Пайшоў шукаць я гожую паненку Маню Легатавічанку (...) Народ рабочы заўзята танцаваў у слаўнай зале Зарэцкага палацу...".

Ці не гэта Зарэчча мелася быць услаўлена ў вершаваных творах, дасланых невядомай М. брату і пра якія ідзе гаворка ў празаічным пастскрыптуме? Відаць, маёнтак Зарэчча праўдзіва вылучаўся неардынарнасцю, калі яму прысвячалі оды на беларускай мове. Вось як далей малюе ў прозе гэты каларытны маёнтак Альгерд Абуховіч:

"Зарэчча памятаю з тых часоў, калі я быў такі маленькі, што прысмакі мне на крэсле, а не на стале стаўлялі. Пасля не быў там лет колькінаццаць... Зарэчча — гэта толькі частка Глускага графства; атрымаў яго п. Караль Нерэзыуш (...)".

Асоба Караля Нерэзыуша настолькі яркая, што Абуховіч няўзнак пераходзіць з апісання Зарэчча на постаць ягонага асноўнага ўладальніка і спыняецца на ім досыць падрабязна. Побач з Нерэзыушам аўтар мемуараў успамінае і Станіславу Легатовіч. "Апошняя з гэтага дому Станіслава Легатовіч пыталася ў мяне, ці не ведаю чаго аб яе родзе".

Настаў час пашукаць Зарэчча. Іх у "Słowniku geograficznym Królestwa Polskiego i innych krajów Słowiańskich" (Варшава, 1895. Т. XIV.) — каля сотні (81). Нашае Зарэчча павінна быць побач з Глускам. Ёсць! "...Фальварак над рэчкай Пціч, Бабруйскі пав., у 3-й акруг. гміна і каталіцкая парафія Глуска (за 3 в.)... Досыць доўгі час уласнасць Нерэзыушаў, праз пасаг Станіславы, дачкі Станіслава Нерэзыуша, пераходзіць да Легатовічаў..."

Акурат пералічаныя персанажы паўстаюць у празаічнай прыпісцы! Яны пісалі маладзёну Станіславу ліст у Менск. І гэта іх згадвае Альгерд Абуховіч у слынных "Мемуарах". Не выключана, што вершы знаходзіліся ў асабістым альбоме Легатовічаў. Сусед Легатовіча — паэт Альгерд Абуховіч мог пакінуць аўтограф свайго "Шоў я ўчора ўночы з Глуска..." на памятку паненцы Мані Легатавічанцы ці яе маме Станіславе.

Супастаўляючы геаграфічныя назовы (Глуск, Зарэчча), імёны аўтараў прыпіскі з імёнамі герояў "Мемуараў" Абуховіча, беручы пад увагу манаграму з літарамі M L — можна смела сцвярджаць: карэспандэнтамі былі паненка Марыля Легатовіч і яе маці Станіслава. Вершы Марыля перапісвала для свайго брата Станіслава.

Для пацвярджэння гіпотэзы застаецца высветліць, ці жыў у 1890-ыя гады ў Менску Станіслаў Легатовіч — унук Караля Нерэзыуша, сын Сымона і Станіславы (з дому Нерэзыуш) Легатовічаў. Сляды яго, рупліва пашукаўшы, могуць знайсціся ў матэрыялах фонду Мінскай шляхецкай зборні Нацыянальнага гістарычнага архіва.

Але гэта — асобны пошук, а значыць, і тэма асобнай гаворкі.

Вялікі гонар — уводзіць невядомыя творы ў літаратурны ўжытак. Але і адказнасць — не меншая. Асабліва, калі адразу спрабуеш высветліць імя верагоднага аўтара, паколькі, несумненна, гэтыя вершы ўвойдуць у будучыя студэнцкія хрэстаматыі, стануць абавязковымі для школьнай праграмы. Таму пытанне аўтарства застаецца прынцыповым. Не выключана, што па часе яно будзе развязана не на карысць Альгерда Абуховіча ці Янкі Лучыны, а нейкага трэцяга, малавядомага паэта (як у выпадку з хрэстаматыйнай паэмай "Тарас на Парнасе").

Але мы дзелімся здагадкай-адкрыццём, назваўшы пэўных асоб, дзякуючы ўлюбёнасці якіх у роднае слова яшчэ цэлыя два творы са скупога беларускага XIX стагоддзя захаваліся для нашчадкаў.

**Ганна ЗАПАРТЫКА,**
**Язэп ЯНУШКЕВІЧ**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4322
Нумар падпісаны ў друк 18.9.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 5666/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12